ГОД IX СТУДЗЕНЬ-КРАСАВІК № 64-65
1955 г.

# БОЖЫМ ШЛЯХАМ

ДВУМЕСЯЧНЫ ЧАСАПІС БЕЛАРУСКАЕ РЭЛІГІЙНАЕ ДУМКІ



ЗВАНІЦА Ў САЛЭЧНІКАХ

**BOŽYM ŠLACHAM**
**(SUR LA VOIE DIVINE)**
BULLETIN RELIGIEUX BIELORUSSIEN BIMESTRIEL
Année IX. № 64-65. Janvier-Avril 1955.
51, rue des Sts-Pères — PARIS · VIe

**Перадплата «Божым Шляхам» на 1955 г.**

| | За адзін нумар | На год |
|---|---|---|
| Францыя | 60 фр. | 350 фр. |
| Англія | 1 ш. 10 пэн. | 8 шыл. |
| Аргэнтына | 2 пэз. | 10 пэз. |
| Аўстралія | 2 ш. | 10 шыл. |
| З. Ш. А. | 20 цэн. | 1 дал. |
| Бэльгія | 8 б. фр. | 50 б. фр. |
| Данія | 1 д. кар. | 6 д. кар. |
| Канада | 20 цэн. | 1 дал. 20 ц. |
| Нямеччына | 80 пф. | 5 н. м. |
| Швэцыя | 1 ш. кар. | 6 ш. кар. |

Грошы слаць на адрасы:

У ФРАНЦЫІ:

**Chèque Postale : Paris c. 6287 44**
**R. P. Horosko Leo. 95, rue de Sèvres, PARIS VI<sup></sup>e.**

У АНГЛІІ:

**Rev. dr. C. Sipovic, Marian House, Holden Avenue, LONDON N. 12.**

У АРГЭНТЫНЕ:

**Asociacion Bielorusa en la Argentina C. Coronel Sayos 2877, Valentin Alsina, Buenos Aires.**

У АЎСТРАЛІІ:

**Mr. Jackievicz Donat, 33, Hope Str., Spotswood-Melbourne, Victoria.**

У БЭЛЬГІІ:

**M. l'Abbé Czerniaŭski François, Michelse 202. LOUVAIN.**

У НЯМЕЧЧЫНЕ:

**Dechant Michael Moskalik. Konto, N° 135259, P. Sch. A. Hannover. in Goslar,**

**КНІЖКІ ДА НАБЫЦЬЦЯ.**

У Беларускіх Каталіцкіх Місіях у Лёндане і Парыжы можна купіць наступныя беларускія кніжкі:

Друя В. — Ты і яна. 250 фр. — 6 шыл.
а. Л. Гарошка — Душа 40 фр. — 1 шыл.
а Л. Гарошка — Паходжаньне чалавека 20 фр. — 10 пэн.
а. Л. Гарошка — Сьв. Еўфрасіня — Прадслава Полацкая 150 фр.— 4 шыл.
Г-і Я. — Казкі № 2 — 30 фр. 15 пэн.
Г-і Я. — Казкі № 3 30 фр. 15 пэн.
Равенскі М. Арсеньева Н. — Магутны Божа. Песня з нотамі. — 5 фр. 3 пэн.
Народная казка — Музыка і чэрці 40 фр. 1 шыл.
Каваль П. — Беларусь у датах, ліках і фактах (друг. выд.) 450 фр. — 13 шыл.
Змагар А. — Случчакі-Апавяданьне—100 фр. 2 ш.
Змагар А. — Рэпка-казка — 30 фр. 15 пэн.
Малітаўнік «Божым шляхам» 80 фр. 2 шыл.
Малітаўнік «Holas Dušy» 200 фр. 5 шыл.
Камплет часапісу «Божым шляхам» за мінулыя гады 2500 фр. — 2 ф. і 10 шыл.
Карта Беларусі — 40 фр. 1 шыл.

**M. Bahdanovic — Weissruthenischer Heimat. Lyrik** — 50 фр. 2 шыл.

Зьвяртацца на адрасы: У Францыі:

**R. P. Horosko** Leo, 95, rue de Sèvres, **Paris VI.**

У Англіі: **Rev. dr. C. Sipovic, Marian House, Holden Avenue, LONDON N. 12.**

У Нямеччыне: **Weissruthenischer Caritasdienst in Deutschland. (20b) Goslar/Harz, Sommerwohlenstrasse 1 A.**

# З беларускае народнае мудрасьці

Каго Бог не адкіне, то знойдзеш і ў мякіне.

Каго Бог стварыў, таго не ўмарыў.

Каго Бог хоча пакараць, таму перш розум адыме.

Кайся, ня кайся; выпусьціў слаўцо — ня вернеш.

Калі-б Бог слухаў пастуха (яго праклёны), то-б з чарады ні нагі не асталося.

Калі Бога малюеш, аб чорту ня думай.

Калі Бог злучыць, чалавек не разлучыць.

Калі Бог не засудзіць, то ліха ня згудзіць.

Калі Бог ня дасьць, то-й людзі не памогуць.

Калі Бог памілуець, то-й чалавека прышлець.

Калі Бог прыстанець, дык і хлеба ня станець.

Калі Бог разгневаецца, то няпрыяцеляў нашле.

Калі Бог што памяркуе, чалавеку пашанцуе.

Калі будзем у Бога годны, ня будзем галодны.

Калі гаспадар у карчме скача, то гаспадыня ўдома плача.

Калі дзіцяці не спаганяеш гразы, то і пашанаваньня, маці, ня жджы.

Калі душа чорная, то-й мылам ня вымыеш.

Калі матка ведзьма, то-й дочка зельле знае.

Кожнаму дразду жаль па сваім гнязду.

Кожнаму свой чарвяк сэрца точыць.

# БОЖЫМ ШЛЯХАМ

Год IX. СТУДЗЕНЬ—КРАСАВІК 1955 г. № 64-65.


# Ратуй сваю душу!

Між ўсімі важнымі справамі, якія ляжаць на сумленьні кожнага чалавека і якія кожны мусіць выканаць асабіста, бязумоўна найважнейшаю справаю ёсьць збаўленьне свае душы. Нажаль у віры дачасных турботаў, у пагоні за куском хлеба, за вопраткаю, памешканьнем і іншымі штодзеннымі патрэбамі, шмат хто зусім забываецца аб сваёй душы. Дзеля гэтага з абавязку любові да бліжняга неабходна часта зьвяртаць увагу на гэтую найважнейшую справу.

Пэўна-ж дачасныя справы і агулам ўсё тое, што зьвязана з падтрыманьнем нашага жыцьця, ёсьць справамі жыцьцёва важнымі, аднак яны нічуць не апраўдваюць занядбаньня турботаў аб найважнейшым — аб сваёй душы, бо нічога ня можа дараўняць яе вартасьці. Хрыстос на пачатку свае публічнае дзейнасьці зьвярнуў увагу на гэта з асаблівым націскам: «Ня турбуйцеся аб душы (у знаэчньні дачаснага жыцьця) вашай, што будзеце есьці, ані аб целе вашым, у вошта адзецца. Ці-ж душа не важнейшая за ежу, а цела за адзежу? Паглядзеце на птушак нябесных, што ня сеюць, ня жнуць і ня зьбіраюць у сьвірны, і Айцец ваш нябесны корміць іх. Ці-ж вы ня шмат больш вартыя за іх? Дый хто з вас сваею турботаю можа дадаць сабе росту хоць на адзін локаць? І аб адзеньні чаго турбуецеся? Гляньце на палявыя лілеі, як яны растуць; не працуюць, не прадуць; а Я кажу вам, што і Салямон ува ўсёй сваёй славе не апранаўся так, як адна з іх. Калі-ж палявую траву, якая сёньня ёсьць, а заўтра кідаецца ў печ, Бог так адзявае, дык колькі-ж больш вас малаверныя? Дык ня турбуйцеся кажучы: «што будзем піць, ці ў вошта будзем адзявацца»? Бо ўсяго гэтага шукаюць пагане. Дый Айцец ваш нябесны ведае, што ўсё гэтае вам патрэбна. Дык шукайце перш валадарства Божага і праўды Яго, а тое ўсё дадасца вам» (Мат. VI, 25-33).

Бог дае кожнаму чалавеку больш ці менш дачасных добраў, дае так-жа нямала надпрыродных ласкаў, але душу дае кожнаму толькі адну і толькі адзін раз; калі яе нехта запрапасьціць — страціць ўсё, бо няма ніякіх скарбаў на ўсім сьвеце, за якія можна было-б адкупіць страчаную душу. Хрыстос казаў аб гэтым: «Бо якая-ж карысьць чалавеку, калі-б ён здабыў увесь сьвет, а душы сваёй пашкодзіў? Або што дасьць чалавек узамен за душу сваю»? (Мат. XVI, 26).

Маючы такі скарб, неабходна ўсьведаміць ягоную вартасьць, каб належна яго сьцерагчы. Праўда мы, людзі, зьвязаныя недасканаласьцю нашага розуму і дзеля ягонае пазнавальнае слабасьці недастаткова можам уявіць сабе поўную вартасьць нашае душы — тае Божае іскры, якую носім у сабе. Затое вельмі павучальнымі ёсьць адносіны Бога да людзкое душы. Гэта для яе Ён быў стварыў рай, а калі прабацькі праз свой грэх былі выгнаны адтуль, дык у сваім часе для збаўленьня людзкое душы другая Божая асоба — Бог-Слова зыйшоў на зямлю, уцелавіўся для збаўленьня людзтва. І Богачалавек — Ісус Хрыстос дзеля гэтага працярпеў ганебныя мукі, страшэнную сьмерць на крыжы, каб гэткім чынам выслужыць для людзкіх душаў нявычарпальную крыніцу збаўчых, асьвячаючых ласкаў. Няма на сьвеце больш нічога такога, што--б сам Валадар Сусьвету ацаніў так высока, як людзкую душу.

Сьведамасьць такое вартасьці і годнасьці нашае душы можа даць непахісную моц у абароне душы. Падчас баксэрскага паўстаньня ў Кітаі ў 1900 г. выбухла прасьледаваньне хрысьціян. І вось да аднаго мандарына (высокі кітайскі ўрадовец) баксэры прывялі васемнаццацігадовага юнака Паўла Мая, каб ён або адрокся свае веры перад мандарынам, або атрымаў сьмяротны прысуд. Мандарын з першага пагляду ўпадабаў юнака і хацеў яго выратаваць ад сьмерці, дзеля гэтага пасуліў яму штабу серабра, калі толькі дабравольна адрачэцца свае веры. Юнак акдазаў, што яму сярэбраная штаба ня выстарчае. «Дык

**УВАГА!**

**Гэты нумар часапісу выходзіць з вельмі вялікім апазьненьнем дзеля хваробы рэдактара і дзеля ішых незалежных ад рэдакцыі прычынаў. Дзеля гэтага і некалькі наступных нумароў выйдзе з апазьненьнем.**

**Рэдакцыя**

я табе дам залатую штабу» — налягаў мандарын. «Гэтага так-жа замала». Зьдзіўлены і загневаны мандарын спытаўся: «Дык колькі-ж ты ўласьціва хочаш, малады чалавеча?» «Вялікі мандарын — казаў спакойна юнак — калі ты хочаш, каб я адрокся мае веры, дык мусіш мне даць толькі, каб я мог купіць сабе другую душу, інакш я ніколі не адракуся ад мае веры». Некалькі дзён потым прыбыў у небе яшчэ адзін мучанік за веру.

Пэўна-ж на такі гэройскі ўчынак здольная моцная і непахісная вера, але на вялікі жаль яе ня кожны мае. Бяда для людзей, што мы нашы надпрыродныя скарбы носім у гліняных судзінах нашага цела, як кажа апостал Павал (2. Кар. IV. 7.). Але і ў гэтым ёсьць плян Божы, бо як кажа той-жа апостал, праз нашу слабасьць ныяўляецца вышэйшасьць сілы Божае. Ведаючы людзкія слабасьці Богачалавек устаннавіў сьвятыя Таемствы, у якіх нават найбольшы грэшнік можа атрымаць дараваньне сваіх грахоў, знайсьці ўмацаваньне свае веры і агулам усё тое, што патрэбнае для збаўленьня душы. Гэткім чынам цяпер ніхто ня мае ніякае падставы наракаць на цяжкасьці ў збаўленьні свае душы, трэба толькі не адкладаючы ні хвіліны карыстаць з тых нявычарпальных крыніцаў Божых ласкаў, якія Хрыстос спэцыяльна з гэтаю мэтаю ўстанавіў і даручыў іх Сваёй Царкве.

Уканцы яшчэ трэба зацеміць, што на старожы так важнае справы, якою ёсьць збаўленьне душы, Бог паставіў у самой-жа душы кожнага чалавека вернага вартаўніка — ім ёсьць сумленьне. І яно кожнаму пры розных нагодах больш або менш голасна прыпамінае: «Ратуй сваю душу!»

Вось-жа для збаўленьня душы ёсьць усе магчымасьці, ёсьць усе патрэбныя сілы і дзейнікі, трэба толькі з іх карыстаць. Справа збаўленьня твае душы ляжыць на тваёй адказнасьці.

**а. Андрэй А.**

# У СПРАВЕ СЬВЯТАРСТВА

Кожная паважная нястача ў грамадзкім і рэлігійным жыцьці народу адчуваецца ў большай або меншай ступені ўсім народам, але бадай што найбольш даймаюча адчуваецца нястача сваіх сьвятароў, бо гэткая нястача мае вельмі далёкасяжныя вынікі.



Прыкладаў гэткае жалюгоднае нястачы далёка шукаць ня трэба. Ведама, што ў ЗДА ёсьць больш 500.000 беларусаў з перадваеннае эміграцыі, але яна амаль уся страчаная для народу з кожнага гледзішча. Горш таго, служыць для ўзмацненьня варожых для Беларусі дзейнікаў. Чаму так сталася? Бо між тымі эмігрантамі не знайшлося ніводнага беларускага сьвятара ні каталіцкага, ні праваслаўнага. Тое-ж сталася з старою беларускаю эміграцыяю ў іншых заакіянскіх краінах.

Між навейшаю беларускаю эміграцыяю знайшлося ўжо некалькі сваіх сьвятароў, але колькі іх?! На залучанай тут фатаграфіі бачым гурток беларускіх каталіцкіх сьвятароў і багасловаў абодвых абрадаў, якія цяпер працуюць на беларускай рэлігійнай ніве ў Зах. Эўропе, ці рыхтуюцца да гэтае працы. Але ці-ж толькі патрэбна на сёньня?! Тымчасам аднак новых кандыдатаў на сьвятароў ня чуваць, хоць з розных краінаў расьсеяньня беларускае эміграцыі дайходзяць весткі аб пякучай патрэбе роднага духавенства. А што гаварыць аб будучыні, калі Бог дазволіць вярнуцца на бацькаўшчыну; якія тады праблемы стануць перад беларускім народам у галіне рэлігійнага жыцьця!?

Сьвецкія дзеячы могуць і сапраўды робяць шмат для народу, але падзяліць народныя турботы і боль, занесьці іх перад аўтар Усявышняга; прыносіць Эўхарыстычную ахвяру за народ; ацаніць і асэнсаваць тыя скарбы, якія ў людзкіх душах родзяць цярпеньні; прынесьці надпрыроднае сьвятло; удзяляць сьвятыя Тайны для збаўленьня душаў — усё гэта могуць рабіць толькі сьвятары. І найбольш годна выконваюць усё гэта тыя сьвятары, якія шчыра любяць сваіх вернікаў, і якія зьвязаны з імі неразрыўнымі вузламі роднасьці.

Сьведамыя такое велічнае дзейнасьці сьвятарства дагэтулешнія акупанты Беларусі ў сваёй руйнацкай дзейнасьці асабліва заўзята нішчылі сьведамых беларускіх сьвятароў.

Можна шмат гаварыць і пісаць на гэтую тэму, але калі гэта будуць толькі нараканьні, з іх

для нас ня будзе ніякае пацехі. Лепш зрабіць у даным выпадку паводля ўсходняе мудрасьці, якая кажа: «Замест наракаць на цемру ночы, лепш запаліць сьвечку». Усьведаміўшы вагу праблемы сьвятарства, спрабуйма пашукаць нейкае рады, хоць-бы яна ў даным выпадку была такою дробнаю, як сьвечка ў цемры ночы, яна будзе мець вялікую карысьць.

Уся сутнасьць праблемы палягае ў тым, што беларускаму народу патрэбны беларускія сьвятары. Ясна, што нам ніхто ня дасьць такіх сьвятароў акрамя нас самых. Беларускія сьвятары могуць і мусяць выйсьці з радоў беларускага народу. Іншыя могуць быць для нас памоцнымі і нават вельмі карыснымі, але толькі на пэўны час, у асноўным-жа сваё сьвятарства дзеля шматлікіх прычынаў незаменнае. Якія-ж ёсьць перашкоды, што гамуюць прырост беларускага сьвятарства?

Шмат дзе здараецца, што юнака, які выкажа жаданьне пасьвяціцца духоўнаму стану, падымаюць на сьмех. І такая насьмешка з найшчырэйшых жаданьняў можа зьнішчыць дазваньня іскру пакліканьня. Іншыя не насьміхаюцца, але вечна вышукваюць у сьвятароў толькі чорныя пляны і на іх паказваюць пальцамі; вельмі прыкра, што найчасьцей шукаюць плямаў там, дзе іх няма. Шмат ёсьць людзей, якія адносна сьвятарства любяць паўтараць: «У нас няма таго, у нас няма гэтага»... Але вось у іх трэба спытацца: Што вы робіце, каб якраз «тое і гэтае» ў нас было? Ці ёсьць хто з вашых блізкіх, з вашых родных сьвятаром, добрым сьвятаром бяз ніякае плямы?

У некаторых сем'ях да гэтага часу быў закарэнены нейкі звычай, што з лягчэйшым сэрцам выпраўлялі дзяцей на вайну, на сьмерць, як у каталіцкую Духоўную Сэмінарыю, хоць ведалі, што яна ёсьць адзіная ўстанова, якая можа давесьці чалавека да таго адзінага ў сьвеце стану, у якім іхны сын зможа працаваць для збаўленьня душ даручаных яму суродзічаў. Калі бацькі будуць ведаць веліч сьвятарскага пакліканьня і калі прынамся на запытаньне дзяцей аб сьвятарскім стане, дадуць ім праўдзівы адказ, гэтым ужо зробяць вельмі шмат для разьвіцьця сьвятарскага пакліканьня, калі яно ў некага ёсьць.

Тут успамінаецца аб сьвятарскім пакліканьні, што гэта такое? Справа ў тым, што сьвятарства ёсьць тым станам, да якога Бог дае чалавеку асаблівую схільнасьць, быццам кліча. Гэта значыць, што ня кожны можа быць сьвятаром. Аднак агульна ведама, што ў кожным народзе Бог дае даволі пакліканьня, але далейшую долю пакліканьня Бог даручае самым людзям. Маючы пакліканьне, яшчэ неабходна шмат працаваць над сваім інтэлектуальным і духовым разьвіцьцём, каб стацца годным атрыманьня сьвятарскага пасьвячаньня. і з сьведамасьцю значэньня кожнага слова магчы сказаць: «Божа, учыні мяне годным прынесьці Табе маімі немачнымі рукамі Найсьвяцейшую Ахвяру і мяне самога прыймі як ахвяру, за даручаных мне вернікаў і за ўвесь беларускі народ». Да гэтага мусяць супрацоўнічаць усе, і самыя кандыдаты і грамадзтва.

Пэўна-ж што нават і гарачую іскру ў душы чалавека можа загасіць дрэннае ўзгадаваньне, згоршуючы прыклад, паганае асяродзьдзе. Дзеля гэтага ўласьціва на нястачу пакліканьня у сапраўдным сэнсе гэтага слова нельга наракаць ,але калі дзе замала зглошваецца кандыдатаў да сьвятарства, трэба наракаць на самых сябе за тое, што замала стараемся аб разьвіцьці пакліканьня.

Да разьвіцьця пакліканьня ў большай або меншай ступені можа прычыніцца кожны. І вось тут ёсьць аграмаднае поле працы для кожнага. Бязумоўна найбольш у гэтым кірунку могуць зрабіць бацькі. Ня менш за іх могуць зрабіць настаўнікі і ўсе тыя, што займаюцца з моладзьдзю. А тыя, што ані сваіх дзяцей ня маюць, ані з моладзьдзю не займаюцца маюць заўсёды нагоду і магчымасьць маліцца за збольшаньне пакліканьня.

Праўда, усё гэта ня ёсьць разьвязкаю сучаснае балючае праблемы нястачы беларускіх сьвятароў, але пры параўнаўча невялікай колькасьці сьведамае беларускае эміграцыі нельга і вымагаць хуткага запаўненьня тае нястачы, якая ўтварылася праз доўтавяковую дзейнасьць варожых сілаў. Мы мусім рабіць прынамся тое, што ў нашых сілах. А няма сумніву, што мы можам стварыць адпаведны грунт, на якім у сваім часе зможа прыгожа закрасаваць беларускае сьвятарства Богу на славу і сваёй бацькаўшчыне на карысьць. Было-б вельмі пажадана, каб быў наладжаны Тыдзень Малітвы за беларускія сьвятарскія пакліканьні.

На цябе, наша моладзь, надзея, што ў хуткай будучыні з тваіх радоў выйдзе даволі ахвярных работнікаў на беларускай рэлігійнай ніве.

**а. Леў**

---

# Яркі абразок мінулага

Яшчэ перад гэтаю вайною мне прыйшлося стрэнуцца ў Заходняй Беларусі з адным вельмі яркім і вельмі характэрным прыкладам з адносна нядаўных рэлігійных падзеяў, што сталіся ў нас у палавіне XIX стаг., які варты таго, каб падаць да ведама і памяці іншым.

У Стаўпеччыне ёсьць засьценак Канкаловічы, які перад тэтаю вайною меў 14 двароў. Усе гаспадары засьценку паходзілі з аднаго роду, усе былі спароднены між сабою і ўсе мелі тое самае прозьвішча — Канкаловіч. Розьніліся яны толькі тым, што дванаццаць Канкаловічаў былі праваслаўнымі, а двох каталікамі.

Калі я запытаўся ў аднаго з малодшых Канкаловічаў, што быў каморнікам, як гэта сталася так, што паходзячы ўсе з аднаго роду, яны розьняцца веравызнаньнем, ён мне расказаў цікавую падзею, якая вельмі характэрная для гісторыі рэлігійных адносінаў на Беларусі.

«Яшчэ якіх сотню гадоў таму — казаў ён — усе Канкаловічы з засьценку былі вуніятамі і хадзілі маліцца ў вуніяцкую царкву. Калі пазьней па загаду цара Вунія была скасаваная і ўсе вуніяты былі прымусова прылучаны да Праваслаўнае Царквы, дык жыхары Канкаловічаў доўга супраціўляліся гэтаму і цьвёрда трымаліся веры сваіх бацькоў.

Гэтая непаслухмянасьць уканцы надаела расейскім царскім чыноўнікам і аднаго разу ў засьценку зьявіўся адзьдзел казакоў і пагнаў усіх жыхароў да суседняга праваслаўнага сьвятара перахрышчваць і перапісваць у праваслаўную «рускую» веру. Ад гэтага ўсьцерагліся толькі двох Канкаловічаў: адзін дзяцюк, які тады ня быў удома, бо ганяў акурат плыты, і другі хлапчук, які са страху перад казакамі схаваўся на грушу. Яны два і асталіся далей пры сваёй веры, але паколькі Вуніяцкая Царква ўжо ня існавала, дык яны прылучыліся да каталіцкага прыходу лацінскага абраду. Вось адтуль дзьве хаты ў засьценку і асталіся каталікамі».

Аб гэтай падзеі малодшаму Канкаловічу пераказваў стары дзед Канкаловіч, акурат той, што калісь будучы хлапцом схаваўся ад казакоў на грушу і які жыў у засьценку яшчэ перад другою сусьветнаю вайною.

**Т. Д.**

# Пад знакам „рускае і польскае веры“

**(Заканчэньне)**

## ЛІКВЫДАЦЫЯ УСХОДНЕКАТАЛІЦКАЕ ЦАРКВЫ

Царская ўлада шмат зрабіла ў тым кірунку, што імёны беларускіх мучанікаў і нават цэлыя вёскі нідзе сёньня не ўспамінаюцца. Аднак ёсьць і такія вёскі, што іхны гэройскі супраціў пранік далёка заграніцу праз усе зялезныя расейскія заслоны. Нажаль дзеля адсутнасьці беларускіх арганізацыйных цэнтраў заграніцаю, імёны беларускіх мучанікаў за веру выкарыстоўвалі палякі для свае рэклямы ў Заходняй Эўропе (119). Шырока ведамымі з свайго гэройскага супраціву былі вёскі: Дзерванёвічы ў Віцебшчыне, Поразава і Кляшчэлі каля Ваўкавыска, Дудаковічы, Селішчы і Сьвяцілавічы на Магілёўшчыне і інш.

Як праводзілася «навяртаньне» гэтых вёсак хай паслужыць прыкладам вёска Дудаковічы. У Вялікі Панядзелак Страснага Тыдня 1844 г. прыехаў у Дудаковічы намесьнік Магілёўскага губэрнатара Энгельгардт з праваслаўным бацюшкам Барэйко пад ахаронаю батальёна пяхоты і паліцыйных агэнтаў, каб завалодаць царквою. Насельніцтва адразу зьбеглася да царквы і агарадзіла яе жывою сьцяною, не адходзячы адтуль дзень і ноч аж да Вялікае Пятніцы. Ніякія пагрозы не лякалі вернікаў. Нарэшце паліцыя надумалася подступам адцягнуць людзей ад царквы; у некалькі мейсцах падпалёна вёску. Людзі кінуліся ратаваць свае хаты і тады паліцыя злавіла 5-х найбольш актыўных вернікаў. Энгельрадт загадаў кожнаму з іх даць па 300 розгаў. Першага пачалі сеч дзеда Лукаша. Пасьля кожнае сотні розгаў яго пыталіся, ці згаджаецца перайсьці на праваславіе і пасьля адмовы прадаўжалі сеч далей. Пасьля экзэкуцыі акрываўленага дзеда Лукаша занесьлі ў келію дамініканскага манастыра. Адчуваючы, што набліжаецца сьмерць, Лукаш заклікаў сваіх дзяцей і ўнукаў, пабагаславіў іх і пабацькаўску заклінаў нізашто ў сьвеце не адступаць ад каталіцкае веры. Праз дзьве гадзіны ён аддаў душу Богу. Разам з дзедам Лукашом быў засечаны на сьмерць Гаспар, іншыя, перацярпеўшы розгі, былі высланы ў манастырскія турмы. Царква сіламоц была аддана праваслаўнаму бацюшку, але да яго ніхто ня прыходзіў ані на багаслужэньне, ані за трэбамі. Такі стан трываў 11 гадоў. Каб зламаць канчаткова супраціў дудакавічан у 1854 г. Магілёўскі губэрнатар асабіста прыехаў у вёску і абвесьціў, што паводля царскага загаду ўсіх тых, хто будзе далей адмаўляцца хадзіць у расейскую царкву, прыгаворана на ссылку ў Сібір (120). Людзі згадзіліся хадзіць у царкву.

Яшчэ горшае змаганьне за веру было ў вёсцы Поразава каля Горадні і цягнулася ад 1834

119. Les Martyrs uniats en Pologne, récits des dernières persecutions russes, publiés d'après des documents originaux par R. P. Dom Theophile Bérengie, Paris 1868, i ins.

120. Les Martyrs... star. 59 — 87;. P. Lescoeur, L'Eglise Catholique en Pologne sous le gouvernement russe, 2-me Ed. T. I. Paris 1876. s. 175 —177:

да 1862 году. У вёсцы Дзерванόвічы на Віцебшчыне вельмі актыўны супраціў трываў да 1858 г. (121). Шмат беларускіх вёсак пасыўна супраціўлялася расейскаму праваслаўю аж да 1867 г. У гэтым годзе адбыўся востры націск на ўсім абшары Беларусі, каб канчаткова выкараніць «упорствующых».

Асобна трэба ўспомніць супраціў беларускіх вуніяцкіх сьвятароў. Перш ужо падаваўся афіцыяльны лік тых, што з усёю рашучасьцю адмовіліся падпісаць акт гатоўнасьці пераходу да праваслаўя, але аб іхняй долі афіцыяльныя расейскія крыніцы маўчаць. Толькі гаворыцца, што 160 чалавек былі сасланы ў манастыры і там быццам у большай колькасьці пакаяліся. З тых 160 паіменна ўспамінаюцца толькі больш ведамыя ў ліку 30 чалавек (122). У сапраўднасьці лік беларускіх сьвятароў, што ня прынялі праваслаўя быў куды большы і ў манастырскіх турмах, яны мучыліся доўгія гады. Яшчэ ў 1856 г. пасьля сьмерці магілёўскага каталіцкага мітр. Галавінскага ў ягоных паперах знойдзена паіменны сьпіс 76 вуніяцкіх сьвятароў, якія яму былі добра ведамы, а якія да таго часу мучыліся ў ссылках. Ўканцы сьпісу было зазначана, што «гэткіх сьвятароў ёсьць шмат больш, але іхныя імёны няведамыя» (123).

Як доўга і колькі мусілі цярпець у турмах усходнекаталіцкія сьвятары за веру можа быць сьведкаю а. Язэп Лянчэўскі; ён сасланы ў 1853 г. у Суздальскі манастыр-турму прасядзеў там 24 гады (124).

Акрамя сасланых было яшчэ нямала вуніяцкіх сьвятароў, якія доўгі час хаваліся па лясох. Мне асабіста апавядаў мой дзед, што ён у сваёй маладосьці сустракаў каля возера Сьвіцязь старэнькага вуніяцкага сьвятара, які там хаваўся.

У акцыі касаваньня Вуніі беларускі народ выразна бачыў, што гэта рабілася з мэтаю русыфікацыі і таму насельніцтва, нават тады, калі сіламоц было змушана прыняць праваслаўе, паўстрымоўвалася ад удзелу ў рэлігійным жыцьці Праваслаўнае Царквы. Мне апавядаў калісь мой старэйшы блізкі родны, які ў сваёй маладосці аднойчы наняўся ў Радзівіла загнаць чараду валоў с-пад Гарадзея на Палесьсе за Пінск, як ён начуючы ў адной вёсцы перад Сёмухаю быў сьведкам такое сцэны. Вясковы стараста вечарам нёс дзесяць калоў і стаўляў іх па чарзе каля дзесяці хат, стукаючы пры гэтым у вакно гукаў да гаспадара: «Заўтра табе чарга йсьці ў царкву!» Гаспадар у хаце незадаволена глядзеў у вакно і нібы сам сабе казаў: «Хоць і пайду ў царкву, але маскоўскаму Богу і губою ня кіўну». Такі пасыўны супраціў, толькі ў іншай форме быў шырока распаўсюджаны на Беларусі. Людзі адчужваліся ад царквы і нават жарстокі Мураўёў ня мог знайсьці рады на гэта. Ён аднойчы пытаўся ў праваслаўных ерархаў, як затрымаць былых вуніятаў у праваславіі. На гэта тагачасны віленскі арх. Макарый (Булгакоў) адказаў: «Таму, што чыноўнікі іх наварочвалі на праваслаўе, дык няхай яны знойдуць спосаб іх ўтрымаць». І тыя знайходзілі спосабы ўтрыманьня, але пры гэтым руйнавалі найсьвяцейшыя пачуцьці, калечылі агулам рэлігійнасьць, гэтым падрыхтоўвалі той грунт, які да сёньняшняга дня выкарыстоўваюць бальшавікі ў сваёй яшчэ больш руйнацкай бязбожнай дзейнасьці.

121. Sprawa Dzierwanowska (O przesladowaniu unitow na Bialorusi i raport rzadowy o tem). «Wiadomosci Polskie» 1859, star. 211, 1860, star. 7.
122. (Theiner A.) Vicissitudes... T. I. star. 250, T. II, star. 330.
123. Adrien Boudou. Op. cit. T. II star. 91.
124. Проф. М. Н. Гернет. История царской тюрьмы. Том 3. Москва 1952, стар. 330.

## АДРАДЖЭНЬНЕ І НОВЫ ЦЯРНІСТЫ ШЛЯХ УСХОДНЕКАТАЛІЦКАЕ ЦАРКВЫ

Пасьля 1839 г., калі подступам і гвалтам была зьнішчана на Беларусі Усходнекаталіцкая Царква, царская расейкая ўлада разгарнула шырокую прапаганду, каб умовіць беларусам, што гэная Царква была для іх чымсьці чужым і страшэнна варожым. Праз доўгія дзесяткі гадоў гэткая прапаганда ня мела посьпеху, але цяпер ужо ў некаторых кругох беларускага грамадзтва яе ўплыў адчуваецца.

Векавыя традыцыі Усходнекаталіцкае Царквы на Беларусі былі глыбокія і моцныя, таму ня гледзячы на прапаганду, ня гледзячы на афіцыяльную прыналежнасць да Праваслаўнае Царквы ў беларускіх народных масах заўсёды аставаліся жывыя сымпатыі да свае старое Царквы, як да чапосьці роднага. Дзеля гэтага калі пачаўся беларускі адраджэнскі рух, ён адразу ўключыў у сваю праграму адраджэньне Усходнекаталіцкае Царквы.

У шматлікіх прапагандовых артыкулах аб так званай новай Вуніі калісь і нават цяпер часта можна прачытаць, быццам гэтая новая вунійная акцыя зьявілася ў выніку польскае дзейнасьці. Гэта з грунту фальшывае цьверджаньне, якое стаіць у крайняй супярэчнасьці з праўдаю. Польскія дзяржаўныя кіраўнікі ад самага пачатку аднаўленьня польскае дзяржаўнасьці рабілі нязьлічаныя перашкоды супраць Усходнекаталіцкае Царквы і страшэнна варожа адносіліся да гэтае Царквы ў Галіцыі на Украіне, а сьледам за тым і на Беларусі. Успомніць хоць-бы такія факты, як арышт Львоўскага мітрапаліта Я. Э. Андрэя Шэптыцкага ў 1919-20 гадох польскімі ўладамі, ліквідацыю Луцкае ўсходнекаталіцкае епархіі ў 1921 г. і безьліч дробных варожых выступленьняў супраць украінскіх сьвятароў.

Праўда польскі ўрад стараўся, каб ягоныя

варожыя выступленьні супраць Усходнекаталіцкае Царквы не пранікалі заграніцу, але іх было зашмат, каб можна было схаваць. Ужо ў 1924 г. францускі навуковец і палітык Пэрно пісаў: «На-жаль рымская палітыка натрапіла на польскі супраціў; для палякаў ня існуюць іншыя каталікі акрамя лацінынікаў; дрэнна абыходзячыся з галіцыйскімі вуніятамі, Варшава нэўтралізуе і кампрамітуе стараньні Апостальскага Пасаду» (125). Да таго прыходзіцца з сумам сьцьвердзіць факт, што гэтая варожасьць да ўсходняга каталіцызму ўсьцяж узрастала і калі на Беларусі распачалася шырэйшая вунійная акцыя, дык некаторая частка польскае прэсы павяла такую варожую кампанію супраць яе, што польскія каталіцкія дзеячы мусілі падняць свой голас у яе абароне, або прынамся шукаць нейкіх злагоднюючых матываў супраць вострых атакаў. Пры гэтай нагодзе шырокаведамы польскі гісторык Галэцкі пісаў: «Трэба прызнаць, што польскія ўпярэджаньні ў гэтай галіне не зьяўляюцца чымсьці новым. Яны закарэнены глыбока і якраз дзеля гэтага такія вострыя, бо маюць за сабою традыцыю шмат стагодзьдзяў», але.... «Атакі на Каталіцкую Царкву, на выдатных прадстаўнікоў польскага біскупства, а перадусім на сам Апостальскі Пасад яшчэ ніколі ня былі такімі гвалтоўнымі, так крыўдзячымі і натаўрованыя такім фанатызмам» (126), як у часе аднаўленьня вунійнае акцыі на Беларусі.

Бязумоўна, калі-б вунійная акцыя была запачаткаваная самымі палякамі, дык атакаў супраць яе напэўна ня было-б, але ўся справа ў тым, што думка аднаўленьня ўсходняга каталіцызму на Беларусі выйшла ня з польскіх а якраз з беларускіх кругоў. Першыя канкрэтныя пляны ў гэтым кірунку зьявіліся ў піянэраў беларускага адраджэнскага руху, у братоў Луцкевічаў, яшчэ ў 1904 г. Тады Іван Луцкевіч, едучы ў Вену на студыі, затрымаўся ў Львове, пазнаёміўся і Львоўскім мітрапалітам Андрэям Шэптыцкім і моцна запрыязьніўся з ім. Яны абодва мелі два вельмі моцныя лучнікі: зацікаўленасьць роднай археалёгіяй і ідэю стварэньня беларускае нацыянальная Царквы і форме Вуніі (127). Гэта ня былі толькі тэарэтычныя меркаваньні. Хутка былі ўложаны шырокія пляны для ажыцьцяўленьня гэтае вялікае ідэі. Карыстаючы з зямельнае рэформы, якую ў тым часе праводзіў у Расеі міністар Сталыпін, было створана Акцыйнае Таварыства, фінансаванае галоўным чынам мітр. Шэптыцкім, якое плянавала купіць на Беларусі некалькі маёнткаў, выслаць туды невялікую групу сялян з Галіцыі, а рэшту распарцэляваць між беларускіх сялянаў і супольна для іх утварыць усходнекаталіцкія парахвіі. Калі ўжо было ўложана шмат грошаў і зроблена шмат стараньняў, польскія абшарнікі даведаліся аб сапраўдных мэтах Парцэляцыйнага Таварыства і сваімі інтрыгамі так уплынулі на Сталыпіна, што ён адмовіўся зацьвердзіць тое Таварыства (128).

Аднак ані мітр. Шэптыцкі, ані беларускія дзеячы не апускалі рукаў пасьля першае няўдачы. Каб лепш плянаваць далейшую працу мітрапаліт у 1907 г. інкогніто адведаў Беларусь і суседнія краіны (129). Пасьля адведзінаў мітр. Шэптыцкага думка аб адраджэньні ўсходняга каталіцызму між беларускіх дзеячоў была так актуальнаю, што ў календарох, якія выдавала рэдакцыя «Нашае Нівы» ў разьдзеле сьвятаў было ўведзена тры рубрыкі для: праваслаўных, рымакаталікоў і грэка-уніятаў. Калі ў 1917 г. Беларуская Хрысціянская Дэмакратычная Злучнасьць укладала сваю праграму, дык пастаноўлена ў 10 параграфе, што: «На Беларусі Хр. Д. Злучнасьць ставіць сабе спэцыяльную мэту: зблізыць усіх каталікоў і праваслаўных, аб'яднаць іх у адной веры з рознымі абрадамі» (130).

Неабходна так-жа ўспомніць, што між беларускімі нашаніўскімі пісьменьнікамі былі шчырыя працаўнікі на ніве адраджэньня ўсходняга каталіцызму. Напрыклад Карусь Каганец (Казімер Кастравіцкі), будучы вельмі пабожным чалавекам, называў сябе вуніятам і маліўся з рукапіснае кніжыцы, у якой былі запісаныя, уложаныя ім самым малітвы на ўсходні лад. У вершы «Наш сымбаль» Каганец кліча змагацца «за родну краіну, звычаі і мову... грудзьмі стаць за веру». Пад вераю ён разумее рэлігійную Вунію. У іншым вершы «Праўда» выразна заклікае беларусаў да аднаўленьня Вуніі (131).

Душою адраджэньня ўсходняга каталіцызму на Беларусі было сьвядамае беларускае каталіцкае духавенства. Першы, хто пасьля касаты Вуніі змог арганізаваць на Беларусі ўсходнекаталіцкае багаслужэньне, быў а. Язэп Белагаловы, калішні прафэсар кананічнага права ў Пецярбурскай Катал. Дух. Акад. потым ад 1918 г. Магілёўскі дэкан. За сваю працу на ніве духовага адраджэньня беларускага народу яго бальшавікі арыштавалі і пратрымалі ў турме 13 месяцаў. Там

125. Maurice Pernot. Le Saint Siège. l'Eglise catholique et la Politique mondiale. Paris 1924. star. 174.

126. Halecki Oskar. U zrodeł polskich uprzedzeń wobec akcji unijnej. «Oriens». Kraków, styczeń-luty 1933. Zesz. I. star. 8-10.

127. А. Луцкевіч, Мітрапаліт Шэптыцкі і беларускі рух. «Богословія», Львів 1926, Том IV, кн. 1-2. стар. 46.

128. А. Луцкевіч, op. cit. стар. 47. op. cit.

129. Дакладней глядзі аб гэтым у «Божым шляхам» Нр. 63, стар. 7, а так-жа: о. Адам Солодух, Митрополит А. Шептицький і уніоністичні змагання на Білій Руси. «Богословія», Львів 1926, Том IV, кн. 1-2, стар. 89-94.

130. Ad. Stankevic. Biełaruski Chryscijanski ruch. Vilnia 1938. («Chryscijanskaja Dumka» Nr. 19 (167). Vilnia 10. VII. 1938, star. 4).

131. Е. Ф. Карскій. Бѣлоруссы. Том III. ч. 3. Варшава 1908, стар. 400.

ён перахварэў сыпны тыф і страціў здароўе, але ня страціў нязломнае волі і шчырае любові да свайго народу. Ягоная беларуская праца стварыла яму шмат ворагаў між польскага духавенства, асабліва пасьля таго як даведаліся, што ён пісаў ліст да Сьвяцейшага Айца, у якім падчыркваў неабходнасьць адсунуць палякаў ад каталіцкае дзейнасьці на Беларусі і Расеі.

Падчас бальшавіцкае рэвалюцыі Магілёўскі мітрапаліт даў а. Белагаловаму асаблівыя паўнамоцтвы. Карыстаючы з іх, ён запрасіў у Магілёў на сьвята сьв. Антонія 13 чэрвеня 1922 г. усходнекаталіцкага расейскага экзарха а. Леаніда Фёдарава, нядаўна назначанага на гэтае становішча мітр. Шэптыцкім. У архівах Беларускага Усходнекаталіцкага Экзархату, дзякуючы нязвычайнаму выпадку, знайшлася копія лісту а. Леаніда да мітр. Шэптыцкага з апісаньнем магілёўскіх урачыстасьцяў — першага ўсходнекаталіцкага багаслужэньня падчас аднаўленьня вунійнае акцыі. Дзеля ягонае асаблівае вартасьці будзе карысна падаць з яго крыху даўжэйшыя вытрымкі: «Мяне (гэта значыць а. Леаніда) сустрэлі ўрачыста, як «вуніяцкага ўладыку» і я служыў дзьве ўрачыстыя Службы Божыя ў самым Магілёве і адну ў мястэчку Сафійск (25 вёрст ад Магілёва), гаварыў шмат з прадстаўнікамі беларускае інтэлігэнцыі і сказаў 4 казаньні. Таму што на 13 чэрвеня прыходзяць у Магілёў з ваколічных вёсак парцэсіі ў чэсьць сьв. Антонія, дык у горадзе назьбіралася каля 12.000 чалавек з харунгамі ды іконамі з 5 сьвятарамі... На багаслужэньнях усюды надчырквалася поўная роўнасьць усходняга і лацінскага абрадаў. Як самы старшы паводля сану і прадат Рымскае Царквы я быў цэнтральнаю фігураю ўва ўсіх урачыстасьцях; падчас лацінскіх багаслужэньняў сядзеў на асобным падвышэньні, багаславіў кадзіла і перада мною сукланялі калена лацінскія сьвятары, калі прасілі багаславеньне перад казаньнем. Зьдзіўленьне народу, бачучы «праваслаўнага папа», акружанага такою павагаю, ня мела граніцаў, але калі справа выясьнілася, дык зьдзіўленьне замянілася надзвычайнаю радасьцю: «Вярнулася Вунія!» — пералятала з вуснаў у вусны і з аднолькаваю радасьцю так у каталікоў як і ў праваслаўных... Калі я служыў урачыстую Службу Божую 18 чэрвеня, на гэты дзень было перанесена сьвята Божага Цела, дык катэдра была так набітая бітком, што людзі ледзьве не задыхаліся і былі амаль самыя праваслаўныя... прысутнічалі так-жа 2 праваслаўных пратаярэі і адзін дыякан... сьпевакі былі так-жа праваслаўныя з славутым праваслаўным рэгэнтам Грайко». Далей апісвае такое-ж велічнае багаслужэньне на Магілёўскім магільніку. Усё гэта на людзей зрабіла такое ўражэньне, што «зацікаўленьне Вуніяю дайшло да таго, што 18 чэрвеня пасьля Службы Божае да меня зьявілася дэлегацыя беларускае праваслаўнае інтэлігэнцыі, падзякавала мне за «службу і за слова» і прасіла ашчасьлівіць іх яшчэ раз сваім прыездам і не забываць, што ўсе прагнуць хутчэйшага аднаўленьня Вуніі. — Адным словам магутнае ўражэньне, аграмадны зрух; шматлікія кажуць, што яны ўжо цяпер зноў сталіся вуніятамі, бо «Вунія вярнулася!»» (132).

Сапраўды зрух быў вялікі. Некалькі каталіцкіх сьвятароў лацінскага абраду выказала сваю згоду прыняць усходні абрад. Нават ведамы ў Магілёве доктар Уладзімер Галынскі выказаў жаданьне стацца ўсходнекаталіцкім сьвятаром. Экзарх абяцаў прыехаць у Магілёў зноў у тым-жа 1922 г. увосень і парабіць далейшыя мерапрыемствы ў распачатай дзейнасьці. Але прасіў, каб перад тым мітрап. Шэптыцкі напісаў у Рым аб неабходнасьці назначыць каталіцкага беларускага біскупа. Харктэрна, што а. Леанід, будучы сам расейцам і ведаючы, як да беларусаў адносяцца польскія каталіцкія дзеячы, у тым-жа лісьце пісаў: «Стараньні здушыць узрастаючы беларускі рух, могуць прывесьці да вельмі сумных вынікаў... Для беларусаў каталікоў, імення, павінен быць свой асобны біскуп з катэдрай у Маскве (!). Але гэта павінен быць ня толькі беларус з паходжаньня, але **з перакананьня**, з сваіх **культурных імкненьняў і бязумоўна павінен прыязна адносіцца да сьв. Вуніі»**. Расейскі каталіцкі экзарх дае такое абгрунтаваньне сваёй думцы: «Мы толькі тады можам спакойна заняцца нашаю місіяю, калі будзем ведаць, што між намі (гэта значыць Расеяю) і Польшчаю будзе стаяць беларуская сьцяна, праз якую не пранікне да нас ніякі польскі «апостал»».

Нажаль усе пляны а. Леаніда Фёдарава хутка былі зьнішчаны. Другі раз адведаць Магілёў ён ужо ня мог, бо быў арыштованы бальшавікамі і больш волі не пабачыў, а ўзмоцнены антырэлігійны наступ унемагчыміў беларускім сьвятаром ня толькі вунійную дзейнасьць ва Усходняй Беларусі, але агулам зьнішчыў каталіцкае рэлігійнае жыцьцё. Там амаль усе беларускія сьвятары заплацілі жыцьцём за вернасьць сваім рэлігійным ідэалам.

Калі ўжо йшла бальшавіцкая руйнацкая работа, Апостальскі Пасад на прапазыку мітр. Шэптыцкага ў 1923 г. афіцыяльна аднавіў Менскую ўсходнекаталіцкую епархію, робячы аб гэтым адпаведную зацемку ў сваіх Гадавіках (133) аж да 1929 г., калі было зазначана, што яна больш ня існуе. Нажаль дзеля ўсьцяж узрастаючае хвалі антырэлігійнага прасьледаваньня гэтая епархія ніколі ня была абсаджана.

---

132. Архіў Беларускага Усходнекаталіцкага Экзархату. Ліст а. Фёдарава да Я. Э. мітр. А. Шэптыцкага з 27. VI. 1922 г.

**133. Annuario Pontificio per l'anno 1923. Roma 1923, star. 173; E. C. Annuaire Pontifical catholique XXVI Anné. Paris 1923, star. 278. I nast.**

У заходняй Беларусі вунійная акцыя так-жа пачалася з няпольскага асяродзьдзя і дзеля гэтага адразу знайшлася перад цяжкаю праблемаю юрысдыкцыі, у якую ўмяшаліся палякі. Спроба Львоўскага мітр. Я. Э. Андрэя Шэптыцкага ўтварыць усходнекаталіцкую епархію ў Луцку на чале з Я. Э. Юсіфам Боцянам, які меў вельмі вунійную акцыю на Украіне і Беларусі, скончылася неспадзевана сумна. Я. Э. Боцян быў хіратанізаваны на япіскапа мітр. Шэптыцкім тайна ў 1914 г. у Кіяве. Сваю працу ён распачаў так-жа тайна і зімою ў 1917 г. прыязджаў на Беларусь; адведаў Вільню, Жыровічы, Слонім, Наваградак і іншыя гарады; навязаў кантакт з беларускімі сьвятарамі; прынагадна прамаўляў да народу пабеларуску (134). І хоць у тым-жа 1917 г. папа прызнаў Я. Э. Боцяна Луцкім япіскапам (135) аднак польскі ўрад і польская ерархія паставіліся так варожа да новае ўсходнекаталіцкае епархіі, што нават прызнаны папаю япіскап ня змог ніколі заняць свайго пасаду. У 1921 г. Я. Э. Боцян памёр і Луцкая епархія была зьліквідована.

Супрацівіўшыся ўсходнекаталіцкаму япіскапу польскія ерархі зусім пасьлядоўна, але яшчэ больш рашуча супраціўляліся дапушчэньню ў іхныя дыяцэзіі усходнекаталіцкіх сьвятароў з Галіцыі. Дакумантальную вартасьць з гэтага гледзішча мае адзін ліст з Любліна, у якім даслаўна гаворыцца, што сьвятары з Львоўскае і Пярэмыскае епархіяў «мусілі адыйсьці з абшару Люблінскае дыяцэзіі ў выніку інтэрпэляцыі нашага (гэта значыць Люблінскага) каталіцкага біскупа, калі пераканаліся, што хацелі выконваць тут функцыі iure caduco бяз легальнае юрысдыкцыі» (136). Выразьней кажучы, каталіцкі польскі біскуп ня даў юрысдыкцыі для каталіцкае працы на абшары свае дыяцэзіі.

У тым-жа часе ў польскіх дзяржаўных кругох вялася вострая кампанія супраць Усходнекаталіцкае Царквы агулам. Шмат дакумантальнага матэрыялу датычна гэтага пытаньня апублікаваў а. Скрутэнь. Там у адным лісьце з Любліна чытаем, што польскія дзеячы: «Мала вераць, каб было магчыма вярнуць Вунію. У гэтым ня бачаць карысьці для рэлігіі, а з палітычнага боку ў ёй бачаць небяспеку... Вунія ў нас зусім ня мае рацыі існаваньня і не ляжыць у нічыім інтарэсе, ані каталікоў, ані ўраду. Скажу больш: на выпадак стварэньня Вуніі, яна была-б шкоднаю для нашае (Каталіцкае) Царквы, бо служыла-б разбуральным дзейнікам для мэтаў рэлігійнае і палітычнае прапаганды, так як гэта на няшчасьце дзеяцца ў Галіцыі з Русінамі, якія сталіся забаўкаю палітычнае агітацыі ў руках спрытных агітатараў. Дзеля гэтага ў нас зусім не жадаюць Вуніі, яе ўважалі-б за згубную» (137). На прыкладзе украінскага ўсходняга каталіцызму палякі даказвалі, што «Вунія стварыла народ» (138), дзеля гэтага «усё што рабілася ў Рыме ў зьвязку з усходнім абрадам, палякі асуджвалі і выступалі даволі востра» сьцьвярджае нават вельмі няпрыхільны да ўсходняга каталіцызму Ніколаеў (139).

Аднак не зважаючы на польскі супраціў рух аб'еднаньня Цэркваў пачаў шырыцца ў Заходняй Беларусі з нізоў і на вялікі жаль, ня маючы іншага выхаду, дзеля адсутнасьці ўсходнекаталіцкае ерархіі, трапіў пад ўладу польскіх каталіцкіх біскупаў, як адзіных каталіцкіх ерархаў на гэтых абшарах. Сталася гэта у 1923 г. калі дэлегацыі некаторых беларускіх праваслаўных парахвіяў зьвярнуліся да мяйсцовых каталіцкіх біскупаў лацінскага абраду з просьбаю прыслаць ім каталіцкіх сьвятароў ўсходняга абраду. Пачаліся экспэрымэнты з даборам кадраў духавенства і іх разьмеркаваньнем. Экспэрымэнты вельмі часта былі няўдалыя, а часам нават кампрамітуючыя самую акцыю. З новапрынятых праваслаўных сьвятароў большая частка апостазіравала, а тыя што аставаліся найчасьцей чамусьці, калі былі беларусамі, дык пасылаліся ў украінскія парахвіі, а украінцы ў беларускія. Параўнаўча прыхільна былі настроеныя да ўсходняга каталіцызму Пінскі біскуп Я. Э. Жыгімонт Лазінскі і Падляскі біскух Я. Э. Гэнрык Пшэзьдзецкі дык у іх дыяцэзіях лік усходнекаталіцкіх парахвіяў паволі ўзраставў, але адначасна ўзрастала варожасьць польскага ўраду да гэтае акцыі. Шматлікія польскія газэты і часапісы часта публікавалі розныя артыкулы супраць Усходнекаталіцкае Царквы і пры тым няраз гэта рабілася такім тонам, які пераходзіў усякія межы прызваітасьці (140).

У 1923 г. зьявіліся на Беларусі ў Альбэртыне каля Слоніма айцы езуіты ўсходняга абраду. Праз некаторы час на іх польская і расейская прэса скіравала вельмі напасьлівыя атакі. Атакі прэсы суправаджаліся актыўнымі мерапрыемства-

134. о. Адам Солодух, Митрополит А. Шептицький і уніоністичні змагання на Білій Руси. «Богословія», Львів 1926. Том IV. кн. 1-2. стар. 92.

135. «Нива». Львів 1926. стар. 370; О. Купранець, Перші роки Православної Церкви в новій Польщі. «Логос» Т. IV, Кн. 2, стар. 119.

136. о. Й. Скрутень. Без маски!, «Нива», Львів 1923, ст. 210. паводля о. О. Купранець, Перші роки Православної Церкви в новій польщі. «Логос» Йорктон 1953, Том. IV, кн. 2, ст. 121.

137. о. Й. Скрутень, op. cit. стар. 172. op. cit.

138. Nowe formy unji kościelnej w Polsce. Słonim 1932. star. 32. 63.

139. К. Н. Николаев, Восточный обряд. Париж 1950, стар. 187.

140. Найбольш ваяўнічая супрацьвунійнаю паставаю вызначаліся: «Dziennik Wileński». «Słowo», «Ilustrowany Kurjer Codzienny». «Warszawski Dziennik Narodowy». «Kurjer Poranny». «Goniec Warszawski». «Polska Wschodnia», «Dzień dobry», «Kurjer Nowogródzki». «Gazeta Kościelna», i ins.

мі польскага ўраду. У 1925 г. быў выселены з Польшчы супэрыёр Альбэртынскага манастыра а. Карло-Васіль Буржуа, у 1933 г. а. Філіп дэ Рэжі, яны абодва як францускія грамадзяне не атрымалі прадоўжаньня візаў. Супэрыёрам Альбэртынскага манастыра быў назначаны паляк а. Ул. Піёнткевіч, але ад гэтага напады ня зьменшыліся, бо айцы езуіты хоць і не азначаліся вялікаю прыхільнасьцю для беларусаў, але і ня былі ворагамі, наадварот хоць часткава карысталіся беларускаю моваю ў сваёй душпастырскай дзейнасьці, выдавалі часапіс пабеларуску «Да Злучэньня», а ў прыналежным да манастыра сірацінцы дык і зусім панавала беларуская мова і беларускія сьпевы. Праўда гэтая толькі «частковаць» беларускасьці ў душпастырскай працы, раздражняючы палякаў, далёка не здавальняла беларусаў (141). аднак знайходзіла абаронцаў (142) нават у радох беларускае інтэлігэнцыі.

Каб уявіць сабе поўнасьцю, да якое ступені польскія дзеячы былі варожа настроеныя да Усходняга каталіцызму на Беларусі, трэба было-б пераглянуць некаторыя палемічныя творы, якія публікаваліся на гэтую тэму ў польскім нацыяналістычным асяродзьдзі. Нажаль на эміграцыі знайсьці іх вельмі цяжка. Віленская газета Słowo на працягу шасьці гадоў (1926-1931) апублікавала 62 артыкулы і ўважала іх на толькі важнымі, што выдала потым асобнаю кніжкаю. Там асаблівы націск кладзецца на небясьпеку вунійнае акцыі — «яна можа давесьці да ўтраты ўсходніх земляў» (143). Самая акцыя еб'еднаньня Цэркваў зусім траціцца з поля зору, ужываецца толькі слова «вунія» і прыдаецца яму нейкі агідлівы сэнс, самую вунійную акцыю пачынаюць абзываць супрацьпольскаю дэманстрацыяю (144). Найбольш вострая атака йшла з урадовых кругоў. Граф Гэнрык Любенскі, супрацоўнік міністра замежных спраў Бэка, апублікаваў у 1932 г. на толькі варожую да ўсходняга каталіцызму кнігу (145), што Варшаўскі кардынал Я. Эм. Какоўскі 4. X. 1932 паставіў яе на індэкс забароных кнігаў, але праз гэта яшчэ больш ажывілася дыскусія аб самай вунійнай дзейнасьці і аб кніжцы Любенскага (146).

На якім узроўні вялася супраць-ўсходнекаталіцкая, а пры тым і супрацьбеларуская палеміка, можа служыць кніжка кс. каноніка Бародзіча. Ён між іншым піша такія «мудрасьці»: «Калі ўваскросла Польшча, немцы ламалі сабе галаву, як убіць Польшчы такі клін, каб яе рашчапіць. І знайшлі. Змаглі ўплынуць на Рым і асабліва на Летуву, каб на крэсах Польшчы завесьці расейскую Вунію. Прыхільнікам такое Вуніі зьявіўся Я. Э. біскуп Матулевіч, каторы з гэтаю мэтаю перацягнуў над Дзьвіну сьвятароў, ведамых з русыфікатарскае агітацыі і шавіністаў, што жадаюць выгнаць польскасьць з нашых крэсаў. Асабліва на гэтым полі адзначыліся: кс. Ільдэфонс Бобіч — Міёрскі дэкан, Зенкевіч Антон — Глыбоцкі дэкан, Станкевіч Адам — пасол на сэйм у Вільні, Гадлеўскі Вінцэсь з Жодзішкаў, Шутовіч Віктар у Барадзенічах і інш. Усе яны сканцэтравалі сваю пераваротную акцыю ў манастыры айцоў Марыянаў пад провадам супэрыёра Андрэя Цікоты. Гэтыя сьвятары не баяліся супрацоўнічаць з славутымі кіраўнікамі грамадоўцаў, пасламі: Мятлою, Тарашкевічам і Рак-Міхайлоўскім. Яны залажылі рэдакцыю «Беларускае крыніцы» і інш. Ператлумачылі і выдалі шмат кніжак для народу, асабліва Бобіч, Зенкевіч і Станкевіч; залажылі пры манастыры Марыянаў у Друі польскую гімназію імені «караля Сьцяпана Батуры» — і ўся гэтая «супалка» пачала польскі народ навяртаць на «беларусаў» і на вуніяцкі абрад...»

«Я адведаў майго калегу кс. каноніка Любянца. Той раіў і настойваў, каб я «супрацьдзеяў бальшавіцкай рабоце манастыра», каб збудаваў у Друі другі касьцёл, дзе-б мог каталіцкі сьвятар абслугоўваць усіх верных бяз вынятку» (147). Тут што ні сказ, дык недарэчнасьць, але наагул гэткая пісаніна была знакам часу.

Гаворачы аб нападах палякаў супраць Усходнекаталіцкае Царквы ў імя праўды неабходна засьцерагчыся, што была так-жа частка польскага духавенства, якая так з рэлігійных як і з патрыятычных матываў выступала ў абароне і самой аб'яднаўчай дзейнасьці і Усходнекаталіцкай Царквы. Хоць іх было няшмат, але аб іх чамусьці расейкая прэса шырока расьпісвалася, відавочна дзеля таго, каб магчы самую акцыю назваць польскаю, хоць самыя-ж такія дзеячы даюць нязьлічаныя аргументы, як далёкаю была іхняя дзейнасьць ад палянізацыі. На першай Вунійнай Канфэрэнцыі ў Пінску а. ігумэн Ул. Піёнткевіч супэрыёр Альбэртынскага манастыра айцоў езуітаў казаў: «Памыляюцца тыя, хто бачаць у нас тых, што хочуць аблягчыць лятынізацыю і палянізацыю ўсходніх народаў. Будучыня народаў у Божых руках, але калі-б нават Польшчы было дана свабодна паглынуць народы, дык хай яна гэтага ня робіць, дзеля таго, што ўсёроўна не ператравіць, а толькі атрымае шмат ранаў, як

141. Вясковец, Пункты ў справе рэлігійнае уніі. «Беларуская Крыніца», Вілня 29. X. 1931, Нр. 34.

142. І. К., Аб Уніі і Езуітах. «Беларускі Календар» на 1932 г.», Вільня 1932, стар. 40-50.

143. Nowe formy unji kościelnej w Polsce. Słonim 1932. star. 63, 86.

144. Wiktor Piotrowicz, Unija czy demonstracyja. Wilno 1931.

145. Henryk-Ignacy Lubienski. Droga Rzymu na Wschód przez Polskę. Warszawa 1932.

146. Dyskusja presowa wokół książki «Droga na Wschód Rzymu», Warszawa 1933.

147. X. kan. J. Borodicz. Kresy Polskie w niebieśpieczeństwie. Dalszy ciąg pamiętników «Na wozie i pod wozem», Wilno (1930). star. 28, 58.

гэта было ў мінулым. Ідзём у імя сьвятое любові — і тады зарубцуюцца раны і спыняцца непаразумленьні, бо што было калісьці, таму няма мейсца сёньня» (148). Адзываліся нават моцныя галасы абурэньня на нападаючых. Так Я. Э. архіб. Манькоўскі апублікаваў пару артыкулаў у «Орыенсе» ў якіх стараецца выказаць бязглузднасьць варожых вуступленьняў палякаў супраць усходняга каталіцызму, выступленьняў якія да гэтага часу вяліся расейцамі і дзеля гэтага ўсклікває: «Неверагоднае зьявішча: з іншых матываў і дзеля іншае мэты, але кіруюцца ўканцы да таго самага выніку тыя (палякі), што йдуць быццам сьлядамі Кацярыны, Мікалая, Аляксандра (расейскіх цароў), ня хочуць даць жыць Вуніі на польскіх землях. Угробілі яе і пахавалі расейцы, а сёньня знайшліся палякі, якія жадалі-б недапусьціць да таго, каб быў адвалены магільны камень» (149).

Некалькі разоў уздыймаў свой голас у абароне ўсходняга каталіцызму, успамінаны ўжо перш, Падляскі біскуп Я. Э. Пшэздзецкі. У 1932 г. ён выдаў спэцыяльны пастырскі ліст аб вунійнай працы, у якім з націскам паўтараў словы папы Пія XI: «Той не каталік, хто выступае супраць каталіцызму ўсходняга абраду» (150). Найбольш спагадна да вунійнае акцыі адносіўся Пінскі біск. Я. Э. Лазінскі, але ён у 1932 г. памёр і на яго мейсца быў назначаны Я. Э. Казімер Букраба. Ад таго часу ў Пінскай дыяцэзіі больш не адчынена ніводнае ўсходнекаталіцкае парахвіі. Новы біскуп быў прыяцелем палескага ваяводы Костэк-Бэрнацкага, з іменем якога зьнязаны польскі канцэнтрацыйны лягэр у Бярозе-Картускай. Наагул лік палякаў абаронцаў ўсходняга каталіцызму з бегам часу ня збольшваўся а зьменшваўся.

Калі дыскусія навокал новае вунійнае акцыі ўсё больш і больш завастралася, забраў голас у гэтай справе Віленскім мітр. Я. Э. Ялбжыкоўскі, бо-ж юрыдычна абшар гэтае акцыі належаў да яго. У 1933 г. ён выдаў пастырскі ліст, у якім побач афіцыяльных заяваў каталіцкага ерарха гаварылася: «Будучы біскупам, я не перастаў быць палякам. І вось-жа з усёю сьведамасьцю адказнасьці за кожнае слова адважваюся заявіць і як біскуп і як паляк, што вунійная праца не зьяўляецца шкоднаю ні для польскае дзяржавы, ні для сьвятое Царквы» (151). Нажаль, як убачым ніжэй, ягоныя ўчынкі далёка разьміналіся з словамі.

На абшары Віленскае дыяцэзіі а. Васіль Гапановіч быў сабраў ад 22 праваслаўных сьвятароў і прыходаў заявы з жаданьнем перайсьці ў каталіцызм, захоўваючы свой усходні абрад; мітр. Ялбжыкоўскі ня толькі што іх ня прыняў, але на дадатак і самога а. Гапановіча перанёс з Вільні ў далёкую правінцыю, каб больш місіянэрскаю працаю не займаўся. Калі аўтар гэтых радкоў у 1933 г., тады яшчэ як студэнт багасловіі, зьявіўся да Я. Э. Ялбжыкоўскага з просьбаю інкардынавацца ў Віленскай дыяцэзіі, дык мітрапаліт катэгарычна адмовіўся прыняць, кажучы, што мае ў Дубне 2-х багасловаў і больш не патрабуе.

Наагул пасьля 1932 г. калі яшчэ з паасобных парахвіяў прысылаліся заявы заснаваць усходнекаталіцкую парахвію, дык туды высылаліся польскія лацінскія сьвятары з мэтаю намовіць верніkaў адразу перайсьці ў лацінскі абрад. Так было ў Возьніцы Пінскае дыяцэзіі. На гэткія прапановы звычайна вернікі адказвалі адмоўна. Але потым, як у «місійную» дзейнасьць умяшаліся афіцэры Корпусу Ахароны Прыгранічча дык толькі ў самой Віленскай дыяцэзіі, як кажа віленскі пралат Мэйштовіч: «паводля пэўных даных лік праваслаўных, што за дваццаць гадоў перайшлі ў каталіцызм (пераважна лацінскага абраду) быў 60.000, а ўва ўсёй Польшчы 200.000» (152).

У далейшым выступленьні польскае адміністрацыі супраць усходняга каталіцызму пачалі прымаць усё больш і больш вострыя формы, і таму, што гэта адбывалася паводля загадаў згары, дык аб шматлікіх фактах у прэсе не зьявілася ніякіх вестак.

У вёсцы Угрынічах на Палесьсі каля 1936 г. загадам адміністрацыйных уладаў зачынена парахвіяльную ўсходнекаталіцкую царкву. Айцы капуцыны з Любяшова, якія абслугоўвалі гэтую царкву пробавалі пасьля гэтага ўладзіць якую тымчасовую капліцу ў прыватным доме, але калі які гаспадар на гэта згаджаўся, паліцыя абкладала гаспадара рознымі карамі. Кары на нейкі час спыніліся, калі куплена для сясьцёр Найсьвяцейшага Ісусавага Сэрца, якія там працавалі, асобны дом і ў ім наладжана капліцу. Але затое розныя прыдзіркі адміністрацыі да сясьцёр сталіся такімі нахабнымі, што супэр'ёрка Ганна Булейн, будучы сама полькаю, нараз казала аўтару гэтых радкоў: «Я ня ведаю, дзе я жыву, ці ў каталіцкай Польшчы, ці ў бязбожнай Расеі!»

Галяндзкія айцы капуцыны ўсходняга абраду, асяліўшыся ў Любяшове на Палесьсі маглі-б напісаць цэлую гісторыю свайго цярпеньня ад поль-

---

148. Pamiętnik I-ej Konferencji kapłańskiej w elaoin elaoin elaoi elaoin elaoin elaoin elaoin eloinelo sprawie unji kościelnej w Pinsku. Pinsk 1931, star. 122.

149. Arcyb. P. Mańkowski. Dookoła akcji unijnej «Oriens», Kraków 1933, Zecz. I., star. 3.

150. O pracy unijnej w Polsce. List pasterski J. E. ks. dr. Henryka Przezdzieckiego Biskupa Podlaskiego. Warszawa 1932.

151. Пастырскі ліст Я. Э. Арх. Віленскага Рамуальда Ялбжыкоўскага аб унійнай працы. «Да злучэньня», Нр. 4(16) Вільня-Альбэртын 1933.

152. Mgr. Valérin Meysztowicz. L'Eglise catholique en Pologne entre les deux guerres. Cité du Vatican 1944, star. 69.

скае адміністрацыі. Супэрыёра манастыра а. Кірыла з Тэрнэзія спачатку шыканована рознымі фармальнасьцямі падчас ягоных падарожжаў, а потым зусім выселена з Любяшова. Малую сэмінарыю айцоў капуцынаў выкінена з Любяшова; яе перанесена ў Ломжу і там для беларусаў яна сталася няведамаю. Усходнекаталіцкаму параху ў мястэчка Гародна на Палесьсі за адзін 1937 г. панапісвана розных адміністратыўных караў па 5 і па 10 злотых на агульную суму 200 зл. Выкладаць рэлігію іншаю моваю акрамя польскае на Палесьсі было забаронена; беларускія ўсходнекаталіцкія сьвятары гэтаму загаду не падпарадкаваліся, дзеля гэтага ім было забаронена навучаць у школах, а калі некаторыя сьвятары стараліся зьбіраць дзяцей для навукі рэлігіі ў цэрквах, ці капліцах пасьля школьных заняткаў, дык дырэктары школ, даведаўшыся аб гэтым, у назначаны дзень пакідалі частку дзяцей у школе быццам за нейкую кару, а іншых дзяцей пробавала адстрашыць паліцыя, зьяўляючыся на дарозе ў баявой гатоўнасьці — так было ў 1938 г. у Гародне.

Такіх і падобных фактаў немагчыма нават усіх пералічыць, бо акрамя адміністрацыйных караў яшчэ страшэнна гнобіла маральная атмасфэра розных пагрозаў. Напрыклад палескі ваявода Костэк-Бэрнацкі насіў пры сабе прыміцыйны абразок аднаго з беларускіх сьвятароў, з беларускім напісам, быццам доказ нейкае страшэннае злачыннасьці і пры гэтым публічна пагражаў, што яго давядзе да шыбеніцы разам з іншым беларускім сьвятаром, які будучы лацінскага абраду адважыўся вымагаць у павятовага старысты, каб у дакумантах быць запісаны як беларус. А Пінскі біскуп замест абароны сваіх сьвятароў толькі паціскаў плячыма. Калі я папрасіў афіцыяльнага дазволу напісаць аб усіх гэтых і іншых фактах нунцыю ў Варшаву, дык пагразіў мне карамі. Праўда, раздумаўшыся кару зразу-ж адклікаў, але дадаў, што біскупу нунцый паверыць лепей, як звычайнаму сьвятару.

Прыдзірлівасьць польскае адміністрацыі да ўсходнекаталіцкіх сьвятароў і парахвіяў мела на мэце зьнеахвоціць да ўсякае дзейнасьці і праз гэта давесьці парахвіі на ўпадку, але сваею нахабнасьцю гэтыя прыдзіркі выклікалі агульнае абурэньне. Уканцы нават былыя ворагі ўсходняга каталіцызму пачалі ня толькі гаварыць, але і пісаць аб скандальных паводзінах адміністрацыі. Напрыклад Язэп Мацкевіч пісаў у віленскім Słowie: «У вёсцы Колкі айцы Студыты хацелі пабудаваць вуніяцкую царкву. Купілі дрэва, зьвезьлі матэрыял. Мінае ўжо чацьвёрты год як дрэва гніе, матэрыял нішчыцца. Усякія захады ў Берасьці, у Століне, нават у міністрэрстве астаюцца папросту без адказу. Бедныя айцы толькі скардзяцца, а прызнаюся, што іх скаргі маюць пераконваючую моц. І навакольнае насельніцтва бачыць, якая дзеяцца несправядлівасьць».

«Халера бярэ! Што за чартоўская палітыка! Адною рукою даваць, другою адбіраць, а абедзьвюмя муціць і дражніць. Што за сэнс?! Альбо айцы Студыты ў Марылінскіх Хутарох робяць шкодную дзейнасьць — тады няма нічога лягчэйшага, як... высадзіць іх адтуль і будзе супакой. Альбо ўважаецца, што закіды, скіраваныя супраць іх, ёсьць фальшывыя, тады ніхто ня мае права зьдзекавацца з іх, праз чатыры гады не адказваць на запытаньні, наражаючы праз гэта на матэрыяльная страты. Але не! Якраз выбіраецца спосаб найменш кансэквэнтны, найбольш раздражняючы, які ўводзіць фэрмэнт» (153).

У траўні 1937 г. Апостальскі Пасад выдаў новую інструкцыю аб праводжаньні ўсходнекаталіцкае працы. У ёй між іншым быў пункт, які казаў аб неабходнасьці карыстацца ў працы моваю таго народу, у асяродзьдзі якога яна вядзецца. На старонках польскае нацыяналістычнае прэсы і так моцныя атакі супраць усходняга каталіцызму, набралі новае сілы і заўзятасьці. Ведамы езуіт а. Урбан сэнс тых атакаў коратка схарактэрызаваў так: «Ад Каталіцкае Царквы жадаецца зрады яе пасланьніцтва... Рэлігія на службе палітыкі гэта грунт, на якім родзіцца аблуда» (154). Характэрна, што калі гаварылі і пісалі аб новай інструкцыі, яна яшчэ цэлы год ляжала ў біскупскіх канцылярыях неапублікованаю, а калі ў 1938 г. зьявілася ў прэсе, дык варожая да вунійнае акцыі прэса выкарыстала гэтую нагоду, каб паўтарыць яшчэ раз свае напасьці (155).

Раўначасна з узмацненьнем атакаў супраць ўсходняга каталіцызму, зьбольшылася і прыдзірлівасьць польскае адміністрацыі. У 1938 г. быў спынены беларускі рэлігійны часапіс айцоў езуітаў «Да злучэньня» і за ягоным рэдактарам а. Антонам Неманцэвічам устаўлена паліцыйны нагляд. Калі ён летам 1938 г. прыехаў адведаць параха ў Гародне на Палесьсі, дык паліцыя яго вылегітымавала, як нейкага падазроннага крыміналіста.

У 1938 і 1939 гадох выступленьні польскае адміністрацыі супраць усходняга каталіцызму прымаюць амаль неверагодныя формы як для каталіцкае дзяржавы. Узьнялася акцыя разбураньня старых вуніяцкіх сьвятыняў на беларускіх і украінскіх землях. За кароткі час было збурана каля 140 сьвятынаў. Пратэстацыйны пастырскі ліст Львоўскага мітр. Я. Э. Шэптыцкага польская ўлада сканфіскавала, а польскія каталіцкія біскупы маўчалі. Вяршком выступленьня польскае ад-

153. «Oriens», Kraków 1938, Nr. 2. star. 58.
154. Ks. J. Urban, Misje katolickie a polityka. «Oriens». Kraków 1937. R. 5, Zesz. 5. star. 129-130.
155. Ks. J. Urban, Ostatnie ataki na akcje unijną. «Oriens», Kraków 1938, R. 6. Zesz 2, star. 54-56.

міністрацыі было запячатаньне ў ліпені 1939 г. ўсходнекаталіцкае капліцы разам з Найсьвяцейшымі Дарамі ў вёсцы Угрынічы на Палесьсі. У зьвязку з гэтым а. Урбан мусіў з сумам сьцьвердзіць, што ў каталіцкай Польшчы па загаду польскае адміністрацыі «Господ Ісус знайшоўся ў арышце» (156).

Прычыны варожасьці польскага ўраду і адміністрацыі да ўсходняга каталіцызму былі ясныя: ён стаяў на перашкодзе да палянізацыі. Гэты факт мусяць сьцьвердзіць нават людзі крайне варожыя да каталіцызму. Напрыклад, успамінаны няраз Ніколаеў, піша: «Словам усё гатова к палянізацыі і пераводу ў каталіцтва, а тут якісьці ўсходні абрад з яго ахаронаю нацыянальнасьці» (157). Зрэштаю на гэтую тэму ў «Dzienniku Wileńskim» выразна пісалася, што «Крэсы Усходнія... гэта сфэра нашае культурнае экспанзіі і тут якія-б ня былі намеры вуніяцкага сьвятара, яны павінны стрэнуцца з нашым самым рашучым і рэзкім запярэчаньнем» (158).

Так пісалі крайнія польскія нацыяналісты, але нават і спаміж палякаў шчырых каталікоў было нямала такіх, што: «Ва ўсходнім абрадзе бачылі небясьпеку для польскасьці і баяліся вынарадаўленьня палякаў, а магчыма нават і да самога абраду ня маюць даверу. Адгэтуль лісты да Апостальскага Пасаду, палемічныя артыкулы, брашуры... Нам кажуць: Рым турбуецца перадусім аб рэлігійным баку, мы так-жа аб ім дбаем, але як палякі маем яшчэ да таго на ўвеце нацыянальную справу і ня можам згадзіцца на мэтады місійнае акцыі, якія супраціўляюцца найбольш жыцьцёвым інтарэсам народу» (159).

Трэба з сумам сьцьвердзіць, што некаторыя нават высокапастаўленыя польскія каталіцкія сьвятары на Беларусі былі шмат горшымі ворагамі ўсходняга каталіцызму чым сьвецкія палякі нацыяналісты. Ужо перш успаміналіся імёны канонікаў Барадзіча і Любянца. Акрамя пісаніны яны шмат агітавалі пры розных нагодах. Іншыя ня выступалі варожа, але тым ня менш страшэнна шкодзілі пашыраючы ў народзе пагляд аб якойсьці ніжэйшасьці ўсходняга абраду. Калішні прафэсар Віленскае Дух. Сэм., а цяпер раднік пры польскай амбасадзе ў Ватыкане, які добра ведае афіцыяльны польскі пагляд на справу, называе Усходнекаталіцкую Царкву якоюсь «пасярэдняю формаю» (160).

156. «Oriens», Kraków 1939. Rok 7, Zesz 4. star. 125.

157. К. Н. Николаев, Восточный обряд, Париж 1950, стар. 207.

158. Паводля К. Н. Николаева стар. 142.

159. Arcyb. P. Mańkowski, Dookoła akcji unijnej. «Oriens», Kraków 1933. Rok I. Nr. I, star. 3-4.

160. Ен агулам нелацінскія абрады называе: «des formes intermédiaires». Mgr. Valérien Meysztowicz, L'Eglise catholique en Pologne entre les deux guerres. Cité du Vatican 1944, star. 70.

Вышэй пералічана частка і толькі важнейшых фактаў, якія выяўляюць сапраўдныя адносіны палякаў і да вунійнае акцыі і да самое Усходнекаталіцкае Царквы. У іхным сьвятле кожны можа бачыць ясна, як на далоні, да якое ступені ёсьць фальшывым і бязглуздым выказваньне расейскае прапаганды, быццам навейшая вунійная акцыя на Беларусі была польскім творам. Калі апісваны ў гэтым разьдзеле пэрыяд дачакаецца больш дакладнага апісаньня, тады яшчэ з большаю яснасьцю выявіцца поўная беспадстаўнасьць варожае супрацьвунійнае прапаганды.

## СТАНОВІШЧА РЫМУ АДНОСНА ПОЛЬСКАЕ РЭЛІГІЙНАЕ ПАЛІТЫКІ

У жыцьці народаў здараюцца выпадкі, калі іхныя дзяржаўныя кіраўнікі будуюць свае палітычныя пляны, якія ў некаторых пунктах не заўсёды годзяцца з Хрыстоваю навукай. Яскравым прыкладам такое нязгоды была, а часткава нават і сёньня ёсьць прапаганда нашых суседзяў з аднаго боку польскае, а з другога рускае веры. І гэта дзеяцца тады, калі да Праваслаўнае Царквы належыць больш дзесятка народаў з пераважаючым процантам праваслаўных і калі Каталіцкая Царква мае ў ліку сваіх вернікаў у большай ці меншай колькасьці прадстаўнікоў амаль усіх народаў сьвету. Больш таго — на працягу гісторыі ніводзін папа ня быў польскае нацыянальнасьці. Дзеля гэтага само сабою напрошваецца пытаньне: як-жа адносіліся ў Ватыкане да польскае прапаганды, што несла каталіцызм на нашы землі, як польскую веру? Адносілася нэгатыўна.

Вузкі нацыяналізм супярэчыць духу Каталіцкае Царквы. Яна заснаваная Хрыстом для ўсіх народаў; у Ёй ёсьць мейсца для ўсіх і неабмежаванае поле для разьвіцьця духовых вартасьцяў кожнага народу. У лоне Каталіцкае гэта значыць Сусьветнае Царквы кожны народ мае права для захаваньня сваіх асаблівасьцяў і ў гэтым значэньні кожны народ мае права мець сваю Царкву. Калі-ж польскія палітыкі і нацыяналісты, карыстаючы самі з гэтага права, адмаўлялі яго беларусам, нішчучы беларускую Каталіцкую Царкву абодвых абрадаў, дык рабілі гэта ў імя сваіх фальшывых пaглядаў, але ніколі ў імені вышэйшага кіраўніцтва Каталіцкае Царквы — Апостальскага Пасаду.

З гісторыі Царквы ведама, што Апостальскі Пасад у меру сваіх сілаў і магчымасьцяў спрыяе кожнаму народу, і так-жа ў меру сваіх сілаў, калі сьцьвердзіць шкодную рэлігійную палітыку нейкага народу, выступае супраць яе. Супраць польскае рэлігійнае палітыкі Апостальскі Пасад на працягу вякоў выступаў даволі часта. Калі ў беларускім грамадзтве гэтыя выступленьні мала ведамыя і нават няшмат каму ведамыя былі ў самой

Польшчы, дык цяперашняя камуністычная польская ўлада выкарыстоўвае гэныя выступленьні для свае супрацькаталіцкае прапаганды, абвяшчаючы Ватыкан і каталіцкую ерархію ў Польшчы ворагам польскага народу (161) і публікуючы на гэтую тэму цэлы рад кніжак і брашураў (162). Трэба аднак засьцерагчыся, што ў тых публікацыях, як гэта звычайна бывае ў бальшавіцкай прапагандзе, шмат фактаў страшэнна перакручана і калі тут успамінаецца аб гэных публікацыях, дык толькі таму, што яны агулам зьявіліся.

Немагчыма тут пералічаць усе факты нязгоды з доўгавяковае гісторыі адносінаў між Ватыканам і Польшчаю, калі на гэтую тэму ўжо апублікована цэлыя томы.

Нас найбольш цікавіць асабліва гісторыя апошніх дзесяткаў гадоў як найбольш актуальная; і вось варта ўвагі, што адносна гэтага пэрыяду варожы да Польшчы і да каталіцызму расейскі дасьледнік вымушаны быў сказаць: «Рым супраць насільнага апалячваньня — гэта праўда, бо вельмі дарага прыходзілася плаціць Рыму за гэткую палітыку Польшчы» (163).

Зразумела, што з факту аднаўленьня польскае дзяржавы Рым быў задаволены; як-ні-як Польшча была дзяржаваю з пераважаючым працэнтам каталіцкага насельніцтва і з каталіцкімі традыцыямі. Аднак у шматлікіх адносінах польскія кіруючыя колы ў сваіх адносінах да каталікоў няпольскае нацыянальнасьці моцна кампрамітавалі Апостальскі Пасад і на гэтым тле паўставалі шматлікія канфлікты. Добра паінфармаваны францускі палітык Пэрно ўжо ў 1924 г. пісаў аб доўгатрывалай нязгодзе між Польшчаю і Ватыканам, дзеля таго, што Варшава кампрамітуе стараньні Апостальскага Пасаду (164). Найгалаўнейшаю прычынаю гэтае нязгоды было якраз тое, што Апостальскі Пасад выступаў у абароне ўсходняга каталіцызму. Той-жа Пэрно гаворыць: «У асяродзьдзі блізкім да папы скаржыліся на Польшчу за яе няпрыхільныя адносіны да ўсходніх католікаў летувісаў, беларусаў і украінцаў: крайні лятынізм палякаў кепска годзіцца з сучаснымі тэндэцыямі і дырэктывамі папскае палітыкі» (165).

Аб палажэньні на Беларусі ў Рыме ведалі даволі добра. Пасьля свайго падарожжа па Беларусі ў 1907 г. Львоўскі мітр. Я. Э. Шэптыцкі дакладна паінфармаваў папу аб рэлігійным становішчы на Беларусі і суседніх краінах, а ў 1917 г. «папа Бэнэдыкт XV асабіста запатрабаваў інфармацыяў аб палажэньні на Беларусі і Украіне. На яго запытаньне Львоўскі архіяпіскап Я. Э. Андрэй Шэптыцкі мітрапаліт усходніх каталікоў у Галіцыі яму пераслаў дакладную справаздачу ў чэрвені 1917 г... і ў далейшым прадаўжаў інфармаваць Апостальскі Пасад» (166).

Акрамя мітр. Шэптыцкага было яшчэ шмат іншых крыніцаў інфармацыі; між імі былі прыхільныя і няпрыхільныя для Беларусі. Аднак у Рыме ведалі цану адных і другіх і ўжо ў 1922 г. пачуліся моцныя галасы, што на няпольскіх абшарах неабходна ачысьціць каталіцызм ад польскага нацыяналізму. Згодна з гэтым паглядам адноўліваная пасьля 1925 г. каталіцкая ерархія на абшары СССР у сваёй большасьці была ўжо няпольская. Нованазначаныя ерархі на волі былі вельмі мала, бальшавікі іх даволі хутка арыштоўвалі, суправаджаючы гэтую акцыю нападамі на Рым. І было дзіўна, што ў тым-жа часе хоць з іншых матываў польская нацыяналістычная прэса алярмавала польскую грамадзкую апінію супраць Рыму за тое, што на Усходзе адбіраецца ад Польшчы манаполь на каталіцкае прадстаўніцтва. .

З сваімі ўнутрана польскімі каталіцкімі праблемамі польскі ўрад так-жа меў немалыя разьбежнасьці з Ватыканам, але гэта зусім не належыць да нашае тэмы. Аднак бяручы ўсё разам дыплёматычныя адносіны Польшчы да Ватыкану ўсьцяж завастраліся. Калі 26. XII. 1937 г. памёр Уладыслаў Скрынскі, польскі амбасадар пры Ватыкане, дык польскі ўрад у знак свайго незадаволеньня ня выслаў новага амбасадара, а яго́ныя абавязкі даручыў выконваць звычайнаму шаржэ д'афэр Станіславу Янікоўскаму. Гэта была пагроза для Ватыкану, што дыплёматычныя адносіны вісяць на валаску. Аднак у Ватыкане не зьлякаліся гэтае пагрозы і калі ў сакавіку 1938 г. польскі міністар замежных справаў Бэк, які найбольш інсьпіраваў супрацьватыканскую палітыку Польшчы, будучы ў Рыме, прасіў аўдыенцыі ў Сьвяцейшага Айца Пія XI, дык атрымаў катэгарычную адмову (167).

У гэтым-жа часе польскі ўрад плянаваў утварэньне каталіцкае дыяцэзіі лацінскага абраду ў Станіслававе. Апостальскі Пасад з гэтае нагоды пастанавіў скарыстаць і паставіць на парадак дня ўтварэньне каталіцкае епархіі ўсходняга абраду ў Коўлі, бо да гэтага часу апостальскі візітатар для каталікоў ўсходняга абраду на Валыні і Беларусі Я. Э. Мікалай Чарнэцькі дзеля супрацівы польскага ўраду ня меў ніякае юрысдыкцыі. Пры гэтай нагодзе выявілася, як вя-

161. И. И. Костюшко, Ватикан против польскаго народа. «Институт славяно-ведения. Краткия сообщения» Кн. 8. Москва 1952. стар. 95.

162. A. Nowicki. Papieże przeciw Polsce, Warszawa 1949; 1000 lat zatargów z papieżami. Warszawa 1950; Wl. Bieńkowski, Polityka Watykanu wobec Polski. Warszawa 1949 i ins.

163. К. Н. Николаев, Восточный абрят. Париж 1950. стар. 207.

164. Maurice Pernot, Le Saint-Siège. l'Eglise catholique et la Politique mondiale. Paris 1924 star. 174.

165. Op. cit. star. 153.

166. Op. cit. star. 174.

167. François Charles-Roux. Huit ans au Vatican 1932-1940. Paris 1947. star. 174.

лікія былі разьбежнасьці між Ватыканам і польскім урадам. Польскі падсакратар стану Ян Шэмбэк у сваіх успамінах падае вельмі цікавую гутарку, якую ён меў на гэтую тэму з апостальскім нунцыем Я. Э. Картэзі 27. X. 1938 г.: «Я даручыў яму (Апостальскаму Нунцыю) нататку (разам з картаю) адносна справы падзелу Львоўскае архідыяцэзіі з аседкам у Станіслававе. Пры гэтым я падаў Нунцыю цэлы рад дадатковых выясьненьняў. Ён прыныў нататку бяз ніякіх спэцыяльных увагаў.

Наступна я яму заявіў, што хачу навязаць гутарку да нашае прыватнае папярэдняе размовы адносна ўтварэньня дыяцэзіі бізантыйска-славянскага абраду ў Коўлі. Ужо з мае папярэдняе рэакцыі адносна яго прапазыцыі ён мог зразумець, што я адношуся да такога праекту нэгатыўна. Нунцый адказаў кіўком галавы. Хочучы аднак спраўдзіць мае пагляды, я перадумаў гэтую справу і хочу сёньня пераказць яму ў чыста прыватнай форме наступнае: Я дайшоў да перакана्ньня, што ўтварэньне такое дыяцэзіі зусім немагчымае, ды ніхто ў Польшчы гэтага ня прыйме і ніякі польскі ўрад не прайшоў-бы праз падобныя цяжкасьці. Да таго стаўленьне гэтае справы ня можа аблягчыць суадносінаў між урадам і Ватыканам.

Нунцый выразна вельмі незадаволены маім асьведчаньнем, адказаў, што падобныя аргумэнты чуў з вуснаў д-ра Баркоўскага (тагачаснага начальніка аддзелу веравызнаньняў у Мін Асьв. і Верав.) міма гэтага аднак мусіць сьцьвердзіць, што рэлігійныя адносіны, якія пануюць на ўсходніх крэсах трэба прызнаць за немагчымыя, дзеля гэтага цаўстае неабходнасьць урэгуляваць сытуацыю. **На абшарах усходніх крэсаў пануе стан рэлігійнага прасьледаваньня.** З боку ўлады робіцца ўсё для лацінскага абраду і праваслаўя, а бізантыйска-славянскі абрад прасьледуецца» (168).

Няма ведама, як-бы разьвіваліся далейшыя суадносіны між польскім урадам і Апостальскім Пасадам, каб на палітычным кругазоры не пачалі зьбірацца грозныя хмары. Калі ўжо поўным ходам ішла падрыхтоўка да вайны ў ліпені 1939 г. польскі ўрад прыслаў у Ватыкан свайго амбасадара Казімера Папэ, але свае рэлігійнае палітыкі не зьмяніў, бо ўжо ня было калі.

З вышэй пералічаных фактаў, хоць іх і падана толькі невялікая колькасьць, можна ясна бачыць, што за ўсе злоўжываньні на рэлігійнай ніве, якія дзеяліся на Беларусі пад прыкрыцьцём каталіцызму, нясе адказнасьць перад Богам і перад народам польскі ўрад, а ніколі вышэйшае кіраўніцтва Каталіцкае Царквы, якое рашуча выступала супраць тых усіх бясчынстваў.

На заканчэньне варта ўспомніць зусім сьвежыя факты з адносінаў Ватыкану да Беларусі і да беларусаў. Час і абставіны, калі яны зроблены, маюць асаблівую вымову. У 1942 г. Сьвяцейшы Айцец Пій XII у ліку новастворыных Экзархатаў усходняга абраду зацьвердзіў так-жа і Беларускі Экзархат (169), гэтым самым кладучы канец юрыдычным умяшаньням польскае ерархіі ў беларускае ўсходнекаталіцкае жыцьцё. Дзякуючы падтрыманьню Рыму для беларускае эміграцыі былі выданы малітоўнікі для вернікаў усходняга і лацінскага абраду, зьявілася беларуская каталіцкая пэрыядычная прэса на эміграцыі. Дзе толькі знайшліся беларускія каталіцкія сьвятары, там былі ўтвораны беларускія рэлігійныя місіі на такіх самых правох, як падобныя місіі для дзяржаўных народаў. Ватыканскае радыё першае ў вольным сьвеце пачало перадаваць рэгулярныя беларускія аўдыцыі. Беларускія студэнты на каталіцкіх унівэрсытэтах атрымоўваюць помач нароўні з студэнтамі іншых народаў. У міжнародных каталіцкіх арганізацыях, калі толькі ёсьць адпаведныя беларускія арганізацыі, дык ня сустракаюць ніякіх перашкодаў, калі яны жадаюць туды прыступіць. Для беларусаў каталікоў у Зах. Эўропе назначаны асобны Апостальскі Візітатар.

Будучыня народаў ведамая толькі аднаму Богу, але кожны народ з свайго мінулага можа і мусіць выцягнуць навуку для будаваньня будучыні, тое-ж мусім зрабіць мы, мусяць гэта зрабіць так-жа і нашы суседзі; да гэтага змушае ўсіх сучаснае жудаснае палажэньне так Каталіцкае, як і Праваслаўнае Царквы за зялезнаю заслонаю.

**а. Л. Гарошка**

---

168. **Fragmenty pamiętników min. Szembeka. «Kultura», Nr. 6 (56). Paris 1952, star. 64.**

169. **Charles de Clercq. Histoire des Conciles d'après les documents originaux. T. XI. Conciles des Orientaux catholiques. 2-me partie. Paris 1952. star. 978.**

# Змаганьне з рэлігіяй на Беларусі

### Успамін навочнага сьведка з 1928-1931 гадоў

Гэты ўспамін быў надрукаваны ў польскім часапісе «Oriens» Нр. 6 у 1937 годзе стар. 179-182 і хоць ён адносіцца да падзеяў, што адбываліся ў сталіцы Беларусі і напісаны беларусам з паходжаньня, чамусьці ў сваім часе на яго беларусы не зьвярнулі ўвагі, а потым і зусім забыліся. Таму аднак, што ён мае немалую дакумантальную вартасьць, і да таго яшчэ ня страціў

сваё актуальнасьці, публікуем яго ў беларускім перакладзе.

**Рэдакцыя**

---

Калішні расейскі афіцэр у Францыі, «навернены» на камунізм і дзейны сябра францускае камуністычнае партыі, у 1927 г. я вярнуўся ў родны край — Беларусь, каб дзейна памагаць у будове камуністычнага ладу на бацькаўшчыне. Шэсьць гадоў тэй працы, асабліва мэтады, якія той працы накідала кіраўніцтва бальшавіцкае партыі і славутае ГПУ, зрабілі мне камунізм агідным і вылечылі з яго, а што яшчэ важнейшае; прасьледаваньне рэлігіі і гэраічнае цярпеньне вернікаў адчынілі мне вочы на рэлігійную праўду і з атэіста зрабілі мяне веруючага чалавека. У 1933 г. мне ўдалося вырвацца з сацыялістычнага раю дзякуючы шчасьлівым уцёкам і цяпер я магу служыць як навочны сьведак, бо частказа і вінаваты з прымусу, нягоднасьці бальшавізму, яго жарстокасьці і хлусьлівасьці.

Хачу падзяліцца з чытачамі «Oriensu» сваімі ўспамінамі з часоў змаганьня супраць рэлігіі ў савецкай Беларусі, а перадусім у самай сталіцы Менску ў 1928-1931 гадох.

---

У 1928 г. я працаваў у Менску як савецкі журналіст. У гэтай ролі мяне так-жа ўжывалі для антырэлігійнае акцыі. У лютым гэтага году мяне выклікалі да менскага раённага сакратара камуністычнае партыі, каб там атрымаць якоесь даручэньне. Сакратар мне «запрапанаваў», каб на наступны дзень я зрабіў антырэлігійны даклад для чыгуначных работнікаў у іхным клюбе ім. Леніна ў вялікай салі Віленскага вакзалу. Паводля ўмовы савецкага ладу «прапазыка» раўняецца загаду.

— Рэфэрат трэба скіраваць супраць рэлігіі — казаў сакратар камітэту. — Трэба давесьці работнікаў да таго, каб аднагалосна прынялі рэзалюцыю з дамаганьнем закрыць Белую царкву. Рэзалюцыя ўжо ўложана і мусіць быць прынятая бяз ніякае зьмены. Прачытае яе пасьля рэфэрату беспартыйны работнік, каб выглядала, што ініцыятыва закрыцьця царквы выйшла з работніцкіх кругаў незалежна ад кіруючае партыі. Нельга дапусьціць зьменаў у рэзалюцыі, бо мы яе ўжо разаслалі ў рэдакцыі газэтаў, каб зараз-жа пасьля прыняцьця магла зьявіцца на першым мейсцы тлустым друкам.

«Белая», як яе называлі, праваслаўная царква знаходзілася на канцы Захараўскае (цяпер Савецкае) вуліцы. Яе збудована перад вайною галоўным чынам з ахвяраў работнікаў менскага чыгуначнага вузла і яна абслугоўвала перадусім чыгуначнікаў, прыцягваючы іх туды і пасьля бальшавіцкае рэвалюцыі. Вось-жа бязбожнікам яна была не на руку, дык пастанавілі яе скасаваць. Але ў краю, які хваліцца з «найбольшае ў сьвеце свабоды сумленьня», сьвятыні зачыняюцца «толькі» згодна з жаданьнем насельніцтва, іменна парахвіян данае сьвятыні. Якраз мой даклад павінен быў спрычыніцца да таго, каб зьявілася такое «аднагзоднае» і «дабравольнае» жаданьне.

— Рэзалюцыя досыць доўгая — сьмяючыся дадаў сакратар — работнікі задрэмлюць, слухаючы яе, дык тым лягчэй пяройдзе. Зрэштаю, таварышу, гэта вашая галава ў тым, кам яе прынялі.

Я быў ашаломлены тым, што пачуў. Толькі што прыехаўшы з Францыі, поўны «рэвалюцыйнага энтузіязму», я наіўна думаў, што ў СССР сапраўды кіруюць «працоўныя масы», што голас тых масаў, іхныя думкі, сапраўды маюць якоесьці значэньне. Я думаў, што на сходах трэба даказваць масам слушнасьць данае прапановы партыі і што сабраныя мелі поўную свабоду выказацца або згодна з прапановаю, або яе адкінуць. Тымчасам мне загадвалася адыграць камэдыю адносна чыгуначнікаў, а яе фінал вырашаны згары. І гэта ўважаюць за нармальнае зьявішча, як штосьці самазразумелае! Але што было рабіць?

Усё пайшло, як прадсказаў сакратар ячэйкі. Пасьля майго рэфэрату выступіла некалькі камуністаў, якія ў «імені работнікаў» жадалі неадкладнага зачыненьня Белае царквы, гэтага «чорнага гнязда контррэвалюцыі». Потым «беспартыйны работнік» адчытаў тэкст рэзалюцыі, падрыхтаваны загадзя партыйным камітэтам. Гэтую завілую рэзалюцыю прачытана са сцэны без асаблівага стараньня, каб яе слухачы маглі зразумець. Сапраўды слухачы ўжо былі знуджаныя і было іх ужо няшмат, бо большасьць дзеля працягласьці сабраньня павыходзіла з салі. Заклікана, каб паднялі рукі тыя, хто мае штосьці супраць рэзалюцыі — ясна, што такіх адважных ня было, каторыя рызыкавалі-б супрацівіцца таму, чаго жадае кіруючая партыя. А назаўтра раніцаю ўсе менскія газэты ўжо ўсяла ўлялі «новую перамогу работнікаў над сіламі чорнае рэакцыі».

Аднак радасьць бязбожнікаў была перадчаснаю. Яшчэ на некаторы час Белую царкву ўратавалі кабеты, жонкі чыгуначнікаў.

— Увойдзеце ў царкву хіба па нашых трупах. — Крычалі хорам сьмела жанкі, зьбегшыся да царквы на вестку, што да яе зблізкаецца аддзел міліцыі і гурт «ваюючых» бязбожнікаў. — Мы на сходзе ня былі і не галасавалі за закрыцьцём царквы!

— Ну, але вашыя мужыкі!

—Што нас абходзяць мужыкі, мы так-жа поўнапраўныя грамадзяне. Царква ёсьць адначасна і нашаю і мы хочам, каб у ёй далей адпраўляліся багаслужэньні.

Міліцыя аставіла нявыкананым даручанае сабе заданьне, бо-ж у СССР няма рэлігійнага гвалту... Усё мусіць дзеяцца дабравольна. Вось-жа трэба было «добрую волю» стварыць іншым спосабам. На сцэну выступіла ГПУ. Яно арыштавала старога параха Белае царквы, які нядаўна вярнуўся з трохгодняе ссылкі. Ясна, што яго арыштавалі не за веру, а за «контррэвалюцыю», за «прапаганду» варожае да саветаў палітыкі. Пасьля параха ўкінулі ў турму некалькі вернікаў, чыгуначных работнікаў, як небясьпечных контррэвалюцыянэраў. Менскія газэты ўзмоцнілі свае атакі супраць рэлігіі і духавенства; ведама-ж гэта дзеялася на аснове права «антырэлігійнае прапаганды». Рэлігія — адсталасьць, рэлігія — опіюм для народу, рэлігія — найбольшы вораг саветаў!

Шалёны тэрор падрыхтоўваў належна «грамадзкую апінію» да таго, каб уладзіць паўторнае галасаваньне ў справе Белае царквы. Гэтае галасаваньне адбылося ўжо ня ў клюбе, але ў чыгуначных майстэрнях. Мелася на ўвеце тое, каб ад яго ня ўцёк ніводзін работнік, не падпаўшы адразу пад кару за «прагул», нібы не зьявіўся на працу. Загадана галасаваць яўна і на пісьме. Ведама гэта дзеля таго, каб адхіліць магчымасьць непажаданых контррэвалюцыйных уплываў. Зразумела, што ў такіх спрыяючых вольнаму галасаваньню абставінах, усе падпісаліся за закрыцьцём царквы. Гэта сталася тым лягэй, што некалькі дзён перад тым ГПУ арыштавала пад нейкім прэтэкстам колькі чыгуначнікаў больш або менш ведамых «царкоўных актывістаў».

У адзін дажджлівы дзень у красавіку 1928 г. Белая царква была спрафанована і зачынена. Пад ударамі молатаў двох маладых бязбожнікаў зваліўся з енкам з верху купала на зямлю пазалочаны крыж. На яго мейсца заткнулі чырвоную плахту — сымбаль пабальшавіцку панятае свабоды рэлігіі. А жанчыны? Ці іх гэтым разам ня было ля царквы? Былі, але кленчылі у балоце, молючыся і плачучы... Назаўтра газэты абвесьцілі, што зачыненьне царквы адбылося пры агульных азнаках задаволеньня прысутных пры гэтым людзей...

Я, гледзячы тады на народ, усьведаміў сабе ўсю фальшывасьць бальшавіцкіх запэўніваньняў аб вольнасьці. Усьведаміў, што народ душою ня ёсьць на боку бязбожнага камунізму. Гэта была хвіліна, калі ў маёй душы затлілася якаясьці даўно прыгашаная іскра.

---

Каталікі мелі ў Менску некалькі касьцёлаў: катэдру пры Катэдральным пляцы (цяпер пляц Свабоды), прыгожы новы касьцёл пры Захараўскай вуліцы, парахвіяльны касьцёл на магільніку, на так званай Залатой горцы. Бязбожнікі, перадусім польскія камуністы, рабілі ўсё, што толькі маглі, каб тыя сьвятыні пазакрываць. Асабліва іх дражніў касьцёл на Захараўскай вуліцы.

У 1929 г. пачалася акцыя з мэтаю аганьбленьня каталіцкіх сьвятароў у вачох вернікаў. Так было ў Менску, так было ўва ўсёй Беларусі і ў іншых мяйсцох. ГПУ арыштавала катэдральнага параха быццам за тое, што хаваў у катэдры контррэвалюцыйныя друкі, а нават і парнаграфічныя. Бязумоўна штосьці яму мусілі падкінуць. Сьвятара пагналі на далёкую поўнач.

Крыху потым у Бабруйску арыштована двох каталіцкіх сьвятароў, абвінавачваючы іх, быццам яны выдавалі сваім вернікам даведкі, якія іх мелі бараніць перад польскімі ўладамі, калі тыя ў будучай вайне зоймуць Бабруйск. Контррэвалюцыя, шпіёнства! А гэнымі даведкамі польскае лаяльнасьці былі запросіны ў касьцёл на якоесь больш урачыстае набажэнства. Высьвятленьне непаразуменьня ня выратавала арыштаваных ад ссылкі ў канцэнтрацыйны лягэр.

Больш менш у тым-жа часе быў увязьнены старэнькі парах з «Залатое Горкі», абвінавачаны за тое, што быццам змушаў школьных дзяцей і нават чырвоных піянэраў да споведзі і прычасьця. Ведама, што аб сапраўдным змушаньні кагосьці да рэлігійных практыкаў у той краіне «вольнасьцяў» і гутаркі быць не магло, ды і ня было ніякае патрэбы змушаць пабожных вернікаў з «Залатое Горкі» і іхных дзяцяй да рэлігійных парктыкаў. За «змушаньне» лічылася тое, што сьвятар прыпамінаў сваім вернікам абавязкі адносна рэлігійнага ўзгадаваньня дзяцей і яны яго паслухаліся. Для бальшавікоў гэта быў выстарчаючы доказ контррэвалюцыйнасьці сьвятара і за гэтую правіну ён мусіў пакутаваць на Салоўках.

Ад пачатку 1930 г. праваакцыйныя спосабы змаганьня супраць каталіцызму, як і супраць праваслаўя пачалі весьціся з новаю сілаю. Банды камсамольцаў бязбожнікаў ўрываліся ў сьвятыні падчас багаслужэньняў, перарывалі іх, білі малельнікаў. Міліцыя, калі займалася гэтымі авантурамі, дык толькі на тое, каб арыштаваць вернікаў, супраць якіх, паводля загаду зьверху, наскоўвала чырвоная менская прэса. У ёй паўтаралася на ўсе лады, што «ксяндзы і папы ёсьць слугамі капіталізму, і што яны падбураюць цёмную частку народу супраць саветаў». Шмат духавенства абодвых веравызнаньняў у тых гадох арыштована, а нават некаторых растрэляна за «хаваньне серабра і дробных мэталёвых грошаў», якія тады ўрад усюды рэквіраваў. Вернікі кідалі ў касьцёлах свае медзякі на тацу і пакуль ксёндз змог іх аднесьці ў банк для вымены на паперкі, адразу пасьля багаслужэньня ўрываліся агэнты ГПУ, знайходзілі звонкую манэту і арыштоўвалі ксяндза за хаваньне забароненых грошаў.

Вяршком прасьледаваньня быў люты 1930 г., калі Сьвяцейшы Айцец Пій XI у лісьце да кардынала Пампілі выступіў у абароне прасьледаванае бальшавікамі рэлігіі і заклікаў увесь сьвет маліцца за ахвяры прасьледаваньня і за захаваньне веры ў Расеі. З гэтае прычыны лютасьць бальшавікоў проста ня ведала межаў; з усім шаленствам савецкая прэса выступіла супраць папы, спрычыняючыся гэткім чынам супраць свайго намераньня да папулярызацыі папскага кроку. І каталікі і праваслаўныя даведаліся, што на сьвеце ёсьць хтосьці, што ўступаецца за іх, ёсьць хтось, што дакарае іх прасьледавальнікаў. Не хавалі свае ўдзячнасьці да папы, але гэта было прэтэкстам да ўзмацненньня прасьледаваньня. Адначасна з высупленьнем савецкае прэсы супраць Апостальскага Пасаду і рэлігіі наагул пачалі ладзіць пратэстацыйныя сходы, маніфэстацыйныя паходы, на якія мусілі йсьці ўсе, хто якімсьці чынам быў залежны ад бальшавіцкае ўлады. На гэтыя прымусовыя маніфэстацыі потым паказвана, як на самавольны выяў народнага гневу супраць папскага ўмешваньня.

Якраз гэты мамэнт выкарысталі менскія камуністы, перадусім тамтэйшы польскі клюб, каб распачаць акцыю замыканьня касьцёлаў, асабліва касьцёла пры Захараўскай вуліцы. Зарганізована дэманстрацыю з жаданьнем неадкладнага закрыцьця гэтага касьцёлу і ператварэньня яго на польскі антырэлігійны тэатр. Нясучы адпаведныя блюзьнерскія плякаты, гэтая дэманстрацыя йшла праз горад сьпяваючы камуністычныя і бязбожныя песьні і закончылася мітынгам перад касьцёлам. Трэба сьцьвердзіць, што ўдзельнікамі гэтае дэманстрацыі былі пераважна камсамольцы і работнікі-жыды. Праваслаўных было ў ёй мала, а каталікоў амаль зусім ня было і гэта не зважаючы на націск кіраўніцтваў фабрыкаў, якія няўдзел у дэманстрацыі лічылі за няпрыход на працу. Фармальна дэманстрацыю лічылі за выяў волі работніцкіх масаў і вернікаў і на гэтай аснове менскі гарадзкі савет загадаў закрыць касьцёл, а будынак перадаць «на культурныя мэты». Калі апошні раз я быў у Менску ў красавіку 1932 г. дык зацікавіўся доляю закрытых сьвятыняў. У Белай царкве быў камсамольскі клюб, у якім п'яная моладзь вечарамі лаялася і білася, а ў касьцеле пры Захараўскай вул. ладзіліся спэктаклі, якія блюзьнілі супраць Бога і Найсьвяцейшае Дзевы.

---

Яшчэ хачу ўспомніць аб адным спосабе барацьбы супраць рэлігіі, які я меў нагоду назіраць няраз. Рабіліся стараньні на розныя спосабы, каб давесьці каталіцкіх і праваслаўных сьвятароў да скіненьня духоўнае вопраткі, а нават да адступніцтва. І здараліся выпадкі, што гэтую мэту асягалася, калі ГПУ пагражала ссылкою на прымусовую працу. Калі такі сьвятар з слабымі нэрвамі заломліваўся, дык яму давалі да подпісу ўстаноўленую формулу, у якой гаварылася, што ён пакідае сьвятарскі стан, праз які зводзіў людзей і падобнае. Часам такому няшчаснаму загадвалі выступіць на казальніцу і абвесьціць адступніцтва перад вернікамі. Газэты адразу такое адступніцтва разгалошвалі, пішучы шырока аб тым, як самыя «папы» прызнаюцца, што рэлігія ёсьць толькі абманам і вызыскам. На шчасьце лік такіх адступніцтваў ёсьць вельмі нязначны ў параўнаньні з тымі дзясяткамі тысячаў слугаў аўтара, якія адважна йшлі ў турмы, на прымусовыя работы, а нават пад кулі. хоць маглі-б гэтага лёгка ўнікнуць, калі-б зрадзілі Бога і сваё пакліканьне. Нават здараліся выпадкі, што інсцэнізованыя адступніцтвы перад вернікамі ператвараліся на ўмацаваньне веры. Так напрыклад у 1930 г. у аднэй вёсцы недалёка ад Віцебску праваслаўны сьвятар пад націскам пагрозаў з боку гуртка бязбожнікаў і агентаў ГПУ, каб публічна выракся веры, уканцы повідна згадзіўся на гэта, але выступіўшы з крыжам у руцэ перад сабранымі вернікамі і бяжбожнікамі, якія ўжо напярод цешыліся сваею блізкаю перамогаю, расказаў прысутным аб тым, якімі спосабамі камуністы змушалі яго да адступніцтва і ўканцы заклікаў усіх веруючых, каб аставаліся вернымі Богу і Царкве. Ясна, што адпомсьцілі гэтаму «контррэвалюцыянэру» за пасаромленьне: пабольшыў лік мучанікаў.

**Мікалай Беліна-Падгаецкі**

# Сучаснае рэлігійнае палажэньне на Беларусі

Аб рэлігійным жыцьці на Беларусі наагул вестак даходзіць мала і тыя весткі, якія даходзяць, маюць пераважна агульны характар, аднак калі іх усе супаставіць разам, тады магчыма ўбачыць ясьней тую сапраўднасьць, якую сучасныя валадары Беларусі стараюцца схаваць ад вольнага сьвету.

Да кастрычніцкае рэвалюцыі насельніцтва Беларусі паводля веравызнаньня складалася з: праваслаўных — 66%, каталікоў — 18%, старавераў — 1,5%, юдэяў — 12%, пратэстантаў і сэктантаў — 2%, магомэтанаў, караімаў і інш. — 0,5%. Пры тым беларусы ў асноўным належалі да праваслаўя і каталіцызму, толькі вельмі невялікі процант належаў да сэктаў, якія зьявіліся на пачатку XX стаг. У Зах. Беларусі між 1923-39

гадамі была ўтварылася невялікая група каталікоў ўсходняга абраду.

Цяпер працэнтныя адносіны паважна зьмяніліся і да таго зьявілася новая група — бязбожнікаў так з пераканананьня, як і з прымусу ў зьвязку з адзіна дазволеным афіцыяльным матэрыялістычным сьветаглядам.

## ПРАВАСЛАЎНАЯ ЦАРКВА

Найбольш выгадным і нават упрывілеяваным палажэньнем вызначаецца цяпер на Беларусі, як і агулам на ўсім абшары СССР афіцыяльная Расейская Праваслаўная Царква на чале з Маскоўскім патрыярхам. Такое палажэньне яна заўдзячвае сваёй расейскасьці і цэнтральнаму кіраўніцтву ў Маскве. Уласьціва тут слова «Праваслаўная» трэба браць у двукосье, бо яна пайшла так далёка на супрацоўніцтва з бязбожнаю ўладаю, што яе праваславіе сталася больш чым сумніўным. Трэба памятаць, што на абшары СССР пасьля 1917 г. было зьявілася некалькі аўтакефальных і аўтаномных Праваслаўных Цэркваў — усе яны з часам былі зьліквідаваны бальшавікамі на карысьць патрыяршае Расейскае Царквы так у самой Расеі, як і іншых саюзных рэспубліках, у тым ліку і Беларуская мітраполія.

Тое, што беларусы змаглі зрабіць на карысьць беларусізацыі праваслаўнае Царквы ў часе другое сусьветнае вайны, было зьнішчана адразу-ж пасьля заняцьця Беларусі бальшавікамі ў 1944 г. Новых япіскапаў прысылалі на Беларусь выключна расейцаў. Толькі ў Пінску некаторы час працаваў рэпатрыянт з Чэхаславаччыны арх. Даніiл (Юзьвюк). Наагул епархіі на абшары Беларусі былі абсаджаны рэдка, а цяпер з усяе БССР створана адну адзіную архіепархію з аседкам у Менску, дзе знайходзіцца правячы япіскап (ад некалькі месяцаў — мітрапаліт) і ягоны вікарны япіскап. (Аб іх пры розных нагодах былі частыя зацемкі на старонках «Божым шляхам»). Па-за межамі БССР на беларускіх абшарах увесь час абсаджаныя япіскапскія пасады ёсьць ў Смаленску і Беластоку. Пры тым вельмі характэрна, што апошнім часам у Беласточчыне дазволена беларуская мова ў царкоўным жыцьці, чаго няма нават у БССР.

З іншых беларускіх епархіяў некаторы час былі абсаджаныя: Берасьце ў 1944-46 гадох і некалькі месяцаў у 1950 г.; Горадня ў 1945-50 гадох; Пінск у 1945-52 гадох, Вільня 1945-52 гадох. Іншыя беларускія епархіяльныя аседкі пасьля 1944 г. зусім не абсаджваліся.

Колькі ёсьць парахвіяў на абшары БССР? Нельга адказаць нават і прыблізна. Ведама толькі, што іх ёсьць больш у Заходняй Беларусі чым ва Усходняй і што іх агулам ёсьць ня шмат, бо для іхняга кіраўніцтва выстарчае адна епархія.

Ува ўсім БССР усё рэлігійнае дзелаводзтва вядзецца выключна ў расейскай мове і толькі ў гэтай мове гаворацца казаньні. Дзеля ўвядзеньня русыфікацыі і дзеля ўкараненьня савецкае лініі ў «душпастырстве» ладзіліся так званыя «душпастырскія курсы» ў Горадні і Пінску для духавенства несавецкага паходжаньня.

Наагул да кадраў старэйшага праваслаўнага духавенства на Беларусі, хоць яно і было моцна зрусыфікована, савецкая ўлада адносіцца з вялікім недаверам і калі ў гадох 1945/53 раздаваліся духавенству розныя савецкія нагароды, дык з БССР не атрумаў нагароды даслоўна ніводзін сьвятар. З Смаленскае епархіі тэлькі 5 — і гэта тады, калі ўсіх было раздана 253 розных мэдаляў і ордэнаў.

Для папаўненьня кадраў духавенства ад 1947 г. існуе ў Жыровічах Духоўная Сэмінарыя. Праграма навучаньня ў ёй накіравана больш на «практычныя прадметы», гэта значыць, што там аб уласьцівым духоўным выпрабленьні дбаюць найменш. Кандыдаты прыймаюцца ў веку скончаных 18 гадоў. Звычайна кандыдатамі ёсьцы камсамольцы і для таго, каб магчы быць прынятым, вымагаецца рэкамэндацыя ад трох камуністаў. Трэба зазначыць, што для прыняцьця ў сябры камуністычнае партыі вымагаецца рэкамэндацыя толькі двох камуністаў. Відаць такая ўзмоцненая кантроля ўведзена таму, што некаторыя камсамольцы выконваюць рэлігійныя практыкі зусім шчыра, асабліва тады, калі ў камсамол былі ўцягнены пад нейкім прымусам. Вялікую частку сэмінарыстаў складаюць дзеці сьвятароў.

Усё духавенства, нават і найбольш ляяльнае і саветафільскае ўсьцяж знайходзіцца пад надзорам адпаведных агэнтаў. У выніку такога асочваньня адбываюцца чысткі, ахвярамі якіх стаюцца і сьвятары і япіскапы. Нажаль немагчыма даведацца імёнаў вычышчаных сьвятароў, затое ніякім чынам савецкая прапаганда ня можа схаваць долі япіскапаў. І вось доля савецкіх праваслаўных япіскапаў на Беларусі вельмі дзіўная: Горадзенскі яп. Варсофоні (Грыневіч) быў пераношаны некалькі разоў і ў 1953/54 знайходзіўся на пакоі, а цяпер працуе ў Калініне; Менскі арх. Васілі (Ротміраў) ад 1946 г. знайходзіцца «на пакоі»; Пінскі арх. Даніiл (Юзьвюк) арыштаваны ў 1950 г.; яп. Паісі (Образцоў) за 9 гадоў япіскапства быў пераношваны аж 9 разоў і па некалькі месяцаў знайходзіўся ў Берасьці, Гордні і Пінску і двойчы быў на пакоі; Смаленскі яп. Сяргей (Смірноў), які на сваім пасадзе знайходзіўся нязьменна ад 1944 г., сёлета перанесены на пакой «дзеля хваробы» і перш чым было павядомлена аб гэтым перанясеньні, было павядомлена аб назначэньня яго наступніка.

Рэлігійнае жыцьцё вернікаў з некаторага

гледзішча на ўсім абшары Беларусі сталася мацнейшым, чым было калісь і гэта не зважаючы на ўзмоцненую бязбожную прапаганду. Якраз з гэтае прапаганды ў мінулым годзе было магчыма даведацца крыху больш аб тым, як цяпер выглядае рэлігійнае жыцьцё. Агульна кажучы «Звязда» пісала 31-VIII-1954 г.: «Рэлігійныя практыкі... ў радзе мест нават ажывіліся». У Берасьцейскай вобл. быў нават якісьці асабліва пэрыяд «масавага абнаўленьня іконаў» («Звязда» 24. IX. 54). Сьвяты захоўваюцца амаль паўсюдна і агітатары абураюцца, што «У любое рэлігійнае сьвята тут (гутарка йдзе аб Гомельскай вобл.) парушаецца агульны працоўны рэжым. У сьвята Усьпеньня мала хто з калгасьнікаў працаваў у полі» («Звязда» 22. IX. 54).

Інтэлігэнцыя так-жа ня цураецца рэлігійных практыкаў, больш таго, выконваюць іх нават некаторыя партыйцы. Напрыклад карэспадэнт з Добруша абураецца на тэхнічны пэрсанал фабрыкі за тое, што «ёсьць выпадкі, калі інжынерна-тэхнічныя работнікі прадпрыемства трымаюць у сваіх кватэрах іконы, хрысьцяць дзяцей у царкве. Так нядаўна хрысьцілі дзяцей у царкве брыгадзір сартыровачнага цэху, член партыі Н. Смірнова, мэханік сшыткавага цэху В. Лосеў» («Звязда» 22. IX. 54).

Хоць бязбожная прапаганда найбольш накіравана на моладзь, якую ўсякімі спосабамі ўцягваецца ў рады камсамолу, але як відаць з савецкае прэсы, выпадкі выконваньня рэлігійных практыкаў камсамольцамі ёсьць так частыя, што іх ня можа замоўчваць камуністычная прапаганда. Напрыклад з Давыд-Гарадоцкага раёну паведамляецца, што там ёсьць выпадкі выконваньня камсамольцамі рэлігійных абрадаў. Толькі ў адным калгасе ім. Молатава за апошні час павянчаліся 3 камсамольцы. Маюць мейсца факты выконваньня рэлігійных абрадаў камсамольцамі і моладдзю і ў іншых раёнах» («Звязда» 24. IX. 54). За гэткія практыкі вельмі абураецца камсамольская газэта «Чырвоная змена». Напрыклад 16. V. 54 яна была накінулася на гомельскіх камсамольцаў за тое, што яны «трапляюць у павуціньне царкоўнікаў і сэктаў». Студэнты так-жа не абыякавыя да рэлігійнага жыцьця, бо і на іх наракае камуністычная прэса, закідаючы студэнтам Горадзенскага сельска-гаспадарчага інстытуту, што яны «слаба ўяўляюць рэакцыйную сутнасьць рэлігіі» і заклікае адпаведныя ўстановы «ўзмоцніць прапаганду матэрыялістычнага сьветапогляду сярод студэнцкае моладзі» («Звязда» 26. VIII. 54).

Для праваслаўных беларусаў няма абсалютна ніякіх выданьняў у беларускай мове. Наагул у СССР рэлігійных выданьняў ёсьць вельмі мала. На Беларусь прыходзяць усяго некаторыя выданьні ў расейскай мове Маскоўскае Патрыярхіі і то толькі для духавенства.

Прыглядаючыся да тых пераменаў, якія сталіся ў савецкай Праваслаўнай Царкве на Беларусі за апошнія гады, можна сьцьвердзіць дзіўную разьбежнасьць. Калі на абшары БССР афіцыяльныя савецкія праваслаўныя кіраўнікі зьменшвалі лік епархіяў і парахвіяў, дык у тым часе камуністычная прэса падняла крык аб узросьце пабожных практыкаў. Адгэтуль можна дагадвацца, што рэлігійнасьць вернікаў заўдзячвае свой уздым не афіцыяльнай савецкай Царкве, а якімсьці іншым дзейнікам. Праўда часам савецкая прэса наракае так-жа на дзейнасьць некаторых душпастыраў і на Жыровіцкі манастыр. Напрыклад старшыня Жыровіцкага сельсавету цешыўся, калі прыехаў прапагандыст, які меў дапамагаць змагацца з рэлігіяй, бо маўляў Жыровіцкі манастыр залішне «дзейнічае» («Маладосьць» Менск, лістапад 1954), але ў даным выпадку хіба-ж больш чым духавенства мае ўплыў на вернікаў самое мейсца ласкаў — цудатворная ікона Жыровіцкае Багамаці.

Аб існаваньні нейкага «катакомбнага» праваслаўнага духавенства на Беларусі, не падпарадкаванага Маскоўскаму Патрыярху, няма ніякіх вестак. Да 1945 г. такія сьвятары яшчэ былі, але потым супраць іх вялася вельмі вострая барацьба і ўсіх тых «упартых», якія адмовіліся прызнаваць Маскоўскага Патрыярха бязьлітасна зьліквідавана, як ворагаў народу.

Уласьцівым кіраўніком савецкае Расейскае Праваслаўнае Царквы на Беларусі зьяўляецца камуніст І. Семёнов, упаўнаважаны па справах Расейскае Праваслаўнае Царквы пры Савеце міністраў БССР.

## КАТАЛІЦКАЯ ЦАРКВА

Цяпер на Беларусі асталася толькі Каталіцкая Царква лацінскага абраду; невялікая група каталікоў ўсходняга абраду была зьліквідавана ў 1945 г. Праз нейкі час яшчэ існавала пару ўсходнекаталіцкіх парахвіяў у Беласточчыне, але і яны былі зьліквідованы каля 1947 г.

Вестак з жыцьця Каталіцкае Царквы на Беларусі даходзіць вельмі мала і тыя якія даходзяць звычайна маюць агульны характар. З пэўнасьцю яшчэ можна сказаць, што каталікі на Беларусі ёсьць, аб гэтым пры розных нагодах успамінае савецкая прэса. Напрыклад «Зьвязда» з 11. 6. 1954 пісала: «У СССР каталіцызм пашыраны ў Літве, у заходніх вобласьцях Беларусі і Украіны». Але колькі ёсьць каталікоў на Беларусі? Ніякіх даных да гэтага няма. Ведама толькі, што іх асталася невялікая колькасьць. Шмат каталікоў беларусаў было вывезена разам з палякамі ў 1940 г., шмат дабравольна выехала ў Польшчу ў гадох

1946/47 (больш 600.000 чалавек) на засяленьне прылучаных да Польшчы абшараў, ліквідуючы тым самым цэлыя парахвіі.

Уся каталіцкая ерархія на Беларусі (за выняткам Беласточчыны) зьнішчана, але якоесь кіраўніцтва яшчэ знайходзіцца ў Вільні і адтуль нават прысылаюцца сьвятары ў некаторыя пустуючыя парахвіі. Колькі яшчэ на Беларусі асталося каталіцкіх парахвіяў і колькі ў іх ёсьць парахаў, сказаць нельга. Ведама, што яны ёсьць яшчэ толькі ў Зах. Беларусі.

Наагул палажэньне Каталіцкае Царквы на ўсім абшары СССР азначаецца тым, што да яе бальшавікі адносяцца больш варожа чым да ўсіх іншых веравызнаньняў. Усё вастрыё бязбожнае прапаганды ў першую чаргу накіроўваецца супраць Каталіцкае Царквы. Спаміж бязбожных кніжак і артыкулаў у прэсе, якія зьявіліся ў СССР пасьля 1945 г. большая частка мае выключна супрацькаталіцкі характар.

Каталіцкіх сьвятароў у прэсе абзываюць найгоршымі словамі, на якія толькі здольная савецкая прапаганда. Вось напрыклад, як аб іх адзываецца Янка Брыль у кніжцы «У Забалоцьці днее»: «Рукі... у ксяндзоў больш як ва ўсіх крывавыя. Была жывучай гадзіна — жывучай пакуль што і застаецца. Гэтыя шкодзяць і будуць нам шкодзіць на скону свайго» (стар. 180). У паасобных апавяданьнях пісьменьнікі малююць каталіцкіх сьвятароў, як шпіёнеў, якія маюць зьвязкі з заграніцаю і перахоўваюць супрацьсавецкіх парашутыстаў і партызанаў. Бадайшто адзіным выняткам я гэтага глядзішча ёсьць апавяданьне «Анеля» Аркадзя Чарнушэвіча, апублікаванае сёлета ў часапісе «Беларусь», дзе аўтар між іншым успамінае аб двох ксяндзох, з якіх аднаго старэйшага малюе як шпіёна, што ўцёк з немцамі, а аб другім, які пасьля быў прысланы з Вільні аўтар абзываецца прыхільна і нават цытуе ягоную казань, у якой той новы парах заклікаў «усіх верных каталікоў працаваць шчыра і сумленна, аднаўляць разбуранае, бо савецкая ўлада не забараняе рэлігіі».

Рэлігійнае жыцьцё ў парахвіях абмяжована выключна да ўдзелу ў багаслужэньнях. Праўда гэты ўдзел бывае масавы і прыцягвае моладзь, выклікаючы праз гэта абурэньне ў камуністаў («Звязда» 14. IX. 1954). Нават «многія студэнты Горадзенскага сельска-гаспадарчага інстытуту... слаба ўяўляюць рэакцыйную сутнасьць рэлігіі, асабліва Каталіцкае Царквы і яе цэнтру Ватыкану, як прамое агентуры амэрыканскага імпэрыялізму» («Звязда» 26. VIII. 54).

Для падрыхтоўкі кадраў сьвятароў у БССР няма ніводнае каталіцкае сэмінарыі. Наагул ува ўсім СССР цяпер асталася толькі адна адзінія духоўная каталіцкая сэмінарыя ў Коўне з моцна абмежаваным лікам мейсцаў. У асноўным яна прызначана для летувісаў, але здаецца, што і для іншанацыяльных кандыдатаў ёсьць туды хоць і абмежаваны доступ.

Усе каталіцкія манастыры на Беларусі пазачыняныя, рэлігійныя арганізацыі строга забароненыя.

## СЭКТАНТЫ

Дзеля недастатковае колькасьці праваслаўных і каталіцкіх парахвіяў, а так-жа дзеля матэрыяльных цяжкасьцяў зьвязаных з утрыманьнем сьвятыняў і сьвятароў, цяпер на абшары БССР створаны вельмі спрыяльны грунт для рэзьвіцьця розных сэктаў. Асабліва там цяпер пашыраецца баптызм і штундызм. Сакратар Берасьцейскага абкома Мядзьведзяў пісаў у «Звязьдзе» 24. IX. 54: «На тэрыторыі вобласьці дзейнічаюць царкоўна-малітаўныя дамы. Шмат рэлігійных таварыстваў і сэктаў у Столінскім, Давыд-Гарадоцкім, Камянецкім, Іваноўскім, Высокаўскім і Пінскім раёнах. Царкоўнікі імкнуцца актывізаваць сваё дзеяньне сярод моладзі. Характэрна, што ў сэкты, як правіла, уцягваюцца юнакі і дзяўчаты з адукацыяй 2-3 клясы. Аднак сустракаюцца ў іх і выпускнікі сямігодак. Толькі ў адным Альшанскім таварыстве Давыд-Гарадоцкага раёна для ўступленьня ў сэкту падрыхтована 9 юнакоў і дзяўчат 1932-34 гадоў нараджэньня; каля 20 чалавек моладзі гэтага раёна рыхтуюцца прыняць хрышчэньне».

Падобнае становішча і ў іншых вобласьцях. У Гомельшчыне распаўсюджваецца штундызм. «У самым Добрушы на Пралетарскай вул. сэкта штундыстаў нядаўна адбудавала сабе новы малітаўны дом. Кожную нядзелю сюды зьязджаюцца людзі з Веткаўскага, Церахоўскага, Гомельскага, Рэчыцкага і інш. раёнаў Гомельскае вобласьці на набажэнства» («Звязда» 22. IX. 1954, Нр. 225).

Некаторыя кіраўнікі сэктаў належаць да камуністычнае партыі і там служаць агітатарымі, але некаторыя з іх больш аддаюцца рэлігійнай, як партыйнай працы, выклікаючы гэтым дакор з боку камуністычнае прэсы. Напрыклад на пленуме Горадзенскага гаркома дакараліся кіраўнікоў за тое, што «ў партарганізацыі... працаваў агітатарам сярод рабочых кіраўнік баптыстыцкае сэкты Крыштафовіч. І тут лічылі гэтую зьяву зусім нармальнаю» («Звязда» 14. IX. 1954).

Лікавых даных аб колькасьці сэктантаў на Беларусі і аб іхных грамадах, а так-жа аб колькасьці самых сэктаў — няма.

Ад 1944 г., відавочна па загаду з Масквы, тры сэкты: баптысты, эвангельскія хрысьціяне і хрысьціяне эвангельскае веры або т. зв. пяцідзесятнікі аб'ядналіся разам, утвараючы «Царкву эвангельскіх хрысьціян баптыстаў» і цяпер маюць сваё цэнтральнае кіраўніцтва ў Маскве ды выдаюць часапіс у расейскай мове «Братский вест-

ник». На некаторы час яго выхад быў спынены, але ў 1953 г. аднаўлены.

### СТАРАВЕРЫ

На Беларусі староверамі былі выключна расейцы. Да 1939 г. іх было на беларускім абшары каля 113.000 чалавек двох кірункаў: папоўцаў і беспапоўцаў. Цяпер савецкая улада больш спрытліва адносіцца да папоўцаў так званае Белакрыніцкае згоды. Яны маюць добра зарганізаваную ерархію. На чале старовераў з БССР і балтыйскіх краінаў стаіць Клінецкі і Новазыбкаўскі яп. Веніямін. З боку Маскоўскае Патрыярхіі былі стараньні іх падпарадкаваць сабе, але кончыліся нічым.

На некаторы час для ўсяго СССР было дазволена староверам адчыніць адну школу сьпеву і выдаць некалькі царкоўных календароў.

### ЮДАІЗМ

Да 1939 г. на абшары Беларусі ў невялікім мястэчку Мір знайходзіўся галоўны цэнтр духоўнага жыдоўскага жыцьця ня толькі для ўсяе Беларусі, але так-жа для ўсяе Эўропы. Там быў галоўны эшыбот, у якім можна было стрэнуць навучэнцаў, папулярна званых маламантамі, даслоўна з усіх куткоў сьвету. Там-жа ў Міры 80 чалавек займалася выключна перапісваньнем Торы і дзесянцёраў. У іншых гарадох і мястэчках было шмат хэдараў. У 1939 г., калі бальшавікі занялі Заходнюю Беларусь, усё гэта было зьліквідована. Галоўны эшыбот быў адразу закрыты, а хэдары пазаменьваны на жыдоўскія сямі — і дзесяці-годкі, якія аднак хутка на стараньне самых-жа жыдоў былі заменены амаль паўсюдна ў расейскія школы.

Пасьля нямецкае акупацыі ў гадох 1941/44 на Беларусі жыдоў асталося вельмі мала — ня больш 80.000 чалавек. Цяпер нават у большых гарадох жыдоўскія групы невялікія, а тым самым арганізацыя рэлігійнага жыцьця мае неабы якія цяжкасьці. Хваля антысэмітызму, якая была пракацілася па ўсім СССР яшчэ дакінула свае цяжкасьці. Хоць у 1942 г. савецкая прапаганда паведамляла, што паводля канстытуцыі загварантованая свабода багаслужэньняў, ужываньне вымаганае рытуалам ежы і пад. аднак забарона рытуальнага ўбою, забарона абрэзаньня, выданыя яшчэ ў 1927 г. ня былі адкліканы. Дзеля гэтага ўсяго рэлігійнае жыцьцё жыдоў ува ўсім СССР і асабліва ў БССР вельмі спараліжаванае.

Колькі цяпер адчынена сынагогаў на Беларусі і колькі ёсьць рабінаў, ніякіх даных няма. Характэрна, што ў СССР няма цэнтральнага кіраўніцтва для юдэйскага веравызнаньня; кожны рабін кіруецца незалежна.

Наагул весткі аб жыдоўскім жыцьці на Беларусі, як і аб іхным агульным палажэньні вельмі скупыя, не зважаючы на тое, што жыдоўскі цэнтр у ЗША іх зьбірае вельмі ўважна і калісь іхныя прадстаўнікі нават зьвярталіся па інфармацыі да самога міністра замежных справаў БССР Кісялёва, падчас ягонае бытнасьці ў Сан Франціско.

Да 1939 г. былі на Беларусі ў Троках і Вільні невялікія грамады жыдоўскае сэкты — **караімаў** лікам каля 700 чалавек. Гэтая сэкта і цяпер яшчэ існуе, але гэта ўсяго, што аб ёй ведама.

### ІСЛЯМ

Даволі шматлікая калісь магомэтанская грамада кірунку суньнітаў на абшары Беларусі з цягам часу зьменшвалася і перад 1939 г. іх аставалася на Беларусі каля 5.000 чалавек. Жылі яны гурткамі па гарадох і мястэчках, мелі 60 мэчэтаў і кіраваліся галоўным муфтім. Цяпер магчыма іхны лік збольшыўся, бо на мейсца дэпартаваных беларусаў ў некаторыя раёны прысланы жыхары з Азіі.

Аб сучасным стане ісьляму ў БССР ведама мала што. Можна толькі дагадвацца, што яшчэ існуюць некаторыя мэчэты, але муфтяга ў БССР няма і беларускія магомэтане падлягаюць вышэйшаму кіраўніцтву вызнаўцаў ісьляму эўрапэйскае часьці СССР і Сібіру, якое знайходзіцца ў Уфе (Башкірыя). Для падрыхтоўкі магомэтанскага духавенства на ўсім абшары СССР існуе праўдападобна толькі адзін мэдраш, у які прымаюць студэнтаў у веку скончаных 28 гадоў і навука там трывае 7 гадоў.

---

Вось тыя важнейшыя весткі аб рэлігійным жыцьці на Беларусі, якія было магчыма здабыць з бальшавіцкае прэсы. Скупыя яны, але з другога боку і вымоўныя якраз гэтаю скупасьцю, бо-ж тым самым яны сьведчаць, што наагул рэлігійнае становішча ў Беларусі такое, якім ня можа пахваліцц савецкая прапаганда.

# Каго мець за ўзор?

Звычайна кожны чалавек мае нейкі ідэал, да якога імкнецца і нейкі ўзор, якім хоча стацца. Толькі людзі ветраннага характару, або зломаныя жыцьцём здавальняюцца тым, каб абы як пражыць дзень да вечара.

Калісь у часы больш шчырае пабожнасьці ўзорам для насьледаваньня былі сьвятыя. Іхныя цноты, іхныя ўчынкі, іхныя адносіны да Бога і да бліжніх былі тым ідэалам да якога мусіла накіроўвацца людзкое жыцьцё. Зразумела, што пры

такіх адносінах кожны ўважаў сваім абавязкам ведаць біяграфіі прынамся больш ведамых сьвятых і між імі абавязкава таго сьвятога, якога імя сам меў і жыцьцё патрона свайго краю. У тых часох да гробаў сьвятых ішлі нязьлічаныя паломніцтвы, здабываліся хоць-бы дробныя часткі іхных мошчаў..:

Але чаго людзі не надужываюць?! І культ сьвятых з часам стаўся ахвяраю нясумленных здзінак, якія стараліся прыдбаць сабе багацьцё на людзкой пабожнасьці. Разам з сапраўднымі мошчамі яны пачалі распаўсюджваць сфальшаваныя; для прыдбаньня большага розгаласу тым сьвятым, аб якіх захавалася мала гістарычных вестак, выдумоўвалі найбольш дзівосныя прыгоды; замест сапраўднае сьвятасьці зьвярталі больш увагу на аскетычныя крайнасьці. Іншыя зноў кідаліся ў іншую крайнасьць, замяняючы культ сьвятых на іхняе абагаўленьне.

Усе падобныя надужыцьці потым пратэстанты выкарысталі для адкіненьня ўсякае пашаны адносна сьвятых быццам нейкага ідалапаклонства. Сталася сапраўды як з тою сьляпою маткаю, якая памыўшы дзіця, выліла яго разам з памыямі. І сёньня, як ні дзіўна, але паўсюдна адчуваецца што пратэстанцкія адносіны да сьвятых паволі пранікаюць і ў каталіцкае і ў праваслаўнае асяродзьдзе. Праўда ад некаторага часу гэты ўплыў значна зьменшваецца.

Адначасна заўважваецца падзівугодны факт. У тым асяродзьдзі, дзе зьменшваецца культ да сьвятых, пашыраецца культ да абыякіх людзей. Апарожненае мейсца сьвятых у жыцьці чалавека нідзе ня пустуе. У хатах, дзе зьніклі са сьценаў абразы і іконы сьвятых, іхняе мейсца занялі абразы і фатаграфіі розных кінавых зорак, спартовых чэмпіёнаў, баксэраў, палітычных дзеячоў і пад. Прабег нехта пару кілёмэтраў хутчэй на адну сэкунду ад іншых — і ўжо стаўся «слаўным» чалавекам Аб ім расьпісваюцца ў газэтах, публікуюць ягоныя фатаграфіі. А якое ягонае жыцьцё, якія паводзіны да сваіх бліжніх? Гэтым ніхто ня цікавіцца.

Абвесьцяць нейкую кабету кіноваю ці тэатральнаю зоркаю і праслаўляюць яе на ўсе лады і ў газэтах, і ў радыё, і ў кінах, не зважаючы на тое, што яна магчыма некалькі раз разводзілася, што пашырае навокал сябе агіднае маральнае гнільлё. — Гэта называецца сучасны «ідэал».

Яшчэ горш у таталітарных краінах, дзе сіламоц забараняецца культ сьвятых. Там адносна палітычных верхаводаў уводзіцца культ куды больш чым культ да сьвятых, хоць тыя верхаводы вельмі часта маюць такое сумленьне, што як гэта вобразна выказаў адзін беларускі пісьменьнік, «каб яны памылі сваё сумленьне ў Беламорскім канале, дык-бы мора Белае пачарнела».

Усё гэта відавочна адбіваецца на маральным узроўні сучаснага жыцьця Абцяжэньне жыцьцёвых умоваў не зважаючы на вялікі поступ матэрыяльнае культуры ня ёсьць ані прыпадковым зьявішчам, ані не абаснованым.

Усьведаміўшы сабе гэтыя сумныя факты, мусіць узьнікнуць само сабою жаданьне пазбыцца іх. Дзеля гэтага варта разабрацца прынамся ў галоўных рысах у наступным: калі чалавек мае схільнасьць аддаваць чэсьць і пашану адносна іншых, калі шукае для сябе ўзору, дык каму і якая чэсьць належыць? і каго мае мець за ўзор?

Зачнем ад Бога, бо-ж Ён валадар сусьвету.

Богу ад чалавека належыцца найбольшая чэсьць і пашана, якую называем богапашанаю. Толькі Бога мы можам і мусім абагаўляць — гэта значыць услаўляць Яго як абсалютнага валадара ўсяго сусьвету. І хто з людзей вызначаецца богапашанаю, здабывае цноты, верна захоўвае Божыя і царкоўныя прыказаньні — той стае сьвятым. Некаторыя сьвятыя здабываюць на толькі гэраічныя цноты, што Царква іх абвяшчае агульна прызнанымі сьвятымі і ўстанаўляе для іх адпаведны культ. Праз іх можна зьвяртацца з малітвамі да Бога, прасіць заступніцтва, насьледаваць іхныя цноты і добрыя учынкі, маляваць іхныя абразы, шанаваць іхныя мошчы, калі адпаведная царкоўная ўлада сьцьвердзіць, што яны аўтэнтычныя.

Акрамя выяўленых, урачыста кананізаваных сьвятых, ёсьць яшчэ нязьлічаная колькасьць сьвятых нявыяўленых і гэта на іх чэсьць устаноўлена сьвята Усіх Сьвятых.

Спаміж усіх сьвятых найбліжэй да Бога стаіць Найсьвяцейшая Дзева Марыя, таму Ёй належыцца асаблівая пашана і чэсьць.

Ці культ да сьвятых засланяе сабою Бога? Ці справядліва называць культ сьвятых свайго роду ідалапаклонствам? Ніколі! Культ, які Царква ўстанавіла для сьвятых служыць толькі дзеля таго, каб больш услаўляць Бога. Да сьвятых зьвяртаемся толькі таму, каб яны ўспамагалі нашыя малітвы перад Богам, каб заступаліся за нас. Заступніцтва сьвятых можна прыраўняць да якогась мэгафона, што ўзмацняе і ачышчае нашыя слабыя і нягодныя малітвы так, каб іх Бог выслухаў. Аддаючы чэсьць сьвятым гэтым самым і мы зьбліжаемся да Бога. Вось-жа культ сьвятых ня толькі не засланяе сабою Бога, але вядзе людзей да Бога, бо-ж няма сьвятасьці бяз Бога.

Зьвяртаючыся да сьвятых мы можам і мусім заахвоціцца да насьледаваньня іхняга жыцьця і цнотаў. Бязумоўна найлепшым узорам для людзей ёсьць Хрыстос. Сам Ён, зьвяртаючыся да апосталаў казаў: «Я даў вам прыклад, каб як Я зрабіў вам, гэтак і вы рабілі» (Ів. XIII, 15). Але ў некаторых сваіх цнотах Хрыстос як Богачалавек ёсьць бесканечна дасканалы, а сьвятыя гэта такія-ж сьмяротныя людзі як і кожны з нас. І ка-

лі яны маглі жыць свята, захоўваючы Божыя прыказаньні, здабываючы гэройскія цноты, дык гэтаe-ж можа кожны з нас. У ліку сьвятых ёсьць людзі ўсякага ўзросту, ўсякага стану, ўсякага паходжаньня: і бедныя і багатыя, сяляне і валадары, невукі і вучоныя, старыя і дзеці, духоўныя і сьвецкія, слаўныя і абясслаўленыя. Яны за жыцьця азначаліся тым, што ўсім сваім жыцьцём, сваімі ўчынкамі ўслаўлялі Бога, рабілі дабро для ўсіх людзей, і па сьмерці ня спыняецца іхны дабрадзейны ўплыў на тое асяродзьдзе, дзе да іх зьвяртаюцца.

Што да сьвецкіх вызначных людзей, дык адносна іх ужо адвечным звычаем выраблены пэўныя нормы пашаны, але гэтая пашана ніколі не павінна пераходзіць у культ, у абагаўленьне. Чацьвёртае Божае прыказаньне, якое загадвае шанаваць бацькаоў, мае на ўвеце так-жа пашану да старэйшых і да дзяржаўных кіраўнікоў. Аднак гэтая пашана не забавязвае ані да ўслаўленьня, ані да насьледаваньня іхняга жыцьця. Толькі тыя людзі могуць быць узорам для іншых, якія сваім цнатлівым і пабожным жыцьцём могуць узьняць чалавека, умацаваць яго ў добрым, заахвоціць да практыкаваньня цнотаў.

Адносна розных «зоркаў», якія блішчаць толькі ў зачаджаных зборышчах і якія часта цягнуць у балота, дзе топчуцца найбольш далікатныя людзкія пачуцьці, а так-жа адносна тых чэмпіёнаў, якія сеюць навокал сябе калецтва і бязглуздую пыхцікаватасьць — дык бязумоўна яны не заслугоуваюць ніякае ўвагі. Асабліва моладзі неабходна зьвярнуць на гэта ўвагу. Бо маючы ад Бога даны нахіл жыва цікавіцца і захоплівацца тым, што чым колечы вырозьніваецца з шэрае грамады, моладзь нораз памылкова прымае блудныя агеньчыкі за сапраўдныя сьветачы, ня ведаючы таго, што над багнаю часта скачуць зводныя блудныя вогнікі.

Толькі тое можа быць узорам годным чалавека, што служыць да разьвіцьця ўсіх людзкіх здольнасьцяў, што ўзбагачвае духовае жыцьцё, уздымае годнасьць чалавека і перадусім тое, што спрыяе збаўленьню людзкое душы — найбольшага нашага скарбу. А такімі ёсьць волаты людзкога духа — сьвятыя.

# ЖАРСТОКІ ШЛЯХ СЛАВАЧЧЫНЫ

Некалькі дзён таму назад у Остэндэ я ў масе падарожнікаў паволі прайходзіў каля розных мытных і кантрольных урадоўцаў, накіроўваючыся да карабля. Палагодзіўшы фармальнасьці, падарожныя сьпяшаліся на карабель, каб там заняць выгаднейшае мейсца і гэтак скараціць не заўсёды прыемнае падарожжа з Остэндэ ў Дувэр. Толькі два чалавекі йшлі паволі: жанчына гадоў пад шэсьдзесят і шмат ад яе малодшы мужчына.

На тле эўрапэйскіх падарожнікаў, асоба жанчыны вельмі вырозьнівалася і сваімі паводзінамі і сваім выглядам. Як толькі ўсе расьселіся на караблі і крыху супакоіліся, мне карціла ўбачыць зноў тых нязвычайных падарожных. Думаю: дай прайдуся па караблі, мо' спаткаю знаёмага, а мо' каму як сьвятар дапамагу; усяк здараецца.

Прайшоўшы некалькі заляў, я заўважыў у адным больш зацішным рагу пострапу тую жанчыну, што кінулася мне ў вочы яшчэ ў дарозе да карабля. Сядзела яна адзінока, злажыўшы мазалістыя паморшчаныя рукі быццам у касьцеле. Яе вялікія сінія вочы глядзелі спакойна у марскую далячыню. Рэгулярныя рысы аблічча поўныя суровае павагі былі адначасна так простымі, што ў іх ня цяжка было вычытаць гісторыю яе жыцьця. На галаве і на плячах былі хусткі, завязаныя так як і ў беларускіх вясковых жанчын. Што за супрацьлеглaсьць між яе вопраткою і тымі вояжэркамі ў дудкаватых портках, з вымазанымі губамі і ногцямі, з папяросамі ў зубах, з валасамі скудлачанымі на сартраўскі манер быццам у тых лясных дзікуноў, што яшчэ ня ўмелі зрабіць грэбеня.

Падыходжу да сялянкі і пытаюся:

— Ці спадарыня гутарыць пабеларуску?

— Не, я славачка, — адказвае пaславацку.

— Вы хіба разумееце чэскую мову?

— Так, крыху разумею, але ніколі ня гутару пачэску. Нават апошнія нядзелі ў Празе, калі камуністы гутарылі да мяне выключна пачэску, я ім заўсёды адказвала пaславацку.

— Дык вы нядаўна з чэскае Прагі? — Пытаю зьдзіўлены.

— А вы, каталіцкі кнэзь (сьвятар)? — Адказвае яна запытаньнем.

— Так, я каталіцкі сьвятар, выгнанец беларус.

Бачу аблічча жанчыны зазьзяла радасьцю, а ў вачох заблішчэлі пэрлы сьлёзаў. Хвіліну памаўчаўшы, яна кажа:

— Я малілася да Сьвятога Духа, каб не пакінуў мяне адзінокаю ў гэтым вялікім падарожжы і Бог паслаў мне вас. Я еду да мужа ў Канаду. Што дагэтуль да мяне гаварылі немцы, французы, ангельцы, я нічога не разумела..

Дзьмухнуў мацнейшы вецер і на пострапе сталася халаднавата. Запрашаю спадарожніцу ў салён, заказваю па шклянцы піва. Мая спадарожніца гаворыць выключна пaславацку і я змушаны часам паясьняць некаторыя беларускія словы польскімі, украінскімі і Бог ведае яшчэ якімі, каб толькі згаварыцца. Нягледзячы на свой просты

сялянскі выгляд сп-ня С-ва ёсьць даволі інтэлігэнтнаю і вялікаю славацкаю патрыёткаю, добра разьбіраецца ў сучасных падзеях свае краіны.

— Як цяпер выглядае рэлігійнае жыцьцё ў Славаччыне? — пытаю.

— Перш у Славаччыне было шэсьць каталіцкіх біскупаў; пяць лацінскага абраду і адзін грэка-каталік. Цяпер усе біскупы, за выняткам Кошыцкага, кудысьці вывезены і няма ведама, ці яшчэ жывыя. Кошыцкі астаецца магчыма таму, што ён вельмі старэнькі. Зрэштаю і яго воля-няволя, бо куды-б ён не парушыўся, ад яго ні на крок не адступаюць «чорныя анёлы»... На парахвіях сьвятары яшчэ ёсьць. Царкоўныя землі ўсё сканфіскованыя, але некаторыя сьвятары дагэтуль атрымоўваюць ад дзяржавы невялікую суму грошаў. Гэта прадаўжэньне яшчэ габсбурскае традыцыі. На багаслужэньнях касьцёлы перапоўненыя. Званы звоняць, але працэсіі забароненыя, аднак ня гледзячы на забарону яны нам так дарагія, што мы іх зрабілі ў крыжовыя дні. Усе людзі, а нават частка ўрадоўцаў вітаюцца хрысціянскім прыветам: «Пахвалёны Езус Хрыстус!» ня гледзячы на тое, што заўзятыя камуністы з гэтым змагаюцца.

Тут спадарожніца расказвае аб адным сьмешным здарэньні на тле прывітаньня. Прыйшоў аднойчы селянін у валасную ўправу і прывітаў урадоўца пахвалёнкай. Урадовец, глянуўшы злосна на селяніна, паказаў яму дзьверы, кажучы: Ідзі дамоў! Тады буду гаварыць з табою, калі пакінеш забабоны і прывітаешся, як прагрэсыўны грамадзянін». Назаўтра прыходзіць селянін да таго самага ўрадоўца і... адсякае яму трохпавярховую расейскую мацершчыну. Урадовец зьбянтэжыўся, а селянін на гэта: «Што, не спадабалася і прагрэсыўнае прывітаньне?»...

— А калгасы маеце? — пераходзячы на іншую тэму, пытаю далей цётку.

— Калгасаў у Славаччыне няма, але ўжо ад трох гадоў не смакавалі свайго хлеба. Усё трэба аддаваць за марныя грошы дзяржаве, а пасьля ад дзяржавы купляць. Дагэтуль сяляне маюць сваю зямлю і свой статак, але выкананьне плянаў, вызначаных дзяржаваю, пераходзіць змогу сялян. Ежы, вопраткі і абутку нехапае. У калгасы аднак ніхто ня хоча йсьці, кожны ведае, якая гэта зараза...

— Ці па вёсках ёсьць камуністы расейцы?

— Не, толькі сям-там па гарадох. Народ ня любіць і высьмейвае так-жа сваіх камуністаў, а яны помстуюць. Час-ад-часу людзі зьнікаюць. Іх вывозяць у Яхімава, канцэнтрацыйны лягэр у Чэхіі; там уранавыя шахты.

— Ці слухаюць славакі радыёперадачаў з вольнага сьвету?

— А як-жа! Цяпер нават не караюць тых, каго зловяць, слухаючы замежныя перадачы, але адбіраюць радыёапарат.

— Хто пераможа, камунізм, ці славацкі народ?

— Нам нічога не зрабілі немцы, чэхі, нам нічога ня зробяць і русы. — адказвае цётка з непахіснаю вераю.

— Як-жа гэта вас выпусьцілі за граніцу?

—Мой муж у Канадзе ўжо даўно. Зрабілі мяне нейкаю наведамай нацыянальнасьці, муж прыслаў грошы і выпусьцілі. — Тут паказала мне пашпарт, два лісты і паперы з надрукамі ў трох мовах: расейскай, чэскай і францускай. Перакідваю яго вачыма: год нараджэньня — 1898, вочы —модрэ, аблічча — круглае... аб тым, што С-ва ёсьць славачкаю няма ні слова.

Яшчэ пару пытаньняў:

— А ці вы ведалі Глінку, Тісо?

— О, так! — адказвае глыбока ўздыхнуўшы, і зноў у яе чыстых, модрых вачох заіскрыліся сьлёзы. Далей размова ніяк ня клеілася. Мы абое глядзелі праз шыбы вакна на мора. Я быў пераканаы, што мы абое перажывалі аднолькавую трагэдыю: мая спадарожніца — Глінкі і Тісо, а я — Каліноўскага, Адама Станкевіча...

Карабель паволі набліжаўся да Дуўра. Пераносіны рэчаў, праверка клумкаў, што дазволілі камуністы забраць з сабою маёй спадарожніцы, лішні раз пацьвердзілі наша сіроцтва. Калі мы селі у вагон, больш ўжо ня гутарылі з сабою, а з Богам. Славачка дастала малітаўнік і чоткі, я зрабіў тое самае. Скончыўшы малітвы, яна прасьцягнула да мяне руку, гэтым разам з абразком. Бяру яго і ўважна аглядаю; захапіў ён мяне сваею простасьцю і прыгажосьцю. Па ўсхваляваных водах плыве невялікі човен, у ім сядзяць тры асобы: ля стырна Хрыстос а на лаўцы з вёсламі ў руках хлапец і дзяўчына. На адвароце малітва ў славацкай мове, якую напісаў адзін з сьвятароў у 1954 г. Малітва ня хітрая, але моцная і дата рнаваная да камуністычных абставінаў.

— Адкуль вы маеце такі прыгожы абразок?

— У нас, у Славаччыне сьвятары раздаюць шмат падобных абразкоў, хаця ўсе друкарні пазабіраныя камуністамі...

Прыехаўшы ў Лёндан, разам з прадстаўніком тае кампаніі, якая адказная за падарожжа сп-ні С-вай у Канаду, едзем у гатэль. На наступны дзень кантактую яе з суродзічам, ведамым славацкім дзеячом у Лёндане др. П. П. Выявілася, што яны ня толькі суродзічы, але і з тых самых ваколіцаў. С-ня С-ва мае інтэрв'ю з карэспандэнтамі ББС і гаворыць у радыё да славацкага народу. І ў часе гутаркі, як і ў часе падарожжа яна заўсёды тая самая: простая, пабожная і шчырая патрыётка. На разьвітаньне ўсе мы жадаём ёй шчасьлівага падарожжа.

**а. Ч. С-ч**

# КАЛЯДНЫЯ КАНІКУЛЫ

**(Працяг 6-ы да апавяданьня «Няведамыя шляхі»)**

Задоўга да Калядаў у хаце Зосі Протас чакалі ліста ад Андрэя з весткаю аб дакладнай даце калядных канікулаў. Сёлета Аленка спадзявалася, што як і ў мінулым годзе, ліст прынясе староста і дзеля гэтага прахукала цэлую шыбу ў замёрзшым вакне, каб сачыць за кожным, хто прайходзіў па вуліцы і каб першаю магчы згледзяць старасту. Праўда мароз хутка замалёўваў нанава тую шыбу і Аленка, як толькі знайходзіла вольную хвіліну, зноў пачынала прахукваць ваконца ў шыбе і пры тым ужо каторы раз пыталася ў маці:

— Мама, летась ужо за тры тыдні да Каляд дзядзька рыхтаваўся ехаць у Наваградак, а чаму гэта сёлета Андрэйка нічога да гэтага часу не напіша?

— Бо яшчэ больш як тры тыдні да Каляд — адказвала маці, а сама пры гэтым думала: «чаму ён праўды да гэтага часу нічога не напіша?»

Якраз таго дня вечарам, пасьля гэтае размовы, ідучы да цёткі Палусі, Зося стрэнула на вуліцы Канона Берага.

—Чакай Зося — перапыніў ён яе — маю для цабе нешта.

— Што-ж ты такое маеш для мяне?

— А вось глядзі! — Пры гэтым выцягнуў з-за пазухі нейкую запіску.

— Ліст ад Андрэйкі! Вось дзякую табе. Але дзе-ж ты яго ўзяў?

— Вось ня пытайся шмат. Ты адно нікому не кажы. Гэта я ўчора з сваім старым езьдзіў да катарыюся, і там у заезьдзе неяк Андрэй мяне апытаў і перадаў.

— Чаму-ж ты мне не аказаўся, што паедзеш?

— Чаму?! Таму, што і цяпер цябе прашу, каб нікому аб гэтым нічога не гаварыла.

Ад таго дня маці і Аленка кожны вечар рахавалі дні, а Габрусік, хоць і ня зьвяраўся нікому з сваімі думкамі, але часта думаў, ці Андрэй прывязе які гасьцінец.

Калі нарэшце дзядзька Сьцяпан паехаў у Наваградак, Аленка адразу ўзялася замятаць і прыбіраць хату, а маці пачала падходжвацца каля гаспадаркі і пры гэтым Габрусік ёй мусіў памагаць, каб яшчэ здужаць дапамагчы падхадзіцца братавай.

Позна вечарам, як толькі заскрыпелі сані на панадворку, усе хатнія кінуліся да дзьвярэй, але Андрэй адчыніў іх першы.

— Добры вечар, мама!

— А мой-жа ты сыночак, як-жа ты здароў гадуешся...!

Андрэй з пашанаю пацалаваў руку маці; яна на мамэнт быццам сумелася, але як ён толькі выпрастаўся, моцна пацалавала ў вусны і шчокі ды з радасьцю глядзела, як ён вітаўся з сястрою, братам і цёткаю.

Пачаліся звычайныя распытваньні, але раптам маці схамянулася.

— Мы ўсё тое ды гэтае, а вы-ж з дарогі прамерзьлі і мусіць выгаладаліся за цэлы дзень.

Як бачыш на стале зьявілася цёплая страва і лыжкі дружна захадзілі па місе, толькі адна лыжка Зосі ляжала на стале незакраненая. Маці ня зводзіла вачэй з сына. Яна адразу заўважыла, што ён падрос і паблажэў ды неяк крыху зьмяніўся.

Пасьля вячэры Андрэй выцягнуў з свайго клунка дзьве невялічкія, але прыгожа ўкручаныя пачачкі.

— А гэта вось табе Аленка і табе Габрусь гасьцінец.

— Гэта-ж нейкія сухарыкі і цукеркі; дзе ты іх узяў — з цікавасьцю пыталася маці.

— Вельмі проста ўзяў, купіў; ды яшчэ за свае грошы.

— Ты-ж забылася, што ён ужо вучыць нейкіх панскіх дзяцей, дае ім лекцыі, — замест Андрэя адказаў Сьцяпан.

На дварэ было сьцюдзенна і цёмна, а ў зосінай хаце было радасна і цёпла. Рэдка яна бачыла такія дні, але шмат хто з багатых і магутных мог пазаздросьціць іх. Некалькі бліжэйшых родных і суседзяў зьявіліся ў хату, каб падзяліцца зосінаю радасьцю, а іншыя аднавяскоўцы знайходзілі нейкую справу, каб прайсьціся каля гэтае хаты і хоць праз вакно цікнуць у сярэдзіну, але ўбачыць яны нічога не маглі праз замёрзшыя шыбы. А Якуб Брыль, адзін з багацейшых гаспадароў, што ня пусьціў свайго сына ў замкавіцкую школу, калі той прасіўся йсьці туды разам з Андрэйкам, прымудрыўся заглянуць у хату праз тую шыбу, што прахуквала Аленка. Якраз Андрэй штосьці апавядаў, усе ўважна слухалі, а потым дружна засьмяяліся.

— Бачыш ты, што з гэтага заморка выходзіць, а бывала і смаркачоў ня мог абцерці пад носам... Як разыйшоўся... І халерая яго не бярэ... — мармытаў сабе пад носам Якуб, ідучы ад акна і хаваючы голаву ў высокі бараны каўнер новага кажуха.

Наступнага дня Андрэй адведаў свайго калішняга найлепшага сябру Барыса Хадуна і разам з ім пайшоў вечарам на пасядзенікі. Там усе спачатку глядзелі на яго, быццам бачылі першы раз. Гэта было дзіўна для Андрэя, бо-ж усяго чатыры месяцы таму ён, працуючы на полі і на сенажаці, здавалася нічым ня розьніўся ад сваіх вясковых сяброў. Але пачалася гутарка аб што-

дзенных навінах, пасыпаліся вясёлыя жарты і сьцяна, што іх дзліся, няпрыметна зьнікла, толькі дзяўчаты паглядалі на яго ўпотай і ўпотай сачылі адна за другою, каторая паглядае больш.

Пакуль Андрэй быў удома на канікулах у Стараброды часьцей заглядала паліцыя з Замчышча, і пад вакном зосінае хаты часта мігалі розныя патаёмныя цені.

Дзесяць дзён канікулаў мінула для Андрэя як маланка. І не агледзяўся ён, як трэба было ехаць назад у бурсу. Быў якраз другі дзень Каляд па старым стылю. Дзядзька Сьцяпан рыхтаваў сані, а маці складала бялізну, напаўняла розныя мяшочкі і торбачкі харчамі. Раптам на вуліцы пачуліся гукі гармоніка і бубна. Гэта равесьнікі Андрэя ладзілі вечарыну. У мінулыя гады ён такжа ад'язджаў на другі дзень Каляд вечарам, калі ў вёсцы моладзь танцавала і было крыху сумна выязджаць у такі час, але цяпер, калі ягоныя равесьнікі выходзілі ў дзяцюкі, яму вельмі карцела ў гэткі вечар быць разам з імі. Але заўтра рана яго ўжо чакалі заняткі ў гімназіі, а вечарам аж дзьве лекцыі. Ды ўжо ўсё было гатова да ад'езду, дык што думаць аб чым іншым. Але на Коляды каля царквы Андрэй дагаварыўся з сваімі сябрамі з Семакоў, што паедуць разам, а тымчасам семакоўцаў чамусьці ня было, дык ён наважыўся хоць на хвіліну заглянуць на вечарыну.

— Мама, я пайду разьвітаюся з хлопцамі.

— Ідзі, але ня баўся.

Дзязька глянуў на Андрэя, на Зосю і нічога не сказаў.

Пад гукі гармоніка і скрыпкі андрэявы равесьнікі скакалі такую імклівую польку, што здавалася аж падлога ўгіналася пад іхнымі нагамі. Маладосьць бурапенна вырывалася з шэрага штодзеннага вясковага жыцьця. Круг танцораў тварыў якісьці вір, які цягнуў да сябе глядачоў. Андрэй спыніўся ля парога ў невялікім гуртку старэйшых жанчын. Усе з такім зацікаўленьнем глядзелі на танцораў, што спачатку ніхто не зьвярнуў увагі на яго, але як толькі скончылася полька адразу каля Андрэя знайшоўся Барыс Хадун і цягнуў яго на покуць. Ледва адпрасіўся ад яго, хоць у глыбіні душы хацелася паслухаць просьбу і разам з сваімі равесьнікамі кінуцца ў вір маладога жыцьця. Барыс паімчаўся да музыкантаў і ў гэты мамэнт старабродзкая маладая прыгажуня Вера Голуб успомніла, што мае смагу і кінулася да дзьверэй.

— А, і Андрэй тут! — зьдзівілася яна, быццам убачыла яго неспадзевана.

— Вось, як бачыш.

— Чаму-ж ты ня йдзеш далей?

— Бо зараз мушу ехаць. Прыйшоў сказаць табе, бывай здарова і танцуй вясёла!

— Як, нанач паедзеш? — дапытвалася Вера, забыўшыся аб смазе.

— Так выпадае, бо заўтра рана трэбыць ужо быць ў школе.

Музыка ўрэзала кадрыля, а ў дзьверах паказалася Зося. Вера заўважыла яе першая і пасьпяшыла ў сені.

— Андрэйка, ўжо семакоўцы прыехалі. — Ціха гаварыла маці, лагодна бяручы ято за плячо.

Не разьвітваючыся з нікім, Андрэй і маці выйшлі на двор. Пад нагамі рыпаў сьнег, мароз чапляўся за аблічча і за вушы. На вуліцы было ціха, толькі да вушэй Андрэя даходзілі слабеючыя гукі музыкі і бубна.

Праз колькі хвілін у хаце ўдавы Зосі запанавала сумная пустка. Цяпер ніхто не затрымоўваўся, каля вакон, толькі месяц зерыў у іх праз усю ноч. Так ужо ад вякоў вядзецца, што кожны бачыць, як сірата скача, але ніхто ня бачыць, як сірата плача.

Праўда, цяпер Зося ўжо ня плакала і Андрэй ня лішне сумаваў; жыцьцёвыя цяжкасьці ўжо не палохалі яго, яны цяпер здаваліся яму зусім нармальным зьявішчам і яму было прыемна іх перамагаць.

Далёкая дарога ноччу выдаецца яшчэ даўжэйшаю і каб яе скараціць Андрэй з сваімі семакоўскімі сябрамі знайходзілі нейкія нагоды, каб перакінуцца некалькімі словамі з стрэчнымі падарожнымі і так няпрыметна узгоркаватая, цяжкая дарога замест нараканьня выклікала радасьць у спадарожнікаў. Дзядзька Сьцяпан з задаволеньнем глядзеў на пляменьніка і ягоных сяброў, усьміхаўся з іхняе юнацкае бадзёрасьці, якое не маглі прыгонбіць ні доўгае падарожжа, ні люты мароз, ні бяссонная ноч. І чамусьці прыгадаліся яму ўцёкі Хрыста ў Егіпэт: «Такі ёсьць над намі Божы правід і, як Гэрад ня змог загубіць Боскага Дзіцятка, так і варожыя сілы ня змогуць выгубіць на нашай Беларусі ўсяго таго добрага, што Бог пасылае на сьвет», сказаў Сьцяпан сам сабе і моцна пацягнуў лейцы:

— Ну, Сівая, варушыся жвавей, ужо нам ня шмат асталося да мэты!

**А. Жменя**

# НА РЭЛІГІЙНАЙ НІВЕ

## ТЫДЗЕНЬ МАЛІТВАЎ ЗА АБ'ЕДНАНЬНЕ ЦЭРКВАЎ

Як штогод, так і сёлета між 18 і 25 студзеня ўва ўсіх каталіцкіх краінах адбываліся багаслужэньні, канфэрэнцыі і зборкі з адпаведнымі дакладамі прысьвечанымі пытаньню аб'еднаньня ўсіх хрысьціян Не зважаючы на вілікія розьніцы і аграмадныя цяжкасьці, якія стаяць на шляху да аб'еднаньня сам узрост зацікаўленьня да гэтае праблемы ёсьць вымоўным знакам часу.

## УСТАНАЎЛЕНЬНЕ ЕРАРХІІ Ў БІРМЕ

Бірма — краана дзе на 18 з палавінаю мільёнаў жыхарства ёсьць усяго 152.000 каталікоў, а рэшта пераважна буддысты. Да гэтага часу там, як у краіне місіяў, каталіцкая ерархія мела місійны характар. Нядаўна Сьвяцейшы Айцец устанавіў у Бірме нармальную каталіцкую ерархію, дзелячы ўсю краіну на дзьве правінцыі з чатырмя дыяцэзіямі.

## ПАВОДКА СЭКТАЎ У ЯПОНІІ

Ад 1941 г. да сёньня ў Японіі зьявілася 120 розных новых сэктаў. Некаторыя з іх маюць хрысціянскі падклад, але большасьць вытварылася з буддызму. Між імі ёсьць і такія дзівосныя сэкты, як «рэлігія электрычнае культуры», якая «богам» прызнае Эдісона. Фінансава новыя сэкты, не зважаючы на малую колькасьць «вернікаў», стаяць шмат лепей, чым парахвіі старых рэлігіяў і таму нават плянуюць місійны паход у новыя краіны.

## ВЫМОЎНАЯ ПЕРАМЕНА

Калішняя гуманістычная бажніца ў Лёндане, у якой на вігражох знайходзіліся партрэты ведамых антыхрысьціянскіх дзеячоў, нядаўна сталася уласнасьцю каталікаў, партрэты бязбожнікаў зьніклі і яна была заменена на каталіцкую сьвятыню. Акт пасьвячаньня выканаў Вэстмінстэрскі Кардынал Я. Эм. Ґрыфін.

## У АРГЭНТЫНЕ НЕСПАКОЙНА

Супрацькаталіцкія мерапрыемствы сучаснае пэроністычнае ўлады ў Аргэнтыне выклікаюць паважны неспакой у краіне, дзе насельніцтва ў 99% ёсьць каталіцкім. Ломячы векавыя традыцыі урад Пэрона правёў закон аб адзьдзяленьні Царквы ад дзяржавы, завёў цывільныя шлюбы, скасаваў навучаньне рэлігіі ў школах, арыштаваў больш дзейных сьвятароў пад прэтэкстам розных крымінальных злочынаў, а да гэтага ўсяго дзяржаўная прэса і радыё праводзяць вострыя атакі супраць духавенства. І гэта ўсё дзеяцца быццам для «дабра» рэлігіі.

## АМЭРЫКАНСКІ СЬВЯТАР ВЫСЕЛЕНЫ З МАСКВЫ

Пасьля сьмерці савецкага экзарха Маскоўскага Патрыярха для З. Ш. А. м. Германэна Кожына, з Масквы выслалі ў З. Ш. А. новага экзарха арх. Барыса Віка. Але 28-га лютага амэрыканскія ўлады адмовілі яму і ягонаму сакратару прадоўжаньня візаў. Тады савецкая ўлада дэманстрацыйна выказала сябе абаронцаю «Праваслаўнае Расейскае Царквы» і як рэпрэсію супраць высяленьня Маскоўскага экзарха адмовіла права пражываньня на абшары СССР амэрыканскаму каталіцкаму сьвятару ў адзінай на ўсю Расею каталіцкай царкве сьв. Людовіка ў Маскве, айцу Бісонэт, загадваючы яму на працягу 4-х дзён пакінуць СССР.

## МАНАСТЫР ЗАМЕНЕНЫ НА ТУРМУ

Калішні манастыр айцоў прэмонстратаў у Сэляў (Усходняя Чэхія) камуністычная чэхаславацкая ўлада замяніла на лягэр для інтэрнаваных каталіцкіх сьвятароў. Цяпер там знайходзіцца каля 150 духоўных манахаў і 10 сьвецкіх сьвятароў. Усе зьняволеныя носяць паласатую вопратку крыміналістых і забавязаныя да цяжкае працы. Шмат з іх цяжка хворых і шмат высьнажаных непасільнаю працаю. Перш камуністы змушалі ўсіх сьвятароў штодзённа слухаць «пераўзгадаваўчыя» даклады палітрукаў, цяпер, пераканаўшыся аб бязуплыўнасьці гэтых дакладаў, пакінулі гэтаю практыку, але затое ўзмоцнілі зьдзек над зьняволенымі

## БІЛЯНС ПРАСЬЛЕДАВАНЬНЯ КАТАЛІЦКАЕ ЦАРКВЫ Ў КІТАІ

За шэсьць гадоў наступу камуністычнае ўлады ў Кітаі супраць Каталіцкае Царквы выгнана Апостальскага інтэрнунцыя, выселена 49 архібіскупаў, біскупаў і апостальскіх прэфэктаў, 17 біскупаў увязьнена, 6 архібіскупаў і біскупаў памерлі ў турмах, выселена 2645 сьвятароў і місіянароў някітайскага паходжаньня, 98 місіянароў увязьнена, каля 200 каталіцкіх кітайскіх сьвятароў памерла ў турмах, сканфіскована 3 каталіцкія унівэрсытэты, забаронена ўсю каталіцкую прэсу. Аднак не зважаючы на ўсе гэтыя насільствы кітайскія каталікі мужна захоўваюць свае рэлігійныя перакананьні.



**Беларускі краявід. Рака Вільля каля Жодзішак.**

# БЕЛАРУСКАЯ ХРОНІКА

**Дзеля вялікага спазьненьня, з якім выходзіць гэты нумар часапісу, тут падаюцца ўсяго больш важныя весткі; уласьціва толькі іх пералічэньне, зьвяртаючы больш увагі на весткі з Бацькаўшчыны.**

## НА МІЖНАРОДНАЙ АРЭНЕ

### Маніфэстацыя ў чэсьць Царквы маўчаньня

Гішпанцы не забываюцца аб прасьледаваных за рэлігію вернікаў у падбальшавіцкіх краінах. У іхнюю чэсьць 27-III была зарганізаваная аграмадная маніфэстацыя ў Мадрыдзе з удзелам прадстаўнікоў амаль усіх паняволеных народаў, у тым ліку і беларусаў. Прадстаўнікі гэтых народаў нясьлі ў паходзе па вуліцах Мадрыду панкарты з напісамі сваіх краінаў. Перад маніфэстацыяю была адпраўлена Служба Божая ў намераньні Царквы маўчаньня. Да шматтысячнага натаўпу сабраных прамаўляў Я. Э. Гарсія-Лягіэра, заклікаючы не забывацца аб прасьледаваных за веру братоў. Спантанічныя і магутныя заклікі: Жыве Беларусь! Жыве Украіна! і пад. з шматтысячных грудзей суправаджалі словы біскупа. За прыкладам Мадрыду падобныя маніфэстацыі ладзіліся ў іншых гішпанскіх гарадох. На асаблівую ўвагу заслугоўвае маніфэстацыя ў Мурсіі з 27-III, дзе пасьля маніфэстацыі беларускі дэлегат меў інтэрвію з галоўным рэдактарам газэты «Ля вэрыдад».

### Сход душпастыраў

З ініцыятывы ўправы Міжнароднага Аб'еднаньня Хрысьціянскіх Сындыкатаў Работнікаў і Эмігрантаў з-за Зялезнае Заслоны (ФІТКРЭ), да якога належыць 12 народаў і між імі так-жа беларусы, адбылася ў Парыжу 23 красавіка, у салі Хрысьціянскага Сындыкату сходка душпастыраў паасобных сындыкальных сэкцыяў, прысьвечаная агульнай тэме: «Нашы мэты і наша місія». На сходзе ўдзельнічаў так-жа гэнэральны вікары для чужынецкіх Місіяў у Парыжу Я. Э. Рюпп. Сходка прайшла ў прыемнай і дзелавой атмасфэры.

---

## 37-ЫЯ УГОДКІ 25 САКАВІКА

З году ў год сьведамая беларуская эміграцыя, расьсеяная па ўсіх кутках вольнага сьвету, у ме-

ру магчымасьці стараецца ўшанаваць угодкі абвешчаньня незалежнасьці Беларусі. Нават найменш актыўныя арганізацыі і групы, праяўляюць сваю дзейнасьць з гэтае нагоды. Свайго часу беларуская прэса ўжо падавала больш або менш дакладныя справаздачы аб гэтых сьвяткаваньнях, таму няма патрэбы іх тут паўтараць, але варта зьвярнуць увагу на што іншае. Ад некаторага часу нашы ўсходнія суседзі і самі пішуць і іншых намаўляюць аб неабходнасьці правядзеньня апытаньня паняволеных Расеяй народаў адносна іхняга жаданьня незалежнасьці пасьля магчымага ў будучыні іх вызваленьня ад бальшавізму. Вымоўны адказ на падобнае пытаньне ўжо сёньня дае ўсюды вольная частка беларускага народу на эміграцыі і голасна кажа на ўвесь сьвет, што ня толькі хоча мець сваю бацькаўшчыну Беларусь вольнаю і ад нікога незалежнаю, але дзеля гэтага не пашкадуе, ніякіх высілкаў і ніякіх ахвяраў. — Такая вымова сакавіковых акадэміяў, а вось кароткае пералічэньне важнейшых з іх:

**АНГЛІЯ.** У **Лёндане** азначэньне ўгодкаў адбылося 26. III у Беларускім Доме з прынагадным дакладам і мастацкаю часткаю, а 31. III ангельцы, прыяцялі беларусаў, ладзілі вялікае прыняцьце ў чэсьць беларускага дня незалежнасьці. У **Брадфордзе** сакавіковая акадэмія адбылася 27. III, у **Кэмбрыдж** беларусы з гораду і ваколіцы разам з госьцямі ладзілі сьвяточную зборку 3. IV. У **Манчэстэры** ў мяйсцовым Беларускім Доме 27. III. пасьля Службы Божае адбылася шматлюдная акадэмія з цікавым прынагадным рэфэратам.

**АРГЭНТЫНА.** Беларусы з **Буэнос Айрэс** і ваколіц памаліўшыся на Службе Божай за Беларусь 27. III. наладзілі сьвяточную акадэмію ў сьвятліцы ЗБА.

**АЎСТРАЛІЯ.** Беларусы з **Адэляіды** і ваколіц масава зьявіліся 27. III. на Службу Божую і пасьля, наладзіўшы сакавіковую акадэмію, доўга не пакідалі салі, дзе запанавала прыязная атмасфэра. У **Мэльбурне** была адпраўлена архірэйская Служба Божая за Беларусь і пасьля адбылася шматлюдная акадэмія. У **Сыднэі** быў адслужаны малебень за Беларусь, а пасьля стараньнем майсцовага Беларускага Аб'еднаньня была наладжана ўрачыстая акадэмія і пачастунак.

**ГІШПАНІЯ.** У самы дзень 25-III у **Мадрыдзе** была адпраўлена Служба Божая за Беларусь, і таго-ж дня, дзякуючы стараньням беларускіх студэнтаў, Гішпанскае Нацыянальнае Радыё перадавала спэцыяльную аўдыцыю з беларускаю прамоваю. З гэтае нагоды некалькі цэнтральных гішпанскіх газэтаў апублікавалі артыкулы і зацемкі аб беларускім нацыянальным сьвяце, а газэта «Мадрыд» апублікавала інтэрвію з беларускімі студэнтамі.

**З.Ш.А.** У **Нью Ёрку** ўгодкі абвешчаньня незалежнасьці Беларусі сёлета азначана больш годна чым калі. 26-III адбылася патрыятычная беларуская радыёперадача праз радыё WEVD, а 27-III пасьля архірэйскае Службы Божае адбылася ўрачыстая акадэмія з багатымі афіцыяльнаю і мастацкаю часткамі. На акадэміі віталі беларусаў шматлікія госьці, між імі губэрнатар штату Нью Ёрк, бурмістр гораду, некалькі сэнатараў, шматлікія амэрыканскія дзеячы і іншанацыянальныя прадстаўнікі. У **Дэтройце** 27-III пасьля багаслужэньня у салі нарадаў Міжнароднага Інстытуту была наладжана акадэмія з зьмястоўнымі рэфэратамі і багатаю мастацкаю часткаю. Беларусаў між іншымі вітаў мічыганскі губэрнатар. У **Чыкаго** на стараньне беларусаў мяйсцовыя ўлады штату Ільлінойс дзень 25-III абвесьцілі беларускім днём для ўсяго штату. У **Філядэльфіі** 27-III адбылася зборка беларусаў з гораду і бліжэйшых гарадоў на супольнай акадэміі — праграма яе была нескамплікаваная, але глыбока патрыятычная. У **іншых** асяродках так-жа ладзіліся зборкі і ўрачыстасьці.

**ІТАЛІЯ.** Невялікая група беларусаў ў **Рыме** складаецца пераважна з духоўных. Усе яны 25-III ахвяравалі свае малітвы і Службы Божыя за Беларусь і наладзілі супольную сходку.

**КАНАДА.** У **Віньніпэгу** стараньнем БНК адбылася ўрачыстая зборка 27-III з багатаю афіцыяльнаю і мастацкаю праграмаю. У **Торонто** стараньнем БНА 27-III пасьля Службы Божае за Беларусь адбылася ўрачыстая акадэмія з вельмі багатаю мастацкаю часткаю.

**НЯМЕЧЧЫНА.** Цяпер цэнтр культурнага і грамадзкага беларускага жыцьця знаходзіцца ў **Мюнхэне** і там 2-IV у салі Нямецкага Музэю адбылася ўрачыстая акадэмія, у якой акрамя мяйсцовых сілаў у выкананьні мастацкае часткі ўдзельнічалі праф. Карповіч з Ольдэнбургу, П. Конюх з Рыму і пару студэнтаў з Лювэну. У тымжа Мюнхэне беларуская сэкцыя радыё «Вызваленьне» 24-III перадавала спэцыяльную Сакавіковую праграму.

**ФРАНЦЫЯ.** У **Парыжу** сакавіковая акадэмія адбылася 27-III. Пасьля ўрачыстае Службы Божае за Беларусь праведзена акадэмію з вельмі зьмястоўнымі прамовамі прэз. М. Абрамчыка і М. Наумовіча і з адпаведнаю мастацкаю часткаю. У **Ля Крэзо** 3-IV пасьля Службы Божае і супольнага абеду беларусы і госьці наладзілі ў салі мэроўства глыбока патрыятычную акадэмію. У **Рубэ** хоць і сьціплымі сіламі, але належна азначана слаўныя ўгодкі Службаю Божаю і сходкаю беларусаў з поўначы Францыі.

Усюды беларуская эміграцыя маніфэставала сёлета перад усім сьветам, што Беларусь жыве і

што беларускі народ нязломна імкнецца да асягненьня свае незалежнасьці, абвешчанае 25-III-1918 году ў Менску.

## БАЦЬКАЎШЧЫНА

### Бязбожная прапаганда

Паводля загаду з Масквы ўва ўсіх савецкіх беларускіх газэтах і часапісах што некаторы час зьяўляюцца супрацьрэлігійныя артыкулы, а ў клубах чытаюцца супрацьрэлігійныя даклады. Відаць аднак, што ўся гэтая сіламоц накіненая кампанія такая супярэчная ў сабе, што некаторыя артыкулы, а нават і акадэмічныя бязбожныя выданьні, самою-ж савецкаю прэсаю крытукуюцца, як моцна нездавальняючыя. Напрыклад кнігу Карлюка «Реакционная сущность физическаго идеализма», выданную Акад. Нав. БССР газэта «Советская Белоруссия» назвала «няўдачнаю кнігаю па філясофскім пытаньням фізыкі».

Але як заўсёды, так і цяпер бязбожная савецкая прапаганда вызначаецца вострым супрацькаталіцкім характарам. Напрыклад «Звязда» з 5. 1. 55 паўтарыла ўжо няма ведама каторы раз, што «Адным з найбольш злосных ворагаў навукі зьяўляецца Ватыкан». Пару тыдняў пасьля, яна зноў пісала: «Ватыкан — зброя рэакцыі» і так без канца. На пачатку студзеня Менская дзяржаўная бібліятэка ладзіла выстаўку навуковаатэістычнае літаратуры — асноўную масу гэтае «літаратуры» складалі расейскія творы, а брашуры ў беларускай мове ў аграмаднай большасьці ёсьць перакладамі.

### Макулатура сіламоц у рукі

На колькі апастыла народу бальшавіцкая прапаганда можна бачыць з гандлю савецкімі кнігамі — іх апошнім часам нават і на паперу для папяросаў купляць ня хочуць, дзела гэтага некаторыя крамнікі сіламоц намагаюцца ўціснуць іх у руку купцом. Напрыклад у фэльетоне «Чаравікі з нагрузкаю» «Звязда» з 11. 1. 55 апавядае, што ў Камянецкім раёне крамнік прымусова даваў кожнаму, хто купляў цукар ці прамысловыя тавары так-жа якуюсь савецкую кнігу.

### Адзін млын на цэлы раён

Савецкая прэса ведамая на ўвесь сьвет з свайго самахвальства рознымі асягненьнямі. Асабліва яна шмат гаворыць аб асягненьнях індустрыялізацыі. Але вось у так расхвалена індустрыялізаванай краіне калгасьнікі Тураўскага раёну пытаюцца ў рэдактароў газэты «Звязда» 12. 1. 1955: «Дзе змалоць збожжа?», бо выяўляецца, што ў раёне з ранейшых дзясятка млыноў астаўся толькі адзін. Рэдакцыя ліст калгасьнікаў зьмясьціла, але рады ім ніякае не дала.

### Галодныя працадні

Былі і ёсьць на сьвеце вельмі жарстокія эксплаататарскія сыстэмы кіраўніцтва, але ящчэ нідзе ня чувана, каб змушалі людзей працаваць зусім задарма — аднак гэткія жудасныя выпадкі эксплаатацыі практыкуюць бальшавікі. Падобныя выпадкі яны стараюцца хаваць, аднак часам праз стальныя цуглі цэнзуры няўпрыцям прарываецца колькі слоў праўды. І вось з самое-ж савецкае прэсы можна даведацца, што ў некаторых калгасах на Беларусі калгасьнікі працуюць зусім за дарма, не атрымоўваючы за свае працадні **абсалютна нічога.** Напрыклад у апавяданьні «Ізюмінка» («Звязда» 15. XII. 54, Нр. 296) у дакладна не азначаным калгасе Віцебскае вобл. калгасьнікі кажуць новаму старшыні: «Мы ўжо досыць наслухаліся прамоваў і абяцанак, а на працадзень пакуль атрымліваем нуль цэлых і нуль дзесятых». Тая-ж «Звязда» сёлета падала весткі, што ў калгасе «17 верасьня» раён Шаркаўшчына: «Прыходзіць зіма, і раптам высьвятляецца, што кармоў для жывёлы не хапае, а збажыну, якую склалі да часу ў сьціртры, мышы змалацілі, на працадні выдаваць няма чаго». Вось і «шчасьлівае багатае» жыцьцё, калі для свайго пражыцьця калгасьнікі маюць толькі невялічкі агарод пры хаце. Зразумела, што гэткіх калгасаў бальшавікі не паказваюць ніякім замежным госьцям.

### З жалобнае карты айцоў Марыянаў

Свайго часу ў «Божым шляхам» паведамлялася аб сумнай долі беларускіх айцоў Марыянаў, якія трапілі ў рукі камуністаў у 1948 г. Нядаўна дайшлі больш дакладныя весткі, але ящчэ больш сумныя. Кіраўнік ўсходняе Місіі айцоў Марыянаў у Харбіне і былы гэнэрал айцоў Марыянаў Я. Э. Андрэй Цікота, памёр ад зьнясіленьня і мукаў 21 лютага 1952 году ў савецкім канцэнтрацыйным лягэры ў ваколіцах Караганды. Дня 21 сакавіка 1955 г. памёр а. Антось Падзява ў Скурцу каля Седльцаў (Польшча). Ён быў выселены разам з іншымі беларускімі марыянамі польскаю ўладаю ў 1938 г. за беларускую працу сярод беларускіх дзяцей і ад таго часу пражываў у Польшчы. Брат пакойнага, так-жа сьвятар, знайходзіцца ў савецкім лягэры прымусовае працы.

## АНГЛІЯ

### З дзейнасьці БАКА «Рунь».

Ад імені Беларускага Акадэмічнага Каталіцкага Аб'еднаньня «Рунь» 27 сакавіка а. д-р Ч. Сіповіч меў у Вэстмінстэрскай катэдральнай галі даклад на тэму «Рэлігія за зялезнай заслонай».

Дакладчык ілюстраваў свой зьмястоўны даклад высьвятленьнем шматлікіх аўтэнтычных дакумантаў. На прысутных даклад зрабіў незабыўнае ўражэньне.

**БЭЛЬГІЯ**

**Згуртаваньне Беларускіх Камбатантаў** у Бэльгіі мела 9 студзеня ў Лювэне Агульны Зьезд з справаздачаю аб прарobленай працы і выбарам новае ўправы.

**ГІШПАНІЯ**

**«Вы не забытыя!»**

Гішпанская каталіцкая арганізацыя «Аліянца дэль крэдо» ладзіла падчас Калядных сьвятаў перадачу праз радыё пасланьня гішпанскага народу да ўсіх народаў за зялезнаю заслонаю ў роднай мове кожнага з гэтых народаў. Перадаваліся яны праз радыёстанцыю Барцэлёна. Зьмест пасланьняў быў глыбокарэлігійны і падбадзёруючы. Беззасьцярожнаю шчырасьцю веяла ад кожнага слова спікера, калі ён зьвяртаўся да беларускага народу: «...Мы ведаем веліч вашае пробы, цалуем вашыя кайданы і вашыя раны. З асаблівай ўвагаю аддаём пашану вашым біскупам і сьвятаром, якія сярод вас і разам з вамі цярпяць паніжэньне і зьдзекі. І ад шчырага сэрца высылаем таксама нашае братняе пасланьне тым, што не належаць да Каталіцкае Царквы, але цярпяць разам з вамі за імя Хрыста... Вы не забытыя!... Браты Беларусы, будзьце непахіснымі ў вашай веры! Перамага — перамога Любові ёсьць ваша. Бо «вароты пякельныя не перамогуць» — сказаў Хрыстос»... На заканчэньне аўдыцыі адаграна з дыскаў песьню «Магутны Божа», а пасьля хор з радыёстанцыі Барцэлёна адсьпяваў беларускую калядку «Ночка ціхая зарыста».

Сапраўды гішпанскае радыё не забывае Беларусі. За кароткі час некалькі разоў перадаваліся беларускія радыёаўдыцыі. Гішпанскае Нацыянальнае Радыё 22. XII. 54 перадавала беларускія калядкі, а 25. XII. 54 спэцыяльную беларускую аўдыцыю з Мадрыду. Радыёстанцыя SEU 26. III. 55 перадавала канцэрт беларускіх песьняў, а 29. III адкрыты ліст да беларусаў.

**Канцэрт беларускае музыкі**

На просьбу шматлікіх студэнтаў з розных мадрыдзкіх калегіяў і інтэрнатаў беларускія студэнты ў Мадрыдзе ладзілі канцэрты беларускае песьні і музыкі з грамафонных плітак. Такія канцэрты адбыліся ў паасобных калегіях 6-га студзеня, 23 студзеня, 6 лютага і 10 лютага, здабываючы ўсюды вялікую папулярнасьць.

**Даклад**

У сэмінары Сучасных Праблемаў пры Мадрыдзкім унівэрсытэце 26 лютага Я. Сурвіла, студэнт факультэту палітыкі і эканоміі прачытаў вельмі зьмястоўны даклад на тэму «Беларусь і праблема эўрапэйскага фэдэралізму», выклікаючы ў прысутных агульнае зацікаўленьне да парушанае тэмы агулам і да беларускае праблемы ў асаблівасьці. Выявілася гэта ў ажыўленай амаль двохгадзіннай дыскусіі.

**З.Ш.А.**

У Інтэрнацыянальным Клюбе ў **Калюмбіі** інж. А. Асоўскі меў некалькі рэфэратаў аб Беларусі, выклікаючы агульнае зацікаўленьне ў слухачоў да нашае бацькаўшчыны.

**Беларускі Інстытут Навукі і Мастацтва** ў Нью Ёрку на сваім Агульным Зьезьдзе 12 сакавіка правёў крытычны агляд дзейнасьці за два мінулыя гады і, абмеркаваўшы плян працы на будучыню, перавыбраў управу.

**НЯМЕЧЧЫНА**

**Канцэрты**

Беларускі Студэнцкі Ансамбль пад кіраўніцтвам К. Кіслага супольна з праф. Ал. Карповічам, опэрнаю сьпявачкаю Б. Вержбаловіч і баяністкаю Г. Ганчарэнка даді тры канцэрты ў Зах. Нямеччыне. Першы 11 лютага ў салі Бонскага унівэрсытэту і два 12 лютага ў Кэльне; адзін для афіцэраў бэльгійскае арміі і другі для жаўнераў тае-ж арміі. Усюды канцэрты зрабілі вельмі глыбокае ўражэньне на слухачоў, аб гэтым сьведчылі і доўганезмаўкаючыя воплескі і артыкулы ў бонскай прэсе так аб самых канцэртах, як і аб беларускай песьні агулам.

# На кніжнай паліцы

*Vacłau Panucevič, Zamojdź i Litva. Roznyja krainy i narody.* Tom I. Chicago 1953/54. star. 383, f. 8°.

Колькіразовая зьмена нашага нацыянальнага назову і зьвязаная з гэтым блытаніна ў гістарычных актах адбіваецца вельмі некарысна ў беларускай гісторыяграфіі. Нашы суседзі ад даўна выкарыстоўваюць гэтую абставіну на нашу шкоду. Дзеля гэтага карпатлівая праца Пануцэвіча ёсьць вельмі на часе. У сьвятле ягоных досьледаў стаецца больш ведамым загадкавае да гэтага часу славянскае племя Люцічаў і адначасна стае больш ведамым ягоны ўдзел у тварэньні Вялікага Літоўскага Княства. Аўтар выкарыстаў у сваіх досьледах даволі багаты бібліяграфічны матэрыял, даючы праз гэта салiднае абаснаваньне сваім выснаўкам. Аднак неабходна заўважыць, што аднасна парушанае тэмы апошнім часам зья-

вілася шмат новага археалягічнага матэрыялу ў зьвязку з сучаснымі раскопкамі на абшары Беларусі, Летувы і Прусіі. Амаль цэлы 52 Выпуск «Кратк. Сообщ., Инст. Ист. Мат. Культ. Акад. Наук СССР» з 1952 г. прысьвечаны археалёгіі Прыбалтыкі. Нямала ёсьць так-жа артыкулаў на гэтую тэму ў іншых выпусках гэтага выданьня, якія, не зважаючы на іх паходжаньне, варты каб былі выкарыстаны ў наступных томах гэтае вартаснае працы.

**Л. Г.**

**Часлаў Будзыка, Кніжка аб Івашку Гарнастаю.** Том першы. 1955, стар. VII-423, ф. 8°.

Гэта ўласьціва кніжка не аб Івашку Гарнастаю, як кажацца ў загалоўку, але зборнік дакумантаў з часоў пісарства Івашка Гарнастая пры вялікім князю і каралю. Бязумоўна, што на эміграцыі нельга чакаць ад аўтара, які ня мае доступу да старых дзяржаўных архіваў, выданьня якіхсьці новых дакумантаў. Апублікованая праца ёсьць толькі перавыданьнем дакумантаў апублікаваных ўжо перш у розных старых выдавецтвах. Але таму, што гэта ёсьць збор рэсьцярушаных і нават мала даступных дакумантаў, якія сабраныя разам даюць магчымасьць адтварыць абраз жыцьця нашае бацькаўшчыны ў XVI веку, гэтым аўтар зрабіў немалую прыслугу для дасьледнікаў старое беларускае гісторыі. Шкада толькі, што аўтар «усучасьніў правапіс» дакумантаў, бо-ж і правапіс зьяўляецца дакумантам свайго часу.

**Пр. К.**

**Стахій Стэблецький, Переслідування Української і Білоруської Католицької Церкви російськими царями.** Мюнхен 1954, стар. 103, ф. 8°.

На гэтую тэму ў мінулым стагодзьдзі было зьявілася шмат розных публікацыяў, але часта з тэндэнцыйным асьвятленьнем падзеяў. Дзеля гэтага думку аўтара адсьвяжыць у памяці падзеі з мінулых стагодзьдзяў у зьвязку з сучасным палажэньнем, трэба прывітаць як вельмі актуальную. Аўтар меў на мэце акрамя ведамых фактаў, зьвярнуць асаблівую ўвагу на менш ведамыя факты і такіх пару падзеяў пастараўся знайсьці. Кніжка апрацавана папулярна. Нажаль самая апрацоўка вельмі павярхоўная. Невялікае абыймо кніжкі аўтар пабольшвае штучна — амаль палавіну яе займаюць ілюстрацыі і пустыя старонкі, што вельмі кідаецца ў вочы. Да таго сам зьмест гэтае невялікае кніжкі шырэйшы чым зазначана ў назове і абыймае дапрасьледаваны пэрыяд і пэрыяд сучасных расейскіх валадароў.

Акрамя гэтых няспраўнасьцяў агульнага характару ў кніжцы ёсьць нямала недакладнасьцяў і памылак. Магілёўская праваслаўная епархія была ўтворана за доўга да Кацярыны II, ў 1632 г., а ў 1797 г. была ўзьнята да годнасьці архіепархіі незалежна ад вуніяцкае мітраполіі (с. 44). Праўда старaньні скасаваньня вуніяцкае мітраполіі былі, але ўвесь час мітрапалітам быў Тэадозі Растоцкі (1787-1805). Пры тым неабсаджаньне мітраполіі і нават унемагчымліваньне выконваньня свайго ўраду, яшчэ не азначае скасаванньня.

Агульна ведама, што Кацярына II дазволіла езуітам існаваць на абшары свае імпэрыі пасьля 1773 г., але з таго часу ня ведама ніводнага езуіцкага манастыра на Украіне (с. 45). Езуіцкія манастыры ў тым часе былі толькі на Беларусі, у Галіцыі-ж езуіцкія манастыры былі разьвязаны як і ўва ўсёй Аўстра-Вугорскай імпэрыі.

Першая забарона, якую выдала Кацярына II, каталікам вяртацца ў каталіцызм пасьля насільнага наверненьня на праваслаўе, зьявілася не ў 1779 г. а ў 1794 г. і адноўлена яна была ня ў 1883 г., а ў 1830 р. (с. 61).

Сьпіс сьвятароў на с. 68 нібы сасланых у Сібір, у сапраўднасьці ёсьць сьпісам сьвятароў сасланых у манастыры ў цянтр Расеі. Заўвага да сьпісу ўзята не з якоесь «хронікі», а ёсьць зацемкаю Магілёўскага каталіцкага мітр. Галавінскага з 1856 г., дададзеная да сьпісу ведамых яму 76 вуніяцкіх сьвятароў, якія яшчэ ў тым часе былі на сасланьні ў манастырох.

Крыніцы, якімі карыстаўся аўтар пры апрацаваньні свае кніжкі, ёсьць вельмі невялічкія, як аб гэтым сьведчыць сьпіс бібліяграфіі, паданы ўканцы кнігі. Але і ў тым сьпісе ёсьць недакладнасьці. Напрыклад «Acta Sedis Apostolicae 1823-1864» гэта няіснуючы твор. Падобная з назову пэрыядычная публікацыя Acta Apostolicae Sedis пачала выходзіць толькі ад 1909 г., а перадтым напоўафіцыяльная публікацыя Апостальскага Пасаду выходзіла ад 1865 г.

Аб прасьледаваньнях беларускае Каталіцкае Царквы лацінскага абраду амаль зусім нічога не ўспамінаецца.

**а. Л. Г.**

## НА ВЫДАВЕЦТВА «БОЖЫМ ШЛЯХАМ»

апошнім часам прыслалі: (Сумы паданы ў француcкіх франках): Антановіч А. 500, Бандароўскі В. 1000, Бобако Л. 500, Булыга М. 400, Варабей К. 350, Гасьцееў Ю. 500, д-р Гр-іч С. 1704, Гл-кі Я. 350, Дунец Ул. (група Клевэлянд) 3428, Емельячык С. 500, Каз-ая 500, Лобач І. 700, Мі-іч В. 930, Нагорны Б. 400, Падэрна Я. 350, Рагалевіч А. 500, Рашкевіч Ф. 500, Сімановіч М. 500, д-р Ся-а У. 700, Ста-іч Д. 700, Тараракo С. 500, Тат-віч С. 1000, Хорват С. 500, Чарнэцкі Я. 700, Юрчык Р. 50, Янчэнко П. 500, Яцкевіч Г. 500, Яцкевіч Д. (група Аўстралія) 2274, Каранеўскі М. (група Новая Зэляндія) 3.700, а Ч. Сіповіч (група Англія) 8.000.

Impr. de Navarre, 11, rue des Cordelières, Paris.

Directeur : Abbé L. Horosco.

# Абразкі з жыцьця

## САПРАЎДЫ ВЯЛІКОДНАЯ РАДАСЬЦЬ

У в. Васіліны Пастаўскага пав. у 1938 г. частка сьведамае беларускае моладзі пастанавіла, каб на першы дзень Вялікадня не рабіць ігрышча і ня піць гарэлкі, а на мейсца гэтага ўсяго пасьвяціць першы вялікодны дзень для бедных, старых, сіратаў і калекаў, аддаючы ім частку тэй ежы, каторая была падрыхтована на сьвята для сябе. Да гэтае пастановы далучылася шмат моладзі, як дзяўчат, так і хлапцоў. Яны выбралі сярод сябе прадстаўнікоў і даручылі ім наладзіць гэтую справу. З якою шчыраю радасьцю бедныя і цярпячы спатыкалі моладзь, якая ім разносіла дарункі і колькі было ўдзячнасьці за іхныя ахвяры, дык проста гэтага ўсяго нельга выказаць словамі.

«Хрысьціянская Думка» Нр. 16 (164) з 1938 г.

## ШЧЫРАЯ ДЗІЦЯЧАЯ ЛЮБОЎ

Айцец Уладзімер С., вярнуўшыся з дому адпачынку для школьных дзяцей, дзе ён быў душпастырам, доўга ня можа знайсьці супакою, дык ідзе за свайго сябры. Той, глянуўшы на аблічча а. Уладзімера зжахнуўся:

— Што з табою сталася?

— Са мною асабіста нічога ня сталася, але вось сёньня мне давялося ў доме адпачынку перажыць такое ўзрушэньне, якога я яшчэ ня меў ніколі.

— Відаць па табе.

— Ведаеш, там у доме адпачынку ёсьць некалькі вучаніцаў, якіх маткі жывуць бяспутна. І вось сёньня — гэта быў апошні дзень прабываньня вучаніцаў у тым доме — пасьля Службы Божае прыходзіць да мяне дванаццацігадовая дзяўчынка з анельска чыстым абліччам і пасьля кароткае гутаркі аб бяспутным жыцьці свае маці, кажа, што пастанавіла ахвяраваць сваё жыцьцё за збаўленьне душы свае мамы і просіць багаславіць яе на сьмерць, на ўсякую сьмерць, якую толькі добры Бог будзе ласкаў ёй пасладаць. Я пытаўся: «Хто ёй даў тадую раду?» А яна кажа: «Хрыстос на крыжы»...

У сьвятароў на вачох былі сьлёзы. Потым яны даведаліся, што шчырую ахвяру дзяўчынкі Бог прыняў і выслухаў яе просьбу.

## ВЫЗНАНЬНЕ ВЕРЫ МАСТАКА

Выдатны нямецкі мастак пэйзажыст Ганс Тома (1839-1924) незадоўга перад сьмерцю пісаў: «Я змучаны і з тугою чакаю адыходу з гэтага сьвету да вечнага супакою, які мне хутка будзе прызначаны. Да яго я йду ні радасна, ні сумна, але ў поўнай надзеі на Божую айцоўскую дабрату. Ён, што ня пытаючы мяне, пусьціў мяне на гэты заблытаны сьвет, напэўна ведае: чаму? Я веру ў супольнасьць сьвятых і вечнае жыцьцё».

## ЗНАК З НЕБА

Восем гадоў пасьля абвешчаньня догмы непарочнага пачацьця Богамаці, гэта значыць у 1862 г. пратэстанцкі нямецкі вучоны Бікэль езьдзіў спэцыяльна ў Лёндан, каб там у бібліятэцы Брытыйскага Музэю перапісаць так званыя нізібэнскія песьні сьв. Яфрэма Сірыйскага (306-378). Падчас падарожжа вучонаму прыйшла думка: «Калі я ў гэтых старых пісаньнях знайду штосьці аб непарочным зачацьці, дык гэта будзе для мяне знакам, што Каталіцкая Царква праз усе стагодзьдзі вуцыць пэўную праўду!» У творах сьв. Ефрэма ён хутка знайшоў тое мейсца, дзе сьвяты зьвяртаецца да Хрыста: «Ты і Твая Маці, вы адзіныя поўнасьцю прыгожыя; бо ў Табе, о Госпадзе, няма ніякае плямы і ў Тваё Маці ніякае заганы» (Вершы Нізіб. 27, 8). Вучоны знайшоў тое, чаго шукаў і стаўся каталікам, а праз пяць гадоў ён, як нававысьвячаны сьвятар адпраўляў сваю першую Службу Божую у Фульдзе.

## ТРАПНАЕ ПЫТАНЬНЕ

Адзін вальнадумец, начытаўшыся бязбожных кніжак, вандраваў ад гораду да гораду і чытаў супрацьрэлігійныя даклады. Пасьля дакладу ён заўсёды зьвяртаўся да слухачоў з запытаньнем, ці ёсьць між імі такі, што можа абвергнуць ягоныя цьверджаньні. Звычайна слухачамі былі бязбожнікі і ніхто з іх ня выступаў супраць дакладчыка. Але аднойчы між слухачамі знайшоўся просты, але шчыра веруючы чалавек, які замест доўгага абвяржэньня зьвярнуўся да дакладчыка з запытаньнем: «Колькі людзей вы зрабілі лепшымі праз свае даклады?» Дакладчык бязрадна маўчаў. Тады просты чалавек дадаў да свайго запытаньня: «А я магу вам пералічыць цэлы рад людзей з нашае ваколіцы, якія стаўшыся веруючымі хрысьціянамі, пакінулі сваё ранейшые грэшнае і бяспутнае жыцьцё».

Вальнадумец больш ня важыўся ладзіць сваіх бязбожных дакладаў.

---

## ПОШУКІ

Уладзімер **Шульжыцкі** шукае сваяка **Цітовіча,** родам са Смаргоні, які ў 1942/44 гадох быў у Нямеччыне і потым выехаў у Бразілію. Весткі просіцца слаць у рэдакцыю.

# ЗЬМЕСТ